ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

19 снежня 1997 г. № 51/3927 Кошт 3 000 руб.





Нашым продкам ды іхнім учынкам — дало б рады хіба Шэкспірава пяро...

Аляксей Дудараў, па-свойму спанатраны ў пераказах Шэкспіра, Валерый Раеўскі, па-свойму налаўчоны ў пастаноўках Шэкспіра, вывелі на сцэну Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы "Князя Вітаўта". Чараду падзей нашай мінуўшчыны і чараду ўдзельнікаў гэтых падзей. Меліся быць прадстаўленым дзесяцігоддзе — між 1380 і 1390; на самай справе ўсё апанавалі адвечныя жарсці чалавечыя і заўжды сучасныя жарсці дзяржаўныя — вакол улады, абавязку, кахання і нават Бога. Апанавалі так пераканаўча, так імпэтна, так рамантычна, што "Князь Вітаўт", безумоўна, сам стаўся падзеяй — ужо тэатральнай.

На студзеньскія паказы разабраны ўсе квіткі. Купалаўскі тэатр перажывае свае чарговыя аншлагі і, як выявілася, каторы раз ужо не ў стане здаволіць прагны попыт... на ўласную гісторыю!

*На здымку: Генадзь Давыдзька (Вітаўт) і Валянцін Белахвосцік (Кейстут).*

Фота Яўгена КОКТЫША

ЮБІЛЕЙ

# Эфір — наша любоў

У гэтыя дні адзіная ў нашай краіне кафедра тэлебачання і радыёвяшчання Беларускага дзяржаўнага універсітэта адзначае сваё трыццацігоддзе. Яна ўзнікла ў 1967 годзе. Мінулыя трыццаць год сталі часам заснавання і развіцця беларускай навукі аб радыёвяшчанні і тэлебачанні, навукі, якая надала новым сродкам масавай інфармацыі статус грамадзянства ў вышэйшай школе, статус вучэбнай дысцыпліны, статус журналісцкай спецыялізацыі.

Першы, хто павёў кафедру ў свет навукі, стаў яе кіраўніком, быў дацэнт М. Дастанка, былы рэдактар партызанскай газеты, карэспандэнт Беларускага і Усесаюзнага радыё, чалавек спагадлівы, добры, памяркоўны. Яго паплечнікамі сталі Л. Шылава, В. Шэін, А. Плаўнік — першыя выкладчыкі кафедры, якія цяпер дасягнулі чалавечай і прафесійнай сталасці, працуюць і зараз з маладой энергіяй і натхненнем. Лабараторыю РТ з яе тэле- і радыёабсталяваннем арганізоўваў першы яе загадчык Р. Жураўлёў, палкоўнік у адстаўцы, які прайшоў вайну і прызнаваўся, што найбольшыя складанасці і стрэсы зведаў не на фронце, а на факультэце, дзе трэба было ледзь не з паветра здабываць апаратуру для вучэбных заняткаў. Дарэчы, і цяпер гэтая задача — найцяжэйшая...

З якім жа творчым здабыткам прыйшла кафедра РТ да свайго трыццацігоддзя? Па-першае, гэта дзесяткі дысертацый (у тым ліку адна доктарская), у якіх прааналізавана гісторыя развіцця айчыннага радыёвяшчання і тэлебачання, іх узаемаўплыў на сучаснае грамадства, на яго соцыум і культуру. Па-другое, гэта сотні журналістаў, якія сёння з поспехам працуюць у сродках масавай інфармацыі Беларусі і далёка за яе межамі. Патрэцяе, гэта сістэма падрыхтоўкі кадраў для тэлебачання і радыёвяшчання, якая грунтуецца на глыбокім вывучэнні асноўных гуманітарных дысцыплін, у тым ліку роднай мовы і літаратуры як першаснай прафесійнага майстэрства тэле- і радыёжурналістаў.

Эфір — так завецца прастора нашага існавання ў прафесіі. Эфір — нешта празрыстае, бязважкае, нябачнае. І ў той час — надзіва блізкае, адчувальнае, амаль матэрыяльнае. Выпускнікі нашы, паводле вядомай метафары, праз гэты эфір уваходзяць у кожны дом, у кожную сям'ю, робячыся блізкімі шырокай масе радыёслухачоў і тэлегледачоў. Аднак яны не маюць права тым фанабэрыцца, бо разумеюць: у нябачным і бязважкім эфіры няма мяжы самаўдасканаленню і прафесійнаму росту. А задач, праблем, вострых пытанняў, якія трэба давесці да шырокай аўдыторыі, — безліч. Радыё і тэлебачанне, як некалі "вакзалы, пошты і тэлеграф", перш-наперш імкнуцца зацугляць кожны, хто прагне ўлады, бо гэта — найкарацейшы і найпрасцейшы шлях да сэрцаў і розуму людзей.

Не сагнуцца пад цяжкай рукой уладароў свету, не здрадзіць ідэалам праўды і свабоды, на стаць прыслужнікамі ні пыхлівага чынавенства, ні фінансавых тузоў! Вядома, не ўсе вытрымліваюць выпрабаванні. Аднак большасць (і гэта апраўдвае працу нашу і ўсе нашы намаганні) — сярод тых, хто не ламаецца нават у самых цяжкіх умовах, хто ведае, што гонар сумленнага журналіста вышэй за ўсякія спакусы.

**Яўген РАДКЕВІЧ,**
**прафесар**
**кафедры тэлебачання**
**і раыёвяшчання БДУ**

ФЕСТЫВАЛІ

# З'ехаліся ў Гомель музыкі

Ужо чацвёрты раз праходзіць у Гомелі фестываль лаўрэатаў міжнародных і рэспубліканскіх конкурсаў выканаўцаў на народных інструментах. Яго ладкуе Гомельскі каледж мастацтваў імя Н. Сакалоўскага пры падтрымцы Міністэрства культуры, Беларускай акадэміі музыкі ды абласнога ўпраўлення культуры.

Тры дні (17—19 снежня) распісаныя па гадзінах: канцэрты, праслухоўванні вучэбных калектываў ды індывідуальных выканаўцаў, адкрытыя ўрокі, пасяджэнні удзельнікаў навукова-практычнай канферэнцыі...

Паводле інфармацыі, якую атрымаў "ЛіМ" ад дырэктара каледжа Эдуарда Кірыленкі, сярод удзельнікаў канцэртных праграм такія выдатныя беларускія выканаўцы і педагогі, як баяніст Мікалай Сеўрукоў, дамрыст Мікалай Марэцкі, акардзаністка Ірына Яраш, балалаечніца Марына Ільіна, маладыя лаўрэаты Аляксандр Пылік (баян), Кацярына Анохіна (цымбалы), Наталля Змітровіч (мандаліна), Максім Ракач (акардэон) ды інш.

Завіталі ў Гомель і "Віртуозы Віцебска" — актэт балалаек пад кіраўніцтвам Тамары Шафранавай, і аркестр народных інструментаў Маладзечанскага музычнага вучылішча імя М. Кл. Агінскага пад кіраўніцтвам Тамары Бяльковай. Творчыя справаздачы падрыхтавалі музыканты каледжа: Квартэт баяністаў пад кіраўніцтвам Барыса Давыдава, баянны аркестр пад кіраўніцтвам Уладзіміра Баглая, народны цымбальны аркестр на чале з Уладзімірам Іванковым ды ансамбль народных інструментаў пад кіраўніцтвам Уладзіміра Птушанёнка.

Сёння ўвечары — заключны канцэрт і ўрачыстае закрыццё фестывалю.

# "Анёл" у храме

Падчас адвэнту ў Чырвоным касцёле спавядаліся Вайніловічы... На вуліцы мацнеў мароз, а ў Храме спаквапя раскрываліся душы некалі багатай, знатнай шляхты...

Як і не было амаль сто гадоў, хіба што нечуваны цяпер гэткі гонар за свой род ды годная адказнасць перад Богам і сваёй сям'ёю.

Трапяталіся жывыя сэрцайкі Сымонкі, які так і не паспеў саграўшыць, і Аленкі, што з дзяцінства мела надта тонкую і ўражлівую натуру... Пякучы боль за смерць дзяцей трывожыў галаву сям'і Эдварда і яго жонку Алімпію, што з Узлоўскіх... Ні слова нараканняў на лёс, ні ўздыху адчаю, толькі цярпенне і вера... І рашэнне: пасля смерці дзяцей мэта існавання на зямлі — пабудова Храма, узнёслася абрысаў якога адольвала б недавер у людзях. Цяжка, з бязліччу перашкодаў, але ўзнесліся ўвысь вежы Касцёла. І паднялася да нябёсаў душа самога Храма. Не раз прыйдзецца ёй заломваць рукі ў хвіліны адчаю, трымаючы паядынак з самой смерцю. Усё перажыве. Выцерпіць. Адолее. І зямны супраціў, і нязгоду апраметнай.

Гэта — гісторыя. Жывая для нас дзякуючы таленавітай пастаноўцы Наталлі Міцкевіч і выкананню студэнтаў Беларускага універсітэта культуры.

12, 13, 14 снежня духоўны тэатр "Анёл" ставіў у Дольнай зале Чырвонага Касцёла містэрыю "Храм" — духоўную споведзь, прысвечаную 150-годдзю з дня нараджэння заснавальніка, фундатара касцёла Эдварда Вайніловіча, у гонар дзяцей якога Сымона і Алены і была пабудавана святыня, што ў цэнтры Мінска.

Удала падабраная музыка, пераможныя, урачыстыя рытмы якой змяняліся неспакойнымі, трывожнымі ноткамі, і тут жа — светлай інтанацыяй палёту дапаўнялася адпаведным асвятленнем — то чырвоным, як сімвалам барацьбы, энергіі, напружанага жыцця, то блакітным — увасабленнем чысціні, цнатлівасці, усяго нябеснага, высокага, а то адзінокім праменьчыкам святла — напэўна, пратаптыпам касмічнай адзіноты ўсялякай душы, усялякай індывідуальнасці...

А яшчэ былі белыя крылы анёлаў, адзін з якіх напрыканцы спектакля паклікаў за сабой пробашча касцёла кс. Уладзіслава Завальнюка.

Што і казаць, уражанне незабыўнае. Рацыянальна ўспрымаць і аналізаваць тут цяжка. Ды і ці патрэбна... Ачышчэнне і ўзвышэнне гледачоў адбывалася праз судакрананне з чыстымі душамі тых, хто спавядаўся, — Вайніловічаў, праз цесную, блізкую сустрэчу з імі. "Душа нябесная супакойвала і ўратоўвала душу зямную"...

**Л. УЛАДЫКОЎСКАЯ-КАНАПЛЯНІК**

ВЫСТАВЫ

# Паэзія думкі

"Паэзія думкі і таемнасць сэнсу" — так называецца выстава, якая адкрылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. У экспазіцыі, прысвечанай 50-годдзю Алеся Разанава, больш як 200 матэрыялаў, сярод якіх творы самога пісьменніка, выдадзеныя асобнымі зборнікамі: "Адраджэнне" (1970), "Назаўжды" (1974), "Каардынаты быцця" (1976), "Шлях-360" (1981), "Вастрыё стралы" (1988), зборнік "Дзверы" выдадзены разам з Надзеяй Артымовіч у Беластоку ў 1994 г. Шырока прадстаўлены публікацыі твораў ад першых да апошніх — у зборніках і часопісах "Беларусь", "Родная мова", "Нёман", "Маладосць", "Полымя", "Першацвет" і інш. Цікавасць у чытачоў выклікаюць шматлікія выданні твораў юбіляра ў перакладах на розныя мовы свету: рускую, украінскую, польскую, балгарскую, англійскую, нямецкую, грузінскую, літоўскую, латышскую. Тут можна пазнаёміцца і з Разанавым-перакладчыкам, рэдактарам, укладальнікам.



Пра жыццё, творчы шлях паэта-наватара і яго грамадскую дзейнасць раскажуць матэрыялы, змешчаныя ў апошнім раздзеле выставы. "І верад свой я ў слова перакладу...", — так сказаў паэт аб сабе і сваёй творчасці. Чытачы пазнаёмяцца з філасофскім успрыманнем свету А. Разанавым, неардынарнасцю яго мыслення, яскравым самавыяўленнем у творах.

Выстава багата ілюстравана фотаздымкамі розных гадоў.

**Р. КАЗЮЧЫЦ**
*Фота К. ДРОБАВА*

ТРАДЫЦЫІ

# Класіка з авангардам

У Віцебску адзначылі 95-годдзе з дня нараджэння вядомага земляка — Івана Салярцінскага. Быў урачысты канцэрт у музычным вучылішчы, якое з нядаўняга часу носіць яго імя. І канцэрт гэты стаўся уверцюрай традыцыйнага, ужо дзевятага, музычнага фестывалю імя І. Салярцінскага.

Фестываль сёлета быў досыць працяглы і, як заўсёды, прадстаўнічы. Размова пра яго на старонках "ЛіМа" працягнецца ўжо ў наступным годзе. Бо пагаварыць ёсць пра што: навукоўцы ды крытыкі, мастакі ды музыканты-выканаўцы, добрыя сябры ды новыя госці рабілі атмасферу фестывалю пазнавальнай, святочнай, эстэтычна ды інфармацыйна разнастайнай. Даўняя беларуская і заходнееўрапейская музыка, прэм'еры зусім свежых твораў, знаёмствы, планы... У фестывальным Віцебску сышліся дарогі сталых ды юных артыстаў з Германіі, Канады, Расіі, Швейцарыі, Беларусі. Без малога два тыдні (3—4 ды 8—14 снежня, з перапынкам, утвораным на час правядзення фестывалю харзагарфіі) канцэртаў, творчых стасункаў, захопленых размоў...

**С. Б.**

ВІНШУЕМ!

# Лаўрэаты "Крыніцы"

Па традыцыі, напярэдадні Новага года названы аўтары лепшых сёлетніх публікацый "Крыніцы". Лаўрэатамі часопіса 1997 года ў традыцыйных чатырох намінацыях сталі:

**Проза** — Язэп Палубятка: за аповесць "Вайсковае Евангелле".

**Паэзія** — Юрась Пацюпа: за нізку вершаў "Заўсёды восень".

**Драматургія** — Мікола Арахоўскі: за п'есу "Лабірынт" (пасмяротна).

**Культуралогія** — Юрась Барысевіч: за артыкул "Чарга".

ДРУК

# Гэта наша гісторыя

Можна па-рознаму ставіцца да ўдакладненняў, што з'яўляюцца апошнім часам у "Энцыклапедыі гісторыі Беларусі", якую прадаўжае выпускаць выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" імя Петруся Броўкі, але ўсё адно кожны чарговы том чакаецца з нецярпеннем. Бо дзе яшчэ знойдзеш столькі звестак, якія тычацца нацыянальнай даўніны, людзей, якія жылі ў розныя часы, вялікіх і малых падзей? Чарговы, чацвёрты том 6-томніка, які нядаўна пабачыў свет, таксама не выключэнне. Праўда, у параўнанні з папярэднімі ён аказаўся крыху меншы па аб'ёме — каля 85 улікова-выдавецкіх аркушаў. Як патлумачылі ў выдавецтве, гэта атрымалася па тэхнічных прычынах, і ў наступных тамах "недаданае" тут будзе навёрстана.

Том ахоплівае матэрыялы ў прамежку слоў "кадэты" — "Ляшчэня". Кадэты, як вядома, канстытуцыйна-дэмакратычная партыя, партыя "народнай свабоды", якая была арганізацыйна аформлена ў рэвалюцыю 1905—1907 гадоў, а Сяргей Ляшчэня — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў патрыятычнага падполля і партызанскага руху на тэрыторыі Мінскай і Палескай абласцей у Вялікую Айчынную вайну.

Як бачым, і гэтая старонка ў жыцці беларускага народа не абыдзена, змешчана нямала матэрыялаў, якія тычацца розных аспектаў змагання з фашысцкімі захопнікамі.

Шмат матэрыялаў, адраджэнскага зместу. Для прыкладу, змешчаны грунтоўныя артыкулы пра Кастуся Каліноўскага, Яўхіма Карскага, а поруч — персаналіі Вітаўта Кіпеля, Яўхіма Кіпеля, Адама Кіркора... Можна прачытаць і пра Генадзя Карпенку, Пятра Краўчанку... Калі ж гаварыць пра артыкулы-персаналіі, дык матэрыялы падобнага кшталту, бадай, у першую чаргу выклічуць цікавасць масавага чытача, бо многае, пра што паведамляе энцыклапедыя, спецыялістам, канечне, вядома.

Музыказнаўцы, напрыклад, ведаюць і пра Восіпа Казлоўскага. Тым больш, што апошнім часам імя гэтага кампазітара, які нарадзіўся на хутары Казлоўскім колішняга Мсціслаўскага павета, а (цяпер — Слаўгарадскі раён), на Беларусі вернута з небыцця. Папулярнасць і славу Казлоўскі атрымаў як аўтар святочнага паланеза "Гром победы, раздавайся", напісанага ў сувязі з узяццем у 1791 годзе Ізмаіла. Гэты яго музычны твор стаў дзяржаўным гімнам Расійскай імперыі. Імперыя імперыяй, але тое, што аўтар гімна — наш зямляк, зразумела, нельга не ганарыцца.

Прыемна і тое, што другі наш зямляк, капітан І-га ранга Аляксандр Казарскі (родам з Дуброўна) праславіўся ў час руска-турэцкай вайны і ў 1834 годзе яму ў Севастопалі быў устаноўлены помнік з надпісам: "Казарскаму. Нашчадкам у прыклад".

А хіба не цікава пазнаёміцца з біяграфіяй Ігнація Кульчынскага, які ўвайшоў у гісторыю дзякуючы таму, што стаў пер-шым гісторыкам Барысаглебскага (калажскага) манастыра ў Гродне і аўтарам першай грунтоўнай працы па гісторыі уніяцкай царквы "Ідэал рускай царквы"?! Прачытаць пра Ванду Лявіцкую (па мужу — Лёсік), якая была і пісьменніцай... Археолага Аляксандра Ляўданскага, які стаў ахвярай сталінізму... Пра часопіс "Лучынка", рэдактарам-выдаўцом якога з'яўляўся Аляксандр Уласаў...

**Н. К.**

ДУША

# Выжываюць разумныя

## З ГАЛОЎНЫМ ПСІХІЯТРАМ МІНІСТЭРСТВА АХОВЫ ЗДАРОЎЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Алегам ЛІСКОЎСКІМ ГУТАРЫЦЬ Эрнест ЯЛУГІН

**— Шаноўны Алег Уладзіслававіч, у расійскіх і ўкраінскіх сродках масавай інфармацыі прайшлі паведамленні, што медыкі Украіны заўважылі вельмі небяспечную тэндэнцыю пашырэння адмоўнага ўздзеяння чарнобыльскай радыяцыі не толькі на ўнутраныя органы чалавека, але і ягоную псіхіку. У прыватнасці, у газеце "Известия" надрукаваны артыкул пад загалоўкам "Яшчэ адзін удар Чарнобыля", аўтар якога прыводзіць меркаванні ўкраінскіх псіхіятраў, што радыяцыя пагражае разумовай дэградацыяй не толькі "ліквідатарам" аварыі і тым, хто аказаўся бліз эпіцэнтра аварыі і атрымаў апраменьванне, але і дзецям, якія нарадзіліся праз некалькі гадоў пасля катастрофы на ЧАЭС. Лічбы называюцца вялікія. Прычым сцвярджаецца, што наступствы маглі быць значна меншымі, каб не афіцыйнае засакрэчванне, якое было знята толькі нядаўна. Асабліва ўражвае, што хворыя дзеткі пачынаюць люта ненавідзець сваіх бацькоў без усялякай на тое знешняй падставы. Значыць, ненавідзяць на падсвядомым узроўні, за сам факт свайго нараджэння на белы свет. Безумоўна, грамадскасць рэспублікі занепакоена, хаця ў тым жа артыкуле ў "Известиях" прыводзіцца меркаванне ўкраінскага медыка, што гэтая навала характэрная болей для Украіны і ў меншай ступені закранула Беларусь і Расію.**

**Некаторыя вядныя спецыялісты нашай псіхіятрыі, апытаныя карэспандэнтам газеты "Звязда" (загадчык кафедры псіхіятрыі Мінскага медыцынскага інстытута прафесар Фердынанд Гайдук і загадчык кафедры псіхіятрыі інстытута ўдасканалення ўрачоў прафесар Раман Еўсягнееў), аптымістычна глядзяць на сітуацыю. Першы, праўда, адзначыў, што па даследаваннях пад эгідай Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, у якіх ён браў удзел, "толькі па асобных параметрах і ў асобных выпадках. У дзяцей, якія нарадзіліся ад апрамененых маці, інтэлект быў крыху ніжэйшы". Праўда, не праведзена паўторнага даследавання. Ён жа, прафесар Ф. Гайдук, лічыць, што пасля катастрофы на ЧАЭС "не адбылося павелічэння праяў шызафрэніі і маніякальна-дэпрэсіўных псіхозаў". І на тым дзякаваць Богу.**

**Другі са згаданых вучоных-псіхіятраў, прафесар Р. Еўсягнееў, лічыць, што паведамленне з Украіны "можа мець адносіны толькі да нязначнай часткі людзей, якія атрымалі вялікія дозы апраменьвання і ў выніку — прамянёвую хваробу..."**

**Асабіста я ведаю псіхіятраў, якія ацэньваюць сітуацыю з псіхічным станам насельніцтва Беларусі пасля чарнобыльскай аварыі не так аптымістычна, але вось іхніх прозвішчаў у газеце просяць не ўпамінаць, а раяць звярнуцца па інфармацыю ў Міністэрства аховы здароўя, што я і раблю. Скажыце, калі ласка, Алег Уладзіслававіч, а якая ваша думка наконт усяго гэтага?**

— Вядома, што ад чарнобыльскай катастрофы Беларусь пацярпела болей, чым Украіна ці Расія. У нас цяпер многа дадзеных пра ўздзеянне радыяцыі на органы чалавека, на тую ж самую шчытападобную залозу, ну, і ўздзеянне на псіхіку таксама вядомае. Але я згодны са сваімі калегамі прафесарамі Гайдуком і Еўсягнеевым. Сапраўды, на інтэлект дзяцей, народжаных ад маці, што пацярпелі ад катастрофы на ЧАЭС, нейкага выразнага ўздзеяння не выяўлена. З прафесарам Еўсягнеевым згодны ў тым, што цяпер дакладна вядома: толькі людзі, якія атрымалі вялікія дозы радыяцыі ў часе катастрофы — ліквідатары, тыя, хто аказаўся ў эпіцэнтры выбуху, у той ці іншай ступені пакутуюць ад прамянёвай хваробы, могуць мець і арганічныя паражэнні галаўнога мозгу, калі яны выжылі. З адпаведнымі ад таго наступствамі — зніжэннем інтэлектуальна-мысліцельных працэсаў. Іншая справа, што чарнобыльская катастрофа зрабіла велізарны пераварот увогуле ў жыцці насельніцтва на пятай частцы тэрыторыі Беларусі. Гэта — вымушанае перасяленне, пакінутыя дамы, маёмасць, расстанне з малой радзімай — мясцінамі, да якіх людзі даўно прывыклі, рэзкая перамена ўвогуле стэрэатыпаў жыцця. Гэтыя людзі апынуліся ў новых мясцінах, парушыліся чалавечыя сувязі, перасяленцы ператварыліся ў чужынцаў, па сутнасці, нікому непатрэбных. У выніку ў іх адбылася вялікая псіхатраўма. Гэтыя наступствы лічу вельмі істотнымі. Яны не выклікаюць нейкую паталогію, зніжэнне інтэлекту, але тым не меней — значныя парушэнні неўратычнага характару. Гэта значыць, у іх узнікаюць неўратычныя рэакцыі, дэпрэсіі, парушэнні вегетатыўных функцый. Вось гэта вельмі сур'ёзная рэч — парушэнне, па вялікім рахунку, нармальнай сацыяльнай прыстасавальнасці, адаптаванасці насельніцтва. Ды і тыя людзі, што засталіся на забруджанай тэрыторыі, па нейкіх прычынах не з'ехалі адтуль, таксама адчуваюць на сабе не толькі пастаяннае фізічнае ўздзеянне жыццёвага асяродку, але і самой трывожнай псіхалагічнай атмасферы. Недахоп звестак, інфармацыі пра сапраўднае становішча таксама вельмі ўздзейнічае на нервовую сістэму. Яны не ведаюць, як на іх уздзейнічаюць малыя дозы радыяцыі, таму ў іх узнікае пастаяннае дадатковае нервовае напружанне ад чакання непрыемных наступстваў, страх. Натуральна, у такіх умовах па многіх пытаннях у іх зніжаецца аптымістычны погляд на далейшыя перспектывы.

Ды тут яшчэ ў пацярпелых раёнах у дадатак і ўмовы жыцця не такія добрыя, як належала б. Да таго ж туды мала едзе на працу настаўнікаў, урачоў, медработнікаў сярэдняга звяна. Нават гандаль у вёсках горш працуе. Увогуле сацыяльная сфера. Таму не дзіва, што людзі лічаць сябе выкінутымі на ўзбочыну жыцця. Дапамагчы можа павелічэнне ведаў насельніцтва пра жыццёвае асяроддзе, паляпшэнне матэрыяльных умоў у сукупнасці з адпаведнай працай псіхолагаў і псіхатэрапеўтаў. У нас ёсць спецыяльная лабараторыя па вывучэнні наступстваў чарнобыльскай аварыі на псіхічнае здароўе. Невялікая, усяго некалькі адзінак. Дык вось яе супрацоўнікі, выязджаючы ў пацярпелыя раёны, працуючы там з дзецьмі і іх бацькамі, пераканаліся, як патрэбна тым, акрамя ўсяго іншага, і пастаянная псіхалагічная падтрымка. На жаль, гэтая служба ў сувязі з нашай агульнай беднасцю пакуль слабая.

Тым не меней мы стараемся ўвогуле развіваць псіхатэрапеўтычную службу ў рэспубліцы, хаця яшчэ маем недастаткова добра падрыхтаваных кадраў — імі займаецца Інстытут удасканалення ўрачоў, кафедра псіхатэрапіі, а ў Гродзенскім медінстытуце зараз ужо чатыры курсы студэнтаў набываюць спецыяльнасць урача-псіхолага. Спадзяёмся, усё гэта дасць магчымасць больш эфектыўна дапамагаць тым, у каго ўзніклі праблемы з адаптацыяй да новых умоў жыцця, неяк стабілізаваць іх эмацыянальны стан.

**— Карыстаючыся нагодай, хачу спытацца ў вас, Алег Уладзіслававіч, адносна ўвогуле цяперашняй сітуацыі з псіхічным станам здароўя беларусаў. Простае назіранне сведчыць аб змене паводзін лю-дзей не ў лепшы бок — больш істэрыкі, непрадказальных выхадак ды і элементарнага чорнага п'янства, развіваецца наркаманія. Публіцысты і палітыкі, некаторыя ўрачы кажуць пра псіхічна хворае грамадства.**

**Дарэчы, нядаўна маскоўская "Литературная газета" апублікавала гутарку з вядомым пісьменнікам і прафесійным урачом-псіхіятрам Міхаілам Чулакі, які па просьбе карэспандэнта гэтак вызначыў стан расійскага грамадства: "Дэпрэсіўны сіндром, і, на жаль, гэта на працягу некалькіх гадоў не мяняецца".**

**У нас, відаць, карціна падобная?**

— Падобная. І зразумела, чаму. Акрамя таго, што ў нас існуе сацыяльна-эканамічны крызіс (можна сказаць, што наступае стабілізацыя, але ж псіхічная напружанасць застаецца) і маса людзей згубіла ранейшыя жыццёвыя арыенціры, ідэйныя перакананні. Многа беспрацоўных, шмат хто згубіў свае былыя прафесійныя напрацоўкі і вымушаны дзеля хлеба надзённага займацца зусім не тым, чаму быў навучаны. Гэта не з'яўляецца нечым адметным толькі для сённяшняй Расіі ці блізкай ёй па ўмовах Беларусі, а вядома ва ўсім свеце. На глыбокіх сацыяльных пераломах заўсёды ўзнікае вялікае павышэнне колькасці рознага кшталту нервова-псіхічных расстройстваў. У той жа час узровень шызафрэніі застаўся ранейшым, выпадкаў эпілепсіі таксама. Відаць, на іх не ўздзейнічаюць сацыяльныя катаклізмы. А вось дэпрэсіі, неўрозы, алкагалізм, самагубствы, наркаманія — гэтыя з'явы імкліва ўзрастаюць у час сацыяльна-эканамічных зрухаў. Пры паляпшэнні сітуацыі нават без асаблівай дапамогі медыцыны ўсё стабілізуецца.

**— А ўсё ж: хворых па вашай, так бы мовіць, епархіі многа?**

— Зараз на ўліку знаходзіцца каля 200 тысяч чалавек. Канешне, гэта далёка не ўсе тыя, хто пакутуе ад нервова-псіхічных расстройстваў.

**— Не хочуць "засвечвацца" ці не разумеюць свайго стану?**

— Многае тут залежыць ад менталітэту, устойлівых звычак, адносін на бытавым узроўні да хвароб такога кшталту. Калі ў заходнееўрапейскіх краінах зварот да псіхіятра, псіхолага, псіхатэрапеўта — звычайная справа, то ў нас многія людзі гэтага баяцца, бо іх, бачыце, могуць паставіць на ўліку ў дыспансеры, суседзі будуць паказваць на іх пальцам — маўляў, ненармальны, псіх, дурань. Гэта сведчыць пра недастатковы яшчэ культурны ўзровень насельніцтва.

**— Пра недастатковую медыцынскую культуру спрачацца, канешне, не даводзіцца. Але давайце звернем увагу на яшчэ адзін бок згаданай вамі з'явы. Да гэтага часу людзі з жахам успамінаюць пра савецкую сістэму палітычных рэпрэсій з дапамогаю псіхіятрыі. Дарэчы, нядаўна ў Маскве выдадзена кніга кансультанта Камісіі па рэабілітацыі ахвяраў палітычных рэпрэсій пры прэзідэнце Расіі А. Пракапенкі "Вар'яцкая псіхіятрыя". Кніга заснавана спрэс на нядаўна суперсакрэтных сведчаннях з архіваў ЦК КПСС, МУС, КДБ. Факты ўражваюць. У той жа час, як упэўнены той жа М. Чулакі, цяперашняя практыка, калі без дагляду медыкаў застаюцца сапраўды хворыя, гэта абарочваецца для іх вялікай бядой. Ніякага прымусу ў іх лячэнні няма, кажа расійскі пісьменнік, па сваім жаданні хворыя часта здымаюцца з уліку ў дыспансерах і нібыта набываюць дзеяздольнасць. На самай справе гэта не так, перакананы М. Чулакі, у лепшым выпадку яны аказваюцца на вуліцы без сродкаў да існавання, здаўшы ці прадаўшы жулікам свае кватэры, што дыспансер не дазволіў бы зрабіць. У горшым — адмовіўшыся ад змяшчэння ў клініку, таму што цяпер гэта магчыма толькі з іхняй згоды, яны канчаюць жыццё самагубствам ці забіваюць некага з блізкіх. Скажыце, а якая ў нас на гэты конт цяпер практыка?**

— Спачатку адкажу на першую частку пытання. Вы згадалі сітуацыю ў Расіі савецкага часу. Магу дакладна паведаміць пра тое, як было тады ў Беларусі. Так, пад велізарным уціскам дзяржавы, партыйнага апарату "нязручныя" людзі (сярод іх, праўда, траплялiся і псіхічна хворыя) рукамі некаторых, падкрэсліваю, прафесійна нядобрасумленных кіраўнікоў псіхіятрычнай расійска-савецкай службы сапраўды сілком адпраўляліся ў псіхіятрычныя лякарні і атрымлівалі ярлык псіхічна хворага з адпаведнымі наступствамі. Магу адназначна і кампетэнтна сказаць: на тэрыторыі Беларусі такіх выпадкаў не ведаю. Усё тое ў асноўным адбывалася ў Маскве і няхай дзейнасць супраць дысідэнтаў маскоўскіх псіхіятраў будзе на сумленні апошніх. Паставіць псіхіятрычны дыягназ можа толькі адпаведны ўрач і ніхто іншы. Міхаіл Чулакі мае рацыю: як заўсёды, у нас шмат ахвочых на перагібы — з аднаго боку, ставяцца на ўлік людзі з мінімальнымі праявамі псіхічных расстройстваў, а з другога — зараз у сувязі са зменамі, лібералізацыяй заканадаўства, свабодай дзеянняў многія сапраўды хворыя не жадаюць добраахвотна знаходзіцца на псіхіятрычным уліку. Я прыхільнік такой пазіцыі: ёсць Закон аб ахове здароўя, у якім 31-ы артыкул дакладна рэгламентуе шпіталізацыю псіхічна хворых. Будзе правільным, калі людзі, якія не ўяўляюць сацыяльнай небяспекі і не хочуць знаходзіцца на псіхіятрычным уліку, на яго не становяцца. Але ёсць і яшчэ адна катэгорыя хворых, якія, не ўсведамляючы гэтага, уяўляць пагрозу для іншых людзей і самых сябе. Вось іх, згодна нашаму заканадаўству і адпаведнаму загаду Міністэрства аховы здароўя, мы абавязаны шпіталізаваць, каб пазбегнуць цяжкіх наступстваў. На законных падставах, падкрэсліваю.

Сапраўды, ёсць і катэгорыя хворых, якія пры ўсіх нашых угаворах не хочуць станавіцца на ўлік. У кожным канкрэтным выпадку мы імкнёмся, ведаючы індывідуальныя асаблівасці і магчымыя наступствы для такога чалавека, адсутнасці пастаяннага медыцынскага нагляду, пераканаць яго ў неабходнасці ўсё ж падтрымліваць пастаянную сувязь з дыспансерам. Таму што мы адзіныя, хто адназначна стаіць на варце інтарэсаў гэтага чалавека. Імкнёмся дапамагчы яму афарміць пенсію, бо працаўладкавацца нашым пацыентам у цяперашніх умовах скарачэння рабочых месцаў практычна немагчыма. Ды і далёка не кожную работу яны здольныя выконваць, а ў выніку становяцца нікому непатрэбнымі, ізгоямі. Дарэчы, хачу згадаць, што ў нас былі (ці амаль ужо былі) так званыя лекава-працоўныя майстэрні (ці не дзесяцігоддзе нават), дзе людзі з псіхічнымі адхіленнямі маглі атрымліваць хоць нейкую зарплату, авалодаць прафесіяй, дзе кіраўніцтва разумела іх асаблівасці. Адначасова адбывалася пэўнае лячэнне пасільнай працай, умацаванне хворымі бытавога распарадку. А зараз у сувязі з неразуменнем уладнымі структурамі сацыяльнай значнасці ўсяго гэтага майстэрні абкладаюць такімі ж падаткамі, як і іншыя суб'екты гаспадарчай дзейнасці. У выніку ў сувязі са слабой канкурэнтаздольнасцю, нерэнтабельнасцю і даўгамі майстэрні зачыняюцца. Такім чынам, працатэрапія, якая магла даволі эфектна дапамагаць многім хворым, на вялікі жаль, выпадае з лекавага працэсу.

**— А як мы выглядаем у параўнанні з заходнееўрапейскімі краінамі?**

— Я цікавіўся іх вопытам. Давялося назіраць, як там псіхічна хворыя свабодна ходзяць па вуліцах, бывае, неадэкватнае нешта гавораць, робяць нейкія зусім неадпаведныя для нармальнага чалавека ўчынкі. На іх ніхто асабліва не рэагуе да таго часу, пакуль яны паводзяць сябе неагрэсіўна, не ўяўляюць небяспекі для іншых. Сацыяльна яны абароненыя, у некаторых ёсць і значная маёмасць. Нашы ж хворыя часцей за ўсё, акрамя якой кватэры, не маюць нічога. Таму мы і стараемся гэтых людзей неяк угаварыць, каб яны ўсё ж трымаліся за нашу службу, бо, паўтаруся, мы сапраўды пакуль адзіныя, хто ім можа дапамагчы не аказацца беспрытульнымі, не апусціцца на дно.

**— Як я зразумеў, такія людзі ў нас падстрахоўваюцца вашай службай лепей, чым у Расіі, па звестках, нямала выпадкаў, калі бездапаможныя людзі, якія па стане псіхікі слаба арыентуюцца ў жыццёвых акалічнасцях, зажыва гніюць у падвалах ці гарадскіх звалках, асабліва калі няма блізкай радні ці тая адцуралася іх. А хто б мог, акрамя вашай службы, паспрыяць гэтым людзям?**

— Згодна правоў і свабод чалавека, якія замацаваныя ў нашым заканадаўстве, звесткі пра псіхічна хворых мы можам даць толькі дзяржаўным органам аховы здароўя, правапарадку, выканаўчай уладзе. А вось даваць звесткі аб стане хворага розным дабрачынным грамадскім арганізацыям — значнае парушэнне ўрачэбнай тайны, закона.

**— Хацелася б ведаць вашу думку адносна катэгорыі людзей, якіх вельмі ўмоўна, канешне, можна назваць "савецкімі абломавымі" — па прозвішчы галоўнага героя вядомага аднайменнага рамана класіка рускай літаратуры Ганчарова. Іх, здаецца, не прызнаюць псіхічна хворымі, а ў той час яны не ў стане прымусіць сябе мэтанакіравана і паслядоўна рабіць нейкую справу, ды часта і проста дагледзець сябе самога. Іх пачынаюць вылучаць яшчэ ў дзяцінстве, у школьныя гады, папракаюць, караюць — настаўнікі, а часта і бацькі, высмейваюць і штурхаюць аднакласнікі. Калі яны становяцца паўналетнімі — тое ж працягваецца ў арміі. Затым пачынаюцца праблемы з працаўладкаваннем. Многія ад роспачы шукаюць "заспакаення" ў п'янстве, у выніку іх выганяюць і з той звычайна непрэстыжнай і малааплачваемай працы, на якую ім неяк удаецца ўладкавацца. Некаторыя пачынаюць усяляк хітрыць, каб здабыць харчаванне, выпіўку і г. д. Пакутуюць бацькі, блізкія ды і яны самі, а ўрэшце ўсё заканчваецца сумна, цяжка. Наша літаратура даўно заўважае такі тып лю-дзей, але часцяком справа не ідзе далей высмейвання, у лепшым выпадку здзіўлення. А ці заўважае іх псіхіятрыя і ваша міністэрства? Што можна параіць ім і іхнім блізкім?**

— Вы закранулі пытанне, вырашэнне якога залежыць не толькі (і не столькі) ад медыцыны, а ў першую чаргу ад грамадства, яго сацыяльнай культуры. Тут ёсць і такі, дарэчы, аспект, як ментальнасць нашага чалавека, яшчэ зусім нядаўна савецкага.

*(Працяг на стар. 14-15)*

## Шляхі і жахі

**Аматары беларускай бардаўскай песні атрымалі навагодні падарунак: выйшла аўдыёкасета вядомага барда, лаўрэата шматлікіх конкурсаў (па сумяшчальніцтве літаратара, журналіста, перакладчыка) Сержа Мінскевіча. Касета ўключыла ў сябе ажно два альбомы. Наследаваўшы традыцыю Твікса і Кока-колы Літаратурна-музычная суполка ЗБС (прынамсі, яе лагатып стаіць на касеце) зрабіла "два ў адной". "Жахі-Хі" і "Шляхі-Хі" — так называюцца альбомы. Калі ў першы ўваходзіць грамадская і "чорная" лірыка Сержа, то другі — зусім "бяскрыўдны", быў нават прапанаваны дзіцячаму фестывалю "Халі-Хало". Так што зборнік павінен задаволіць зусім розныя густы. Так і хочацца сказаць бацькам: "Жахі-Хі" слухайце самі, а для дзетак перавярніце касету на "Шляхі-Хі". І, вядома, зборнік стане пэўным дапаможнікам для даследчыкаў літаратуры, бо з'явіўся адным з першых музычных праектаў літаратурнага руху "Бум-Бам-Літ", які, аказваецца, акрамя тазіка, пачынае асвойваць і іншыя музычныя інструменты.**

**А. Т.**

## У палоне красы

**Неардынарная падзея адбылася ў мінулы панядзелак, 8 снежня, у сталічным Доме літаратара — вечарына, прымеркаваная да 106-х угодкаў з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Нават цудоўная гаспадыня тутэйшае нефармальнае гасцёўні Ірына Марачкіна, пэўна, няшмат узгадае падобных імпрэз. Перапоўненая зала — гэта, як кажуць, дэталь; галоўнае — тое, што тут панавала атмасфера заварожанасці музыкай сапраўднай паэзіі і жывой дзеяй музыкі, панаваў дух беларускага мастацкага слова, дух творчасці.**

**Кароткім уступам адкрыў вечарыну яе вядучы — паэт Эдуард Акулін. Пасля добрую гадзіну гучаў паэтычна-музычны спектакль па творах Максіма Багадновіча "Ў краіне светлай, дзе я ўміраю...", — прэм'ера Беларускага паэтычнага тэатра "Зьніч" у пастаноўцы мастацкага кіраўніка тэатра Галіны Дзягілевай, выканаўцы — Вячаслаў Статкевіч і Алесь Шундрык.**

**Вядучы нагадаў прысутным, што ў духоўнай спадчыннай прасторы Багдановіча прыкметнае месца займаюць пераклады, і запрасіў да мікрафона выкладчыка лінгвістычнага універсітэта Васіля Ермаловіча. В. Ермаловіч прадэкламаваў перакладзены М. Багдановічам верш Гейнэ "Ў паўночным краю на кургане...", спярша прачытаўшы яго ў арыгінале. Потым некалькі Максімавых вершаў было прачытана ў перакладзе нямецкіх паэтаў. Вечарыну ўзбагаціла яшчэ адна мова — украінская, на якой прачытаў вершы Багдановіча першы сакратар пасольства Украіны ў Рэспубліцы Беларусь І. Бунэчка.**

**Вялікі інтэлектуальны зарад несла выступленне паэта Алеся Разанава. Калі год таму ў гэтай жа зале ён па-філасофску глыбока і па-мастакоўску пранікнёна разважаў пра з'яву красы ў творах Максіма Багдановіча, а крыху пазней распавядаў пра названую з'яву ў грунтоўным артыкуле "Жыта і васілёк" ("ЛіМ", N 3 за 17 студзеня 1997 г.), то цяпер не менш бліскуча выказаўся аб матывах ахвярнасці ў творчасці Багдановіча. Тады галоўным творам даследавання А. Разанава быў "Апокрыф", гэтым разам — "Страцім-лебедзь", з яго цудоўным вобразам "жывога каўчэга" (знаходка А. Разанава!).**

**Некалькі сваіх песень праспяваў юны бард, студэнт Беларускай акадэміі мастацтваў Сяргей Бакавец.**

**Калі ўзяла слова Данута Бічэль-Загнетава, прасторная зала сцішылася, як загіпнатызаваная. І гэта — пасля двухгадзіннай праграмы. Голас паэткі быў ціхі, цёплы, такі натуральны! Прыехала пясняркa з Гародні, "з дзяцінства Максіма Багдановіча", як сказала яна сама. Данута Янаўна прывезла падарунак Мінску — кніжку "Ты не самотны", якая створана ў сааўтарстве з А. Чобатам. Данута Бічэль-Загнетава прачытала свае вершы, пяшчотныя і мужныя, найперш — пра Максіма Багдановіча, і запрасіла ўсіх наведваць музей Максіма Багдановіча ў Гародні, у якім яна працуе.**

**Завяршалася багатая мастацкая праграма выступам Эдуарда Акуліна. Ён прадэкламаваў верш, прысвечаны Максіму Багдановічу і праспяваў свае патрыятычныя песні.**

**На вечарыне сакратар Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Паўлаў цёпла віншаваў юбіляраў Дануту Бічэль-Загнетаву і Алеся Разанава, для якіх, як і для Максіма Багдановіча, пачатак снежня стаўся часінаю нараджэння.**

**Васіль ЖУКОВІЧ**

ВІНШУЕМ!

# Сто год і год яшчэ!

## Івану БУРСАВУ — 70

Казка як звычай багатая на гады, але яшчэ багацейшая на мудрасць. А мудрасць не старэе. Мудрасць маладая.

Сябру нашае маладосці без трыццаці гадоў — сто. Кажу нашае маладосці, бо маю на ўвазе іскрыстую, выломістую з мулкіх рамак ці нават хамутоў часу сябрыну, у якой да бесклапотнасці вольна было Уладзіміру Караткевічу ды Міхасю Стральцову, Сымону Блатуну ды Уладзіславу Нядзведскаму. Яны адышлі, засталіся мы ўдвух. Засталіся помніць іх, сяброў маладых, ды справу іхнюю доўжыць на колькі моцы і ўмецтва хапае.

Іван Бурсаў. Казачнік, чые казкі ніколі не ляжалі на прылаўках кнігарняў, не ляжалі на паліцах бібліятэк. Іх хапалі, іх чыталі, іх зачытвалі. За савецкім часам нават ЦК замаўляла пэўную, абавязковую партыю чарговай кнігі казак Івана Бурсава. Каб дзеткі ўладатрымцаў душой дабрэлі.

Хоць Іван Бурсаў не быў сакратаром Саюза пісьменнікаў, казкі ягоныя выдаваліся ў шмат якіх краінах свету. Толькі ў Нямеччыне неаднаразова перавыдаваліся.

Па савецкай традыцыі Саюз пісьменнікаў падзелены на секцыі, на так бы мовіць вальерчыкі, дзе кожны меў адпаведны разгон. Секцыя прозы, секцыя паэзіі, секцыя крытыкі, дзіцячая секцыя і г.д. І большыня хадзіла з адпаведнай пазнакай — дзіцячы паэт, проста паэт, перакладчык. Што тычыцца Бурсава, дык ён заўсягды быў шматгранны, як і належыць сапраўднаму творцу.

Лірычны талент Івана Бурсава асаблівы. Вершы паэта вылучаюцца сваёй пранікнёнасцю і чысцінёй пачуцця, сваёй роздумнасцю й мудрай хітрынкай, сваім позіркам, звернутым да Усявышняга, сваім запытаннем да вечнасці.

Памятаю, як на вяршыні аптымізму падчас хрушчоўскае адлігі на адным пасяджэнні секцыі паэзіі грознаківалі паэту за ўпадніцкі настрой. А крамола заключалася ў двух радках:

Іван БУРСАЎ

# ВОЎК ДАБРАДЗЕЙ

### КАЗКА, ЯКАЯ ЗА ПРЫКАЗКУ КАРАЦЕЙ

У лясным царстве, у бярозавым гаспадарстве, у часіны, калі асіны са страху енчылі, жыло-было племя заечае. Дні тымі часамі былі добрыя, ліўні ішлі цёплыя, заечая капуста на ўсіх лужках і палянках сцяной стаяла. А розныя травы салодкія слаліся пад нагамі і ў рот прасіліся самі.

Хо-ра-ша!

Ды тут з'явіўся ў лясным царстве, у бярозавым гаспадарстве зухаваты малойчык — воўк. З'явіўся — ніхто не здзівіўся, адкуль узяўся — ніхто не спытаўся.

У лесе месца хапае!

Аднойчы зранку склікаў воўк на імшаную палянку ўсё заечае племя. Сам пачысціўся, расчасаўся — на бярозавы пень узняўся, пачаў прамову казаць.

Не доўгую і не кароткую, гладкую ды салодкую!

— Ці не надакучыла вам, зайцы, без гаспадара жыць, да ікаўкі есці-піць, нікога не баяцца, без дагляду па лесе бадзяцца? Куды гэта варта? Так можна з зайцоў стаць трусамі не на жарты!

Зайцы жываты падцялі!

А воўк заліваецца, сваім красамоўствам выхваляецца:

— З гэтага часу скончацца вашыя пакуты — клопаты пра вас вазьму ў свае рукі крута. Не дам ленавацца вам, тлусцець у цяньку — будзеце ўдзячныя мне, ваўку.

Зайцы ўзрадавана хіхікнулі!

Воўк аблізнуўся, абдумаўшы кожнае слова, дадаў па-бацькоўску сурова:

— Хваліць мяне не забараняю, — я не суровы ані... Ну, а лаяць божа барані! Хто пра мяне слова кепскае скажа — той доўга жыць накажа! А падумае пра мяне дрэнна, нябога, — туды ж дарога! Нават бачыць у сне мяне кепска нельга. Вось так яно, сябры!

І воўк прывітальна лапу ўзняў!

Зайцы тройчы "ўра!" крыкнулі і разбегліся ў розныя бакі — жыць не грашыць, есці посна і ад страху трэсціся млосна.

Затое з гаспадаром!

І стала з кожным днём рабіцца зайцоў усё меней і меней. Проста на вачах радзела заечае племя.

ЧАСОПІСЫ

# Уцёкі ад безвыходнасці

Яшчэ адно імя вернута з небыцця: часопіс "Нёман" у шостым нумары змясціў (праўда, з некаторымі скарачэннямі) дакументальную аповесць Фядота Кудрынскага "Людскія хвалі. Бежанцы" (публікацыя і падрыхтоўка тэксту да друку Людмілы Календы і Віталя Скалабана, які з'яўляецца і аўтарам уступнага слова). Гэтая аповесць Ф. Кудрынскага была выдадзена ў 1917 годзе ў Петраградзе асобнай кнігай і, безумоўна, даўно стала бібліяграфічнай рэдкасцю. А яна вартая ўвагі, бо вельмі праўдзіва, аб'ектыўна і на шырокім фактычным матэрыяле расказвае пра лёсы людзей, якія ў час першай сусветнай вайны, улетку 1915 года, мусілі сарвацца з родных гняздоўяў і падацца ў свет, далей ад смерці, голаду, разбурэнняў. Рагачоў на той час стаў свайго роду перавалачнай базай для — ажно падумаць страшна! — 700 тысяч чалавек. Уцёкі ад безвыходнасці набылі такі масавы характар, што першапачатковая лічба бежанцаў (65 тысяч чалавек) у параўнанні з гэтай, сапраўднай, выглядае проста смешнай. Такі быў маштаб народнай трагедыі. А да людскога болю, пакут Ф. Кудрынскі далучыўся непасрэдна сам, тады ён жыў у Рагачове...

Патрэба ў вяртанні імя Ф. Кудрынскага сучаснаму чытачу — найперш у значнасці, актуальнасці яго твора, які яскрава сведчыць, да чаго можа прывесці непрадуманая палітыка дзяржаў. Ды не толькі. Нельга забываць Фядота Андрэевіча яшчэ і таму, што гэта ўвогуле быў творца вялікіх мажлівасцяў, а да ўсяго менавіта ён у свой час падтрымаў першыя пробы пяра тагачаснага навучэнца Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Канстанціна Міцкевіча і параіў яму пісаць па-беларуску. У семінарыі Ф. Кудрынскі з'явіўся ўпершыню ў студзені 1900 года і пачаў выкладаць рускую мову і адначасова працаваў бібліятэкарам.

Нарадзіўся ж ён, як сведчаць біяграфічныя звесткі, прыведзеныя В. Скалабанам, у 1867 годзе ў мястэчку Сцепань цяперашняга Сарненскага раёна Ровенскай вобласці (Украіна). Дарэчы, у далейшым ён выбраў сабе і псеўданім Багдан Сцепанец. Скончыў Маскоўскую духоўную акадэмію. Перад тым, як прыехаць у Нясвіж, выкладаў у Ніжагародскай духоўнай семінарыі, цікавіўся гісторыяй, этнаграфіяй, нямала выступаў у друку. Не прамінуў падзяліцца і ўражаннямі аб становішчы ў Нясвіжскай семінарыі, змясціўшы ў 1902 годзе ў маскоўскім часопісе "Вестник воспитания" нарыс "Семінарысты з народа", у якім выкарыстаны асобныя пісьмовыя адказы семінарыстаў, зробленыя па просьбе Ф. Кудрынскага, а таксама верш Я. Коласа "Вёска". Нарыс не спадабаўся дырэктару семінарыі П. Меліяранскаму, які пісаў (праўдзівей — даносіў) папячыцелю Віленскай навучальнай акругі: "...імкненне да развіцця мужычкоў семінарыстаў, гэтае "развівацельства" — беспрынцыпнае, беззмястоўнае і таму — непатрэбнае, непажаданае любімы канёк п. Кудрынскага ў якасці настаўніка семінарыі і бібліятэкара..." (цытуецца па ўступным слове В. Скалабана).

У выніку Ф. Кудрынскі быў вымушаны пакінуць Нясвіж і з 1903 года служыў

***А у меня светлее голова,***
***Да вот беда —***
***Отяжелели руки.***

Ды гэта былі не словы на паказ, на гучны сказ, а яны прамовіліся чалавекам з цікавай жыццёвай біяграфіяй.

Некалі ў Маскве на мае словы, што я паеду да Бурсава, Аркадзь Куляшоў сказаў: "Гэта той Бурсаў, што выдае вам кніжкі ў "Молодой гвардии". І ў вясёлай рэпліцы мэтра паэзіі было шмат сэнсу.

Іван Бурсаў пераклаў на рускую мову, можна сказаць, тоны беларускай паэзіі, пачынаючы ад Францішка Багушэвіча да самых маладых пачаткоўцаў. А некаторых, асабліва дзіцячых паэтаў, зрабіў самакласікамі. Бо з перакладаў Бурсава перакладаліся гэтыя паэты (працавала за іх і пасада ў пэўным выдавецтве) на розныя мовы. Дый самі творцы часцяком перакладалі сябе ж з перакладаў Бурсава. Быў нават смешны выпадак. А можа, сумны? Іван Бурсаў перакладаў дзіцячыя вершы аднаго з беларускіх выдаўцоў. Жонка Іванава глядзела, слухала, дый не стрывала: "Іване, перакладзі хоць раз, як у арыгінале".

І асабліва цёпла гучыць беларуская мова ў Маскве ў кватэры Івана Бурсава, што па вуліцы Твардоўскага.

Апошнім часам казачнік піша казкі й на беларускай мове. На мове маці, якая жыве ў творцавай душы.

І калі мне бывае сумна, паўтараю бурсаўскі вершык пра пеўня:

***Продал перья,***
***Продал пух***
***И гармонь купил***
***Петух.***
***Хоть и голый,***
***Но веселый,***
***Вот какой у нас***
***Петух!***

Глыбокія даследаванні, манаграфіі пра Івана Бурсава — усё яшчэ наперадзе. А сёння хачу пажадаць сябру свайму неацэннаму — сто год і яшчэ адзін год, каб вынікі падвесці, ці, як казалі некалі дый цяпер, падвесці рысу.

А чытачам "ЛіМа" хачу прапанаваць казку юбіляра ў сваім перакладзе.

**Рыгор БАРАДУЛІН**

Самі вінаватыя!

Адзін — ваўка "шэрым" назваў. Вінаваты! І заяц тут жа прапаў...

Другі — ваўка хваліў мала. Вінаваты! І яго не стала...

Трэці — убачыў ваўка ў сне: быццам воўк сядзеў на сасне ў паласатых трусах і з ледзяшком у зубах. Вінаваты! Які непаважлівы сон, марную траву з поля вон!

Усё па справядлівасці!

Так і жылі зайцы. Многа ці мала, але дайшла вясціна да іх, што ваўка не стала. Ці то сам лапы працягнуў, ці то патрапіў на мушку драбавіку — толькі прыйшоў канец ваўку.

Так заўсёды бывае!

І зноў зажылі зайцы ў міры і ў ласцы... Тут бы і канец казцы!..

Ды не!

Чуваць было нядаўна — зайцы "ўра!" крычалі. Ваўка новага прывячалі...

Кепская штука, калі не ідзе на карысць навука!

КРЫТЫКА

# Застанецца ў вершах

## КНІГА "БАБЧЫН" Міколы МЯТЛІЦКАГА ВАЧАМІ ЭКОЛАГА

Зборнік вершаў М. Мятліцкага "Бабчын" ("Мастацкая літаратура", 1996) прадаўжае, дапаўняе і развівае чарнобыльскую тэму беларускай паэзіі. Пра тое, што гэтая тэма аформілася як самастойны накірунак, сведчыць значны па аб'ёме і разнастайны па змесце паэтычны раздзел зборніка "Прайсці праз зону" ("Мастацкая літаратура", 1996), цэнтральную частку якога займае цыкл вершаў М. Мятліцкага.

Эмацыйнае ўздзеянне цыкла на чытача вызначаецца не толькі майстэрствам аўтара, але і непасрэдным успрыманнем чарнобыльскай навалы ўраджэнцам "зоны адчужэння", яго любоўю да "малой" Радзімы і горычу за яе лёс.

М. Мятліцкі піша пра дарагія і блізкія з дзяцінства мясціны і падзеі, пра лёсы людзей, вёсак і прыроды зоны не як старонні назіральнік, а як непасрэдны іх удзельнік. Таму яго вершы, акрамя высокай эмацыйнасці, вылучаюцца выключнай канкрэтнасцю, дакладнасцю і праўдзівасцю. На апошнім момантце і хацелася б спыніцца, паколькі каштоўнасць і значнасць вершаў у вялікай ступені вызначаюцца іх праўдзівасцю. Менавіта праўда аб чарнобыльскай навале асабліва важная для беларусаў, на долю якіх давялося 70% наступстваў буйнейшай экалагічнай катастрофы. І ў першую чаргу яна патрэбна тым 131 тысячы чалавек, якія пазбавіліся сваёй Радзімы, перасяліўшыся ў іншыя мясціны. І тым 100 тысячам беларусаў, якія ў 1986—1987 гадах працавалі ў зоне, у тым ліку і ў Бабчыне, спрабуючы "ліквідаваць" бяду, якая не паддаецца ліквідацыі: ці ж можна ліквідаваць страту Радзімы, здароўя, жыцця?

Назва зборніка — "Бабчын" — з'яўляецца вельмі ўдалай па цэлым шэрагу прычын. Сам лёс зрабіў Бабчын эпіцэнтрам беларускай часткі чарнобыльскай зоны. Гэта быў і камандны пункт, і своеасаблівыя вароты ў зону. Менавіта праз Бабчын і далей праз Дронькі, Красноселле — старым Чумацкім шляхам — ішоў асноўны грузапаток з Беларусі ва ўкраінскі горад Прыпяць у перыяд барацьбы з пажарам на 4-ым энергаблоку ЧАЭС і збудавання саркафага. Некалькі гадоў у Бабчыне знаходзіўся штаб міліцыі, які ахоўваў зону, і падраздзяленне унутраных войск. Цяпер там месціцца навуковы цэнтр Палескага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка.

У Бабчыне, як ні ў адным іншым месцы, пераплаліся ўдачы і недарэчнасці "ліквідацыі" наступстваў катастрофы, якую многія спрабавалі прадставіць як проста аварыю, хоць аварыяй на ўсіх мовах свету называецца "пашкоджанне, выхад са строю якога-небудзь механізма, машыны, транспартнага сродку ў час дзеяння, руху". Калі ў чэрвені 1986 года экспедыцыя Акадэміі навук Беларусі ўпершыню працавала ў Бабчыне, яе ўдзельнікаў частавалі свежымі гароднінай і мёдам з пасекі бабчынскага лясніцтва, што знаходзілася на мяжы лесу і балотнага ўрочышча Майдан, якому прысвечаны адзін з вершаў М. Мятліцкага. А побач працавалі дэзактыватары, здзіралі дахі з дамоў, палівалі сцены дэзрастворамі, здымалі экскаватарамі глебу. Сапёры пракладвалі водаправод і залівалі асфальтам вуліцы Бабчына. Да канца лета вёска набыла зусім іншы выгляд, у яе вярнуліся дзеці, і 1 верасня ў школе пачаліся заняткі. А 17 верасня ўсю вёску тэрмінова... эвакуіравалі. Гэта быў час, пра які М. Мятліцкі гаворыць: "Пяць месяцаў у цэзіевым брудзе жылі маёй гаротнай вёскі людзі: садзілі бульбу і палолі грады, былі шчаўліне, сырадобю рады ды на салдат сцярожка пазіралі, што стрэхі з хат закінутых здзіралі. І магарыч давалі адмысловы, каб "трасцы той" не паказалі дровы, каб як мяльчэй капалі двор ля хаты салдацкія увішныя лапаты, і думалі ўслед з прыжмурам вока: "Адгэтуль радыяцыя далёка!" Ставала веры і трывучай сілы, аб чым гаворацъ на кладах магілы..." Трывогі і нягоды пасля-чарнобыльскага Бабчына адлюстраваны ў вершах М. Мятліцкага выключна дакладна, практычна дакументальна. Больш за тое, ён прыводзіць у сваіх вершах значна больш інфармацыі, чым ведалі пра зону "ліквідатары", якія адпрацавалі ў зоне па некалькі гадоў.

На картах і ў афіцыйных дакументах няма назваў асобных урочышчаў, вясковых вуліц, а тым больш дрэў і іншых прыродных аб'ектаў. А вось з вершаў М. Мятліцкага мы даведваемся, што ў раёне радыеактыўнага могільніка былі ўрочышчы Пель, малая Пель і Вялікая Пель, што ў балоце ўрочышча Майдан падчас вайны ратаваліся ад немцаў мясцовыя жыхары. Што былі яшчэ ўрочышчы Бярозавы Аблог, Калешня, Млінцовы Мох, Шохаў Мох, Жукаўскае Поле, Нізінкі, была вуліца пад афіцыйнай назвай Каліноўскага і вуліца, якая звалася па-мясцоваму Брахліўкай, былі Чумацкі шлях і Мікалаеў Дуб. І што на вяселлі бабчынцы ездзілі ў вёску Арэвічы на беразе Прыпяці, а нявест бралі з Варатца.

Вуліцы, двары, хаты Бабчына, Пагоннага, Уласаў, Масанаў, Баршчэўкі і іншых вёсак, прыгаданых у вершах М. Мятліцкага, адыходзяць у нябыт, але яны застануцца ў памяці людзей дзякуючы вершам. І дзякуючы ім таксама застануцца ў памяці людзі: завуч школы Уладзімір Фёдаравіч, настаўніца літаратуры Эмілія Мечыславаўна, добрая матэматычка Вера Рыгораўна, хімічка Ніна Дзянісаўна. І іх вучні і суседзі: Шурык Палуян, Паўлік Голуб, Паліна Казлова, Васіль Шаўлоўскі, Часлаў Пяткевіч, каваль Якуб, цётка Анюта. І проста назвыння толькі па імені: Зоя, Вара, Ліза, Нюра, Манька... Прыведзеныя і іншыя імёны з'яўляюцца і загалоўкамі вершаў. Вынясенне ў загаловак галоўнага аб'екта верша ўвогуле характэрна для М. Мятліцкага. Многія аб'екты з'яўляюцца часткамі прыроды ці асобнымі яе з'явамі: "Бяссмернік", "Зязюля", "Жураўлі", "Лісвяны дух", "Сажалка", "Вецер", "Пчала", "Ластаўкі". Экалагічнасць, сувязь з роднай прыродай праяўляецца і ў пачатку многіх іншых твораў: "Тры шапоткія асіны...", "Яшчэ лясы не вымыты залевамі...", "Як макаў цвет!..", "Жаўтаротае сонца — нябёс птушаня...", "Вяз — старэчы шаптун...", "Шапталася з ветрам каліна..", "Як паранены птах...", "Аерам усланы падворак...", "Нізкаросламу хвойніку...", "Упрэлы дух кары дубовай...", "Зігзагамі між сосен...". Непарыўная сувязь з мясцовымі геаграфічнымі назвамі, з прыродай і яе з'явамі, з канкрэтнымі людзьмі і іх жыццём робіць вершы М. Мятліцкага праўдзівымі, дакладнымі. У выніку яны з'яўляюцца дакументальным сведчаннем хады і наступстваў чарнобыльскай катастрофы не толькі з мастацка-літаратурных пазіцый, але і ў экалагічных адносінах.

Сувязь з роднай прыродай, экалагізм — характэрная і традыцыйная рыса беларускай літаратуры (Гусоўскі, Багдановіч, Купала, Колас, Маўр, Караткевіч, Чыгрынаў...). У М. Мятліцкага гэтая сувязь праявілася ў абвостраным, можа, нават часткова гіпертрафіраваным выглядзе. Ілюстрацыяй апошняга меркавання можа служыць верш "Чатырыста сорак тры". Аўтар мае на ўвазе 443 мілірэнтгены ў гадзіну: "Чатырыста сорак тры ў вёсчацы мілірэнтгены", прычым адносіць гэты паказчык не толькі да вёскі ў цэлым, а і да ўнутраных памяшканняў, і да вады крыніцы, і да сцябла аеру. Іх узровень забруджання радыенуклідамі значна ніжэй за навакольнае асяроддзе. І вымяраецца не ў мілі, а мікрарэнтгенамі, г. зн. паказчыкам у тысячу разоў меншым. Невядома, знарочыстая гэта агаворка, ці свядомая "паэтычная вольнасць", перабольшанне. Але і ў тым, і ў другім выпадках гэта досыць апраўдана. Калі гэта проста агаворка, то ў гэтым няма нічога дзіўнага: спецыялісты так заблыталі мясцовых жыхароў рознымі бекерэлямі, кюры, грэямі, зівертамі, бэрамі, рэнтгенамі з прыстаўкамі мілі, мікра, нана, піко, што не складана камусьці і агаварыцца, а другому перадаць гэтую агаворку ў запісе. Калі ж гэта свядомая гіпербала, што ж — гэта аўтарскае права, асабліва пасля таго, як жыхарам Бабчына, Ламачоў, Тульгавіч, Стрэлічава, Савічаў і іншых пагранічных зоне вёсак месяцамі і гадамі даводзілі, што ўзровень радыяцыі ў месцах іх пражывання не выклікае трывогі, што ў Прыпяці адбылася не найвялікшая экалагічная катастрофа, а проста аварыя, якую нібыта можна гэтак як проста ліквідаваць; нездарма амаль 100 тысяч беларусаў нават цяпер, больш чым праз дзесяць гадоў пасля катастрофы, носяць пасведчанні са словамі "ліквідатар наступстваў аварыі". Што да сапраўднага ўзроўню радыяцыі, дык ён у Бабчыне ў чэрвені 1986 года хістаўся ў межах 400—1000 мікрарэнтгенаў у гадзіну і толькі ў раёне міліцэйскага паста ў лесе каля свінакомплексу і на пасецы лясніцтва дасягаў 2000 мікрарэнтген (2 мілірэнтгены).

Некаторыя навуковыя недакладнасці не змяншаюць у цэлым дакладнага, праўдзівага адлюстравання экалагічнай і жыццёвай сітуацыі ў беларускай частцы зоны Чарнобыльскай АЭС. Чарнобыльскі цыкл вершаў М. Мятліцкага заслугоўвае самай высокай ацэнкі як шырокіх колаў чытачоў, так і спецыялістаў.

**А. ФАМЕНКАЎ,**
**навуковы супрацоўнік Інстытута заалогіі НАНБ**

архіварыусам Віленскага цэнтральнага архіва старажытных актаў, адначасова выкладаў у мясцовых гімназіях. На гэты час прыпадае складанне пры яго ўдзеле 10-томнага вопісу дакументаў архіва, напісанне ім нарысаў "Беларусы", "Літоўцы", "Нацыяналізм як сацыялагічная ідэя" і іншых, якія з'явіліся ў перыёдыцы, а таксама некалькі кніг, што асвятляюць падзеі Айчыннай вайны 1812 года, дзейнасць Кацярыны II, асэнсоўваюць праблемы прыгоннага права ў Расіі.

Канечне, да творчай спадчыны Ф. Кудрынскага нельга падыходзіць адназначна. Усё ж ён жыў у сваім часе. Прынамсі, можна сустрэць асобныя "нацяжкі" ў нарысе "Беларусы", што дало падставы рэдакцыі газеты "Свабода" надрукаваць фрагменты з яго ў 1993 годзе, убачыўшы ў змесце толькі афіцыйную расійскую прапаганду таго часу.

Пасля 1917 года Ф. Кудрынскі жыў у Ленінградзе, працаваў бібліятэкарам. "Можна выказаць меркаванне, — сведчыць В. Скалабан, — што падтрымліваў творчыя кантакты з беларускімі вучонымі". Калі ж у 1925 годзе была створана ў БССР Рэспубліканская камісія для выяўлення архіўных матэрыялаў, што знаходзіліся ў Расіі, і вяртання іх на радзіму, было вырашана прыцягнуць да гэтай важнай справы і Ф. Кудрынскага. Памёр Фядот Андрэевіч у 1933 годзе.

Творчая спадчына Ф. Кудрынскага вартая быць сабраная разам. Але гэта, як кажуць, справа лепшых часоў. Пакуль жа варта ўсцешыцца і перадрукам кнігі "Людская хвалі. Бежанцы".

Няма сумнення, што аўтар твора валодаў несумненнымі творчымі задаткамі. І хоць гэта па жанры дакументальная аповесць, яна напісана празаікам. Ф. Кудрынскі адчуваў слова, умеў выхапіць з багатых назіранняў найбольш істотнае і важнае, каб стварыць каларытны малюнак людской безвыходнасці. Адчуванне такое, што з месца не па сваёй волі зрушылася ўся краіна. І гэтыя ўцёкі па сутнасці ў нікуды, бо нідзе бежанцы не могуць знайсці належнага прыстанішча і нікому яны непатрэбны:

"Беженцев вначале можно было принять за каких-то белых цыган, или за переселенцев после пожара, везущих что уцелело. Арбы большей частью вместительны. Внутри арб дети и женщины. Там же — перины, подушки, кухонная убогая утварь, рожь, тюки сена, мешок хлеба, сноп овса, дрова. Иногда в углу подвешен образок. Снаружи к арбе привязаны котелки, жестяная посуда. И все это медленно тянут сотни вёрст. Большинство арб меньшего типа движется одной лошадью, запряженной в дугу. Иногда, впрочем, и у дышла идет только одна лошадь. Другая пала... Некоторые лошади идут так, что вот-вот, кажется, упадут. Хозяин чувствует это и тревожно поглядывает на своего верного слугу, можно сказать, на "члена семьи", треплет его по спине. На подъемах помогает ему, подталкивая плечом арбу".

Ф. Кудрынскі пераканаўча расказвае, як і ў гэтым драматычным, а часам і трагічным становішчы знаходзіліся ахвочыя разжыцца за кошт бедакоў, як людзі, падуладныя роспачы, нярэдка ператвараліся ў звычайны натоўп. У аповесці суседнічаюць дзве плыні — аўтарскі аповед аб убачаным і сведчанні саміх бежанцаў.

Гэта тая ж балючая праўда, што і ў запісках М. Гарэцкага "На імперыялістычнай вайне", бо і тут — свая імперыялістычная вайна, яе крывавы след, што кранаецца безабаронных душ. А яшчэ ёсць у аповесці момант, які міжволі выклікае асацыяцыю з нашым нядаўнім мінулым:

"У пня, сидя в самой неудобной позе на полене, парень что-то пишет. Подхожу. Листок сплошь исписан именами.

— Это, — говорит, — все земляки, из моего села. Чтоб не забыть.

На листке стоял 118 номер.

— А сколько всех?

— Сотни три...

— И всех помните?

— Так по хатам и вспоминаю. Приятно такое писать..."

Быццам паслячарнобыльская рэчаіснасць. Нібы "разлятаюцца па свеце жыхары з вёсак, якія адсяляюць. І знайшоўся сярод іх той, каму захацелася запомніць усіх сваіх землякоў. Запомніць, каб гэты ўспамін у далейшым саграваў яго душу далёка ад роднага гнязда.

У аповесці відочны матыў Беларусі-пакутніцы. І не так важна, што Ф. Кудрынскі пра гэта прама не гаварыў. Галоўнае ў іншым: пішучы сваіх "Бежанцаў", ён пісаў і з думкай пра беларусаў. І пра тых, якія, як маглі, дапамагалі пакутнікам, што воляй лёсу апынуліся ў Рагачове, і пра беларусаў, сарваных ваенным ліхалеццем з абжытых месц, вымушаных шукаць новы прыстанак і не знаходзячы яго...

Застаецца паўтарыць услед за В. Скалабанам: "Гэта —унікальны дакумент, напісаны рукой таленавітага вучонага, педагога, пісьменніка, чыё імя яшчэ не заняло, але мы ўпэўнены, зойме свае дастойнае месца ў гісторыі беларускай культуры".

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## Кнігі з дома Купалы

**Нядаўна прайшла Міжнародная навуковая канферэнцыя "Янка Купала і "Наша Ніва". Для тых, хто не меў магчымасці на ёй прысутнічаць, даклады, аб'яднаныя ў адну кнігу, выдадзены ў свет. Зрабілі гэта Купалаў музей, Міністэрства культуры Беларусі і Міжнародны фонд Я. Купалы пры дапамозе Беларускага выдавецтва таварыства "Хата".**

**Ужо назвы даследаванняў, якія ўвайшлі ў кнігу, гавораць самі за сябе: "Наша Ніва" і беларуская паэтычная традыцыя", "Н.Н." і развіццё беларускай прозы ў пачатку XX стагоддзя", "Нашаніўскія скрыжаванні: Я. Купала і С. Палуян", "Н.Н." і традыцыі народна-дыялектнай мовы", "Дуалізм купалаўскай міфалагічнай сістэмы", "Сацыяльная воля чалавека і гістарычныя магчымасці часу і літаратуры нашаніўскай пары ("Магіла льва" Я. Купалы і "Антон" М. Гацэркага)", "Пра некаторыя прыёмы экспрэсівізацыі (на матэрыяле малых публіцыстычных жанраў "Нашай Нівы")" ды іншыя.**

**Цікавы зборнік яшчэ й тым, што менавіта ў ім сабраны даследаванні пра "Н.Н." навукоўцаў з-за мяжы (прычым, не толькі эмігрантаў, але і прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў). У "Дадатку" друкуюцца артыкулы Станіслава Станкевіча, Томаса Бэрда, Янкі Запрудніка і іншых.**

**На заканчэнне хочацца сказаць, што названая кніга — не першая з выдадзеных Літаратурным музеем Янкі Купалы. Раней выйшлі зборнік вершаў мінскіх школьнікаў пра Песняра і Беларусь "Рэха продкаў", матэрыялы Міжнародных чытанняў "Я. Купала — публіцыст". Неўзабаве выйдзе брашура "Прытулак любові — Купалаўскі дом" — пра Дом-музей нашага класіка.**

**Уладзімір ПУЧЫНСКІ**

## Урок у "Юнацтве"

**У выдавецтве "Юнацтва" прайшоў традыцыйны, але незвычайны ўрок беларускай літаратуры. Незвычайнасць яго ў тым, што слухачамі былі не вучні школ і ліцэяў, а намеснікі дырэктараў па вучэбна-выхаваўчай рабоце базавых школ Мінскай вобласці.**

**Пра стан сучаснай літаратуры і кнігавыдання жаданым гасцям расказалі дырэктар выдавецтва, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь паэт Валянцін ЛУКША, яго калегі па выдавецтве Міхась Пазнякоў, Уладзімір Карызна, Міхась Зарэмба, Уладзімір Марук, Уладзімір Мазго.**

**Адбылася зацікаўленая размова аб ролі роднай літаратуры ў выхаванні падрастаючага пакалення.**

**Н. К.**

## "Роднае слова", N 11

**Літаратурны партрэт Ц. Гартнага "Пясняр працы і змагання" напісала Т. Дасаева. Нёман у творчасці Я. Коласа — тэма артыкула А. Пяткевіча "Рака, што працякала праз сэрца". Працягваецца цыкл артыкулаў І. Навуменкі пра М. Багдановіча. Гэтым разам прапануецца чарговы — "Як зрабілася, што пакахаў цябе я...", у якім даследуюцца жаночыя вобразы ў творчасці слыннага песняра. "Біблейскія вобразы ў апавяданні Максіма Гарэцкага "Рускі" — у полі зроку А. Пятровіча.**

**У рубрыцы "Род блізкі і далёкі" прапануюцца артыкулы "Сын" Л. Ракавай, "Вырас Янучок — і Янкам стаў" П. Міхайлава і "Сын, пасынак" А. Осіпчык. "Вечная мелодыя кахання" — вершы В. Шніпа і Л. Рублеўскай. Нязменны вядучы "Літаратурнага ветразя" М. Скобла знаёміць з перакладамі вершаў К. Гарацыя і М. Гумілёва, зробленымі С. Патаранскім і А. Кірыновічам. Пра лёсы удзельнікаў літаратурнага аб'яднання "Тавізаўцы" ("Таварыства аматараў выпіць і закусіць") распавядае Л. Юрэвіч.**

**У раздзеле "Культура" — артыкулы А. Шапашнікавай "З сонцам развітанне..." (вобраз восені ў творчасці беларускіх мастакоў) і В. Скорабагатава "Песню ноч сваю пяе..." (рамансы М. Шчаглова-Куліковіча).**

**Змешчаны "Слова пра Міхася Ларчанку" У. Навумовіча, нататкі В. Краснея з Рэспубліканскай алімпіяды па беларускай мове "Лінгвістычны конкурс", пачатак артыкула Т. Шамякінай "Культура Кітая", юбілейная нататка пра В. Лукшу ў сувязі з яго 60-годдзем, а таксама вершы юбіляра і тэксты песень на яго словы, артыкул У. Содаля да 185-годдзя з дня нараджэння П. Багрыма "Крашынскае рэха" і іншыя матэрыялы.**

ВІНШУЕМ!

# "Толькі дабра жадаю!"

## Алене Васілевіч — 75

Люблю, хвалююся — жыву. У гэтых трапяткіх словах — сэнс жыцця і творчасці Алены Васілевіч.

Чытаю, перачытваю любімыя старонкі, адчуваю ў іх "и божество, и вдохновенье" пісьменніцы. Людскія трывогі, перажыванні і захапленні ўваскрасаюць у кнігах, незалежна ад узросту герояў.

Тэтралогія "Пачакай, затрымайся..." (зорная кніга А. Васілевіч), "Мыс Добрай Надзеі", "Як я быў доктарам", "Калінавая рукавічка", "Элегія"... Выдатныя пераклады: "Гусі-лебедзі ляцяць" Міхайлы Стэльмаха, "Хлопчык Мотл" Шалом-Алейхема, у якіх жыве шчодрая мова роднай Случчыны, адзначаны вы-сокім майстэрствам. На любоў адказваюць любоўю. І нездарма творы пісьменніцы з'явіліся на розных мовах рэспублік былога Саюза. Сустрэчы з нашымі сябрамі. Сустрэчы, якія прыносілі радасць і аўтарам, і чытачам, можна назваць урокамі выхавання. Праблемы развіцця культуры глыбока турбуюць Алену Васілевіч, якая доўгі час працавала ў выдавецтвах Беларусі. Зніклі з планаў яркія фарбы "Далягляда", юнацкі альманах "Ветразь", серыя "Паэзія народаў свету"... Адзінае, што цешыць, — выхад у свет унікальнай бібліятэкі дзіцячай літаратуры розных народаў. Калі мы гаворым з Аленай на нашы балючыя тэмы, усё ж верым у аднаўленне добрых творчых сувязей — без межаў, без мытняў.

"Люблю, хвалююся — жыву" — навелы, літаратурныя партрэты, эсэ — адкрываюць планету духоўнага жыцця пісьменніцы вялікага таленту. Дарога ад "Незахмуранай вяршыні" талстоўскага Хаджы Мурата — да першых кніг маладых беларускіх пісьменнікаў, — пакручастая, неспакойная, у калдобінах. Як добра, што на гэтай дарозе людзей падтрымала ласкавая і мужная рука Алены Васілевіч! Гэта яна блаславіла на творчае жыццё аповесць Міхася Клебановіча "Іван Аляксеевіч", "Мадонну з Выселкаў" медыка Марыі Філіповіч. Дарэчы, нястомна клапацілася аб уладкаванні, бытавых праблемах Марыі.

Не магу без хвалявання чытаць натхнёнае слова пра першую кнігу Ніны Мацяш, якая сама, праз пэўны час, стала майстрам нашай літаратуры: "Першую кнігу паэта можна параўнаць з вясновай песняй першага жаўрука. Сапраўды: і песня і кніга — абедзве яны прыносяць з сабой залог тае надзеі, без якой няма паэзіі, няма радасці жыцця..."

Некалі А. Васілевіч з непрыхаваным захапленнем пісала пра "Таямнічасць агню" — першую кнігу Леаніда Галубовіча, называючы яго сынам вёскі, яе паэтам і філосафам. А ўжо сёння Л. Галубовіч сур'ёзна гаворыць з Аленай Васілевіч ("Крыніца", 1996). Пытанні, адказы раскрываюць інтэлектуальны і душэўны свет выдатнай пісьменніцы і яе літаратурнага сына:



— **Наколькі для вас творчасць ёсць катарга, наколькі — воля?**

— Я не ведаю пакут ад літара-

Алена ВАСІЛЕВІЧ

# РЭАНІМАЦЫЯ

ЭСКІЗ

Намаганнем волі ён забараніў сабе думаць пра смерць.

У яго была яшчэ, пэўна, гадзіна дарогі. На "хуткай" — да бальніцы. Была, можа, апошняя магчымасць штó ўспомніць, з чым, можа, назаўсёды развітацца. І ўсё роўна...

Ён забараніў сабе думаць пра смерць.

...Мінулася Лясішча. Маляўнічая мясціна светлага змешанага лесу. Як ні дзіўна, зусім не засмечанага, не згвалтаванага — як амаль скрозь цяпер — ганебнай сённяшняй цывілізацыяй... Па першалеццi, колькі помнілася яму, як нідзе ў іншым знаёмым лесе, усё тут, нібы жарам, усыпана было выспелымі на сонцы аж чорнымі духмянымі суніцамі. І нават паветра дыхала тут сунічным цяплом і пахам. За суніцамі ішлі чарніцы. У жніўні тапырыўся і спеліў свой тавар цубкі брусні́чнік, аж знемагаў, да зямлі гнуўся абцяжараны арэшнік. І тут жа заступала сваю пару грыбное раскашаванне.

Яны з жонкай ззамаладу яшчэ ведалі гэтыя мясціны і, не спадзеючыся ні на які казённы падвоз, самі, на веласіпедах, ездзілі сюды кожнае лета і восень. Па-радасны, і ні з чым не параўнаны набытак, па цялеснае здароўе і зайздросны імпэт жыцця. Залатым праменьчыкам Лясішча горача кранулася аднаго дзіўнага яго ўспаміну. У іх з жонкай у аддаленым зацішку была аблюбаваная там старая яліна з непраглядньімі шатамі. Яна давала ім схоў, калі ў лесе выпадкова заставаў іх дождж. А ў гарачыню ў яе ўтульнай зялёнай прахалодзе яны слалі сабе рамантычную пасцель з пахучых яловых лапак і папаратніку. Усмак падсілкаваўшыся, яны гэтак жа ўсмак і засыналі на той царскай рамантычнай пасцелі. Там аднойчы ў жонкі няўзнак саскаўзнуў з пальца заручальны пярсцёнак. Яна агледзелася і ўспомніла пра яго — бо ніколі не здымала з рукі — недзе, можа, праз тыдзень. І страшэнна пакутавала і нават плакала, не ведаючы, дзе і калі яна яго згубіла. Згубіць заручальны пярсцёнак была нядобрая прыкмета: згубіць сямейнае шчасце...

Недзе на трэці ці на чацвёрты год, ужо добра пад восень, калі сама пайшлі каржакаватыя баравікі-цельпукі, яны з жонкай выбраліся ў Лясішча і трапілі якраз пад дождж. Яны ўспомнілі пра сваю яліну і пасп'яшалі да яе схову. Колішняй рамантычнай іх пасцелі з папаратніку, вядома ж, не засталося і следу... З-пад маленечкай зялёнай лапкі, збітай ветрам долу, кругленька свяціўся, ззяў, праменіўся... жончын заручальны пярсцёнак... Яны доўга, многія гады ідучы поплеч, адчувалі сябе і здаровымі, і маладымі.

А ўчора, калі ён з недалёкага, дзе адпачываў, санаторыя прыехаў на суботу да сябе на дачу пабачыцца з сям'ёю, жонка, ці не ўпершыню, пажалілася яму на свае ногі і папрасіла ўскапаць ёй граду пад памідоры. І ён таксама, ці не ўпершыню, усур'ёз звярнуў увагу на яе ногі, як перавітыя трамбозам хваравітымі сінімі венамі. І раптам здагадаўся, чаму яна заўсёды, і летам нават, у цяпло, хадзіла ў панчохах. І толькі тут, на дачы, скінула іх, не сарамеючыся чужых людскіх вачэй. Да таго ж такая лілася цяплынь і нябесная лагода... Ён з ахвотай ускапаў граду пад памідоры і прынёс жонцы яшчэ некалькі вёдзер цёплай вады з недалёкай сажалкі — паліць капусту. І ўвесь час, пакуль ён быў заняты гэтай нямудрай работай, нехта нябачны як бы ўсё нагадваў яму і настойліва паўтараў: маладосць мінулася і засталася далёка ззаду...

...Лясішча прамільгнула, як лёгкі сон. І неўзабаве на пустой, адкрытай усім вятрыскам, непагляднай мясціне пайшла збітая ў кучу чарада шэрых мудрагелістых катэджаў. Яшчэ недабудаваных і пад дахам ужо, але не заселеных, не абжытых, не абсаджаных ні дрэўцам, ні кусцікам жывое зеляніны. Нечакана мільгнула дзіўнаватае параўнанне: нібыта могільнік з бетону нечай ашалелай задуме і ўяўленню, сярод якога хадзілі і смыкалі палын і сухую траву, як прывідныя козы... Недзе тут, сярод гэтага бетоннага стоўпішча, тузаўся і не відно было яму канца, і катэдж яго сына. Сын меў добрую кватэру ў горадзе, але, займаючы болей чым забяспечаную пасаду б о с а па міжнародным турызме і не ведаючы, што рабіць з грашыма, выбіў у тых, хто меў не толькі грошы, а яшчэ і непадкантрольную ўладу, дазвол сабе і на катэдж. Вельмі ж хацелася жыць у катэджы і жонцы. Хацелася, да таго ж, каб была і гарантаваная н е р у х о м а с ц ь. Падрастала двое дзяцей, а час такі скрутны... Нездарма ўсе, хто мае галаву і не гібее на дзяржаўнай незарплаце, кінуліся будаваць катэджы.

...Учора, на дачы, яны згулялі з сынам партыю ў шахматы. З хлапчукамі-ўнукамі пасядзеў ён каля іх камп'ютэра, паназіраў за іх кемлівасцю і здольнасцю прадбачыць і перамагаць... Самаму старэйшаму гэтыя гульні ў захопы і разгромы, у страляніну і ўцёкі былі ўжо добра вядомыя і не надта цікавыя, а малодшыя — абодва аж гарэлі ад азарту. "Мы з табой набудзем больш складаныя і цікавыя праграмы", — паабяцаў ён старэйшаму ўнуку, які гадаваўся без бацькі. Самы малодшы — сынаў — пачуў і пахваліўся: "А мне мой тата купіць яшчэ лепшы камп'ютэр!" "А вось і не лепшы!" — сярэдні ўнук, брат старэйшага, таксама спадзяваўся толькі на дзеда... Самая меншая — шасцігадовая — унучка запатрабавала яго ўвагі і да сябе таксама, і ён панасіў яе на плячах і пад яе шчаслівы смех і піск, пагушкаў на адной назе... Потым абедалі. Жонка з дачкой і нявесткай (другая дачка не любіла і на дачу ніколі не ездзіла) прыгатавалі святочны абед і накрылі стол на густоўны гарадскі манер. Да таго ж з каньяком для мужчын і лёгкім віном жанчынам. Сын прывёз з Іспаніі, дзе ён адпачываў з жонкай і дзецьмі. Цяпер яны, пакуль у іх гарадской кватэры заканчваўся — пад ключ — еўрарамонт, часова атабарыліся на бацькавай дачы, таксама не з горшых.

Пасля абеду жонка прапанавала яму прылегчы і адпачыць, але ён адмовіўся. Ён раптам адчуў нейкую незразумелую даўкую сумоту. Яму захацелася вярнуцца ў свой санаторый, куды ён прыехаў два тыдні назад, захацелася спакою і цішыні. Захацелася ўбачыць маладзенькую суседку па стале Ірачку... Яе імклівую хаду. Яе загарэлыя тонкія рукі і высокія зграбныя ногі, абцягнутыя моднымі фірмовымі джынсамі. І гэта смешнае, разлічанае, дзявочае памкненне прыхаваць і адначасова спакушаць скрозь цененькую блюзачку смуглымі грудкамі пад вузенькім бялюткім станікам... Захацелася пачуць яе прыкметна наўмыснае, з прывабнай лянотай, запаволенае маўленне. І смяшлівы, з няпэўным як бы абяцаннем, загадкавы позірк іскрыстых, як зманлівая хваля, зялёных вачэй. Ірачка неспасціжна як усім сваім аблíччам, так і паводзінамі нагадвала яму Любу Богдан — яго колішнюю інстытуцкую аднакурсніцу, у якую ён быў шалёна закаханы.

(Думалася, што ўсё даўно забылася, аказваецца, зусім не забылася).

Яму раптам захацелася ўбачыць сваю суседку па стале Ірачку.

...Сын, "ужыўшы", як ён вызначаў уласны стан у падобных выпадках, не адважваўся завезці бацьку ў санаторый на сваім новенькім "мерседэсе" (хоць — на словах — няпэўна і падахвочваўся). Вядома ж, была рызыка нарвацца на даішнікаў... І бацька сам запратэставаў: ні ў якім разе! Субота, і ўсе едуць на дачы, а не з дач... І таму аўтобус у яго бок пойдзе пусты. За гадзіну ён будзе на месцы. Яшчэ і адпачыць паспее да вячэры... Жонка не ўгаворвала: што яму тут і сапраўды заставацца ў гэтым дачным гармідары з дзецьмі, з іх назаляннем: "Дзед, зрабі гэта! Дзед, дагані, дзед, пагушкай!.." Калі былі

туры. Мне хапае майго жыцця... Гэта, аднак, зусім не азначае, што пішацца мне лёгка. Кожны сказ на новай сваёй старонцы — сама з сабою — я прамаўляю, агучваю не адзін раз, не два, не сем разоў, часам! Пакуль — на слых — не загучыць ён у адпаведнай — на гэты момант — адзіна патрэбнай мне танальнасці...

**— Вы — укаранелая традыцыяналістка ў літаратуры. Але ж, пэўна, адчуваеце, як літаратура пачынае задыхацца сама ад сябе — ад напісанага, назапашанага, напластаванага стагоддзямі... Ды і тое выцясняецца з духоўнага ўжытку тэлеэкранам, кіно, камп'ютэрнымі праграмамі... Ці не таму адны кідаюцца ў пошукі формы, стылю, мыслення, а іншыя зарабляюць грошы на дэтэктыўнай, эратычнай ды падобнай ім макулатуры. Што рабіць Слову, каб не ўпусціць Чалавека?**

— Я сапраўды — "укаранелая". Я не навучылася ні хадзіць на галаве, ні станавіцца на катурны. І ўсё ж не магу не пагадзіцца з вамі: наша беларуская літаратура мае патрэбу ў абнаўленні. Найперш, стылю, творчай манеры, ды і побыт, і мова, і насельнікі яе... А то ўсё яшчэ тупаюць па старонках дзяды Астапы ды Петручкі ў шарачковых портках... Не пагаджуся з вамі, мусіць, у адным, што літаратура "задыхаецца" ад "назапашанага, напластаванага стагоддзямі". Госпадзі, каб мы толькі ўмелі з гэтым "назапашаным" па-гаспадарску, цывілізавана, адукавана разабрацца!.. Што ж датычыць нашага тэлеэкрана, то не кажыце мне ні пра яго "праграмы", ні "паказы", ні "шоу-вячоркі".

І самае істотнае з вашага да мяне допыту — "Што рабіць Слову, каб не "ўпусціць Чалавека"? "Избави нас от лукавого". Шчырае Высокае Слова — яно мае гэткую ж боскую ўладу, калі звернута да розуму, да сэрца і сумлення (калі яны ёсць у Чалавека)...

Слова ўжо ўпусціла чалавека. А яшчэ болей упусціла грамадзяніна... у нашай дзяржаве.

**— Яшчэ да нядаўняга часу ўсе нашы беларускія літаратары былі выхадцамі з хат (з вёскі). І тут нічога надзвычайнага я не бачу: дзе жыла мова, там жыў яе творца. Сёння сітуацыя крыху змянілася. Прыходзіць у літаратуру гарадская моладзь. Калі вам даводзілася, скажам, чытаць Глобуса, Асташонка, Дубаўца, то ці з'яўлялася ў вас уражанне, што ў нашым пісьменстве адкрываецца новы зрэз беларускага жыцця, новы на яго погляд, новы светапогляд увогуле?**

— "Усе мы з хат" — гэта цудоўная кніга Янкі Сіпакова: усе мы — з хат... І проста выдатна, што ў нашу беларускую літаратуру за апошнія гады ўлілася і тэматычна яе пашырыла і ўзбагаціла, надаўшы ёй новыя колеры і гукі, гарадская моладзь... Праўда, у кожным з названых вамі імёнаў я бачу ўжо даўно "не мальчика, но мужа"... Вы мяне рассмяшылі "Калі вам даводзілася чытаць..." Што значыць "даводзілася чытаць"? Асташонка? Дубаўца? Ды я не толькі, як сваю Даманшчыну, ведаю Глобусава Койданава. Я, можна сказаць, прайшла "навуку" ў яго "Амстэрдаме"! Нам, укаранелым і ўтравелым, маладыя — і не толькі гарадскія! — цікавыя. Мы іх чытаем і ганарымся. Якія таленавітыя людзі прыйшлі ў літаратуру! Якія з'явіліся Асобы!"

Музыка Слова, што горача любіць Алена Васілевіч, з яшчэ большай сілай гучыць у другой яе кнізе навел, эцюдаў, эсэ. "Элегія"... Пашыраецца геаграфія сустрэч, паглыбляецца роздум над жыццём... Пачытайце "Сіньёр Джузеппе", "Дзедаў партрэт", "Літоўка", незабыўныя эсэ пра Уладзіміра Караткевіча, Васіля Вітку, Янку Брыля. Як шчыра і эмацыянальна напісана пра кожнага з іх, асабліва пра Брыля — "Жыві, працуй і смейся!"

Мяне прываблівае сама танальнасць кнігі, пластычная мова. А лірычна-задуменны настрой нагадвае Элегію Маснэ. Быццам слухаю голас з аркестрам. А ў ім — сэрцы розных людзей. У кожнага — свой непаўторны лёс, свае шляхі-дарогі, злітыя ў адно цэлае...

Калі вам захочацца на нейкі час адысці ад бытавых дробязей жыцця і апынуцца ў атмасферы дзіцячага вясёлага свету, — чытайце апавяданне "Як я быў доктарам". Мне не раз даводзілася разам з Аленай бываць на дзіцячых ранішніках у розных школах і бібліятэках не толькі Беларусі.

Помню, як у адной сельскай падмаскоўнай школе А. Васілевіч чытала па-беларуску свайго доктара, як радаваліся дзеці, як разумелі сэнс і адценні беларускага слова.

"Канец свету!" — весела вымаўляеш ты сваё любімае. Гэта бывае так, калі табе штосьці вельмі падабаецца.

Я ўдзячна жыццю за сяброўства не толькі з Аленай, але і з яе дзецьмі — героямі яе кніг. Асабліва з былым хатнім доктарам — Вовам. Цяпер ён, Уладзімір Васілевіч, таленавіты фалькларыст і педагог (да таго ж — малады дзед), неяк сарамліва запытвае: "Чаму ж звяртаецеся да мяне на вы? Хіба я не застаўся ранейшым?" Застаўся, застаўся! Помню, як мама сама гадавала цябе і Наташу, як ратавала вас ад розных хвароб і ў той жа час пісала таленавітыя творы на сур'ёзныя этычныя тэмы, дзе закранааася праблема выхавання сучаснага Чалавека. Ніколі не думала аб тым, што творчасць прынясе ёй ганаровыя званні —лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі і заслужанага работніка культуры...

У Алены Васілевіч — шчодрае, міласэрнае сэрца. Яна схіляецца не толькі над белаю старонкай, але і над белым ложкам цяжкахворага пісьменніка. Яна шукае і знаходзіць сваіх даўніх ваенных сябровак, з якімі працавала старшым пісарам страявой часці (1942), альбо ў вайсковай бібліятэцы. Яе душэўную спагаду і дапамогу адчулі ў бядзе многія адзінокія жанчыны-маці ў гады яе адданай працы ў рэдакцыі "Работніцы і сялянкі". Нездарма па закліку сэрца аб'ездзіла ўсю Беларусь!

...І я асабіста адчула яе дабрыню, яе міласэрнасць. Пасля смерці майго мужа Алена настаяла на тым, каб я разам з ёй паехала хоць на кароткі час на Іслач. "Не магу глядзець, як ты пакутуеш!" Калі ж мы трапілі ў нечаканую для верасня халадзіну, усё папракала сама сябе: "Навошта я пацягнула сюды цябе? Хоць бы ты не захварэла!" І прыносіла дадатковыя коўдры і падушкі...

Дарагая Алена! Дзякуй табе за шчырае сяброўства! Твае аўтографы на цудоўных кнігах успрымаю як пажаданне не толькі мне, а ўсім блізкім табе людзям: "Жадаю табе Дабра. Толькі Дабра жадаю!"

Любі, хвалюйся і доўга-доўга жыві! Прынось людзям дабрыню сваёй разумнай душы, свайго крынічнага таленту!

**Эдзі АГНЯЦВЕТ**

---

дзед з бабай — на бацькоў яны і ўвагі не звярталі. Ды і бацькі не надта кідаліся ўлагоджваць іх... Сын з палёгкай згадзіўся з гадзінку пакімарыць і ўзняўся на мансарду. А жанкі з дзецьмі — усім гуртам — правялі яго на недалёкі аўтобусны прыпынак, і ён з палёгкай паехаў дабываць свой нуднаваты санаторны тэрмін.

...А назаўтра пасля снядання гэта і здарылася. Ён хацеў падняцца ў свой пакой на другім паверсе і не здолеў. Як на ватовых нагах, з праціўным чорна-жоўтым мігценнем у вачах ён ледзь дайшоў і, як чужы сам сабе, бездапаможна асеў на крэсла ў холе. Дзяжурны ўрач убачыў яго, завёў у ардынатарскую, змерыў ціск, доўга слухаў сэрца, лічыў пульс, і сам зрабіў электракардыяграму. І, гледзячы яму проста ў вочы, як громам аглушыў:

— Я вас адпраўлю ў бальніцу.

— Іван Ягоравіч, няўжо вы тут не знойдзеце мне рады?..

— Я зараз выклічу "хуткую", — заўсёды мяккі, усмешлівы твар доктара быў непранікнёны.

— У мяне інфаркт?..

— Пакуль паляжыце тут, у ардынатарскай. А рэчы вашы збярэ санітарка.

— Якія там рэчы...

Яму не хацелася ад'язджаць адсюль з белым флагам. І калі неўзабаве прыйшла "хуткая", і яму дапамаглі спусціцца з ганка, ён паспрабаваў яшчэ пажартаваць:

— У такі дзень можна кіравацца хоць куды...

— Куды кіравацца? — перапытаў Іван Ягоравіч.

— Ды хоць і туды... — слаба ўсміхнуўся ён, асцярожна апускаючы сваё дзіўна саслабелае цела ў медыцынскае дарожнае зручнае крэсла. ("Нямецкая машынка", — падтрымліваючы яго, як учора яго ўнук, пахваліўся "хуткаю" малады фельчар).

— З Богам! — паціснуў яму руку Іван Ягоравіч.

І "хуткая" кранулася з месца.

...Ён забараніў сабе думаць пра смерць.

І любае здаўна яго сэрцу Лясішча на нейкі момант адвяло яго думкі ад яе. Ён глядзеў за вакно і ніколі белы свет не здаваўся яму такім дарагім і мілым. Чаго ён найбольш шкадаваў? Жыцця, што так недарэчна раптоўна завісла на танюсенькай ненадзейнай нітачцы? Шкадаваў блізкіх? Жонку, дзяцей, унукаў?.. І раптам яму здалося, што ён абыякавы да іх. Што ж, калі ён нават і пакіне іх — яны застануцца і будуць жыць і хутка забудуць яго... У дзяцей, у кожнага, даўно сваё жыццё... Жонка хіба, калі ён не вынырне... Шкада было да болю, да сухіх слёз гэтага непераможнага зялёнага свету, што мільгаў за акном.

...Неўзабаве пайшлі — у густых прысадах — вуліцы мікрараёна, дзе жыла ў хрушчоўцы і ўдавела ўжо чатыры гады яго старэйшая дачка-настаўніца з двума хлапчукамі-падлеткамі. Дзякаваць Богу, яна ўдалася ў маці і ніколі нікому не скардзілася на свой лёс, знаходзячы ў сабе моц і адвагу змагацца і адольваць нялёгкае жыццё.

З усіх сваіх траіх дзяцей ён чамусьці найбольш шкадаваў і заўсёды адчуваў сябе вінаватым перад другой дачкою. У свой час ён забараніў ёй пайсці замуж за таго, каго яна сабе выбрала. "Толькі цераз мой труп!" (Абранец дачкі быў неграм.) Дачка не пайшла супраць бацькавай волі і засталася адна. І замкнулася, як на замок. Жыла асобна ў сваёй аднапакаёўцы (ён сам выстараўся ёй гэту незалежнасць ад роднай сям'і), ходзячы штодня ў нейкі мала цікавы ёй НДІ... Ён шкадаваў і злаваўся на яе: "Няўжо свет сышоўся клінам толькі на Афрыцы, каб вось гэтак, адной, усё жыццё заставацца бясплоднай смакоўніцай?.." Як гэта было ні жорстка, ён сам адшукаў ёй — у сваіх думках — гэта крыўднейшае "бясплодная смакоўніца". Ён ведаў, што гэта яго грэх, і не знаходзіў сабе даравання.

...Часта нядобра шкрэбла душу параўнанне лёсу ўласных дачок з жаночым лёсам нявесткі. Спраўнай, апетытнага ўзросту і даспелага, добрага ўкормленага хараства, кабеты. Але ж хіба можна было не любіць ці злаваць на яе толькі за гэта? Яна нарадзіла прыгожых здаровых дзяцей (а ім з жонкай — унукаў). І звала іх, свёкра і свякруху, лёгка і нязмушана: мама і тата (як не заўсёды звалі іх так і родныя дзеці). І ўсё роўна жонка не любіла нявестку. "Ліса", — звала яе за вочы. А ён — што ж ён? Як на мужчынскі пагляд, ён не адмаўляў нягоршых жаночых якасцяў нявесткі... Няцяжка, праўда, было здагадвацца, што пры зручным выпадку — збоку — нявестка наўрад ці адмовілася б ад настойлівай мужчынскай увагі. Як, дарэчы, не адмаўляўся ніколі ад жаночай увагі і ўласны іх сынок. Яшчэ калі ў школе вучыўся, бабуля, якая любіла яго болей за іншых унукаў, паблажліва смяялася: "Што ты з ім зробіш: любіць наш Алік дзяўчат. І дзяўчаты яго любяць". У сям'і сын з нявесткай ладзілі. Жылі лёгка і весела. Дык чаго было хацець ад іх?

Усе яны, яго дзеці, даўно жылі кожны сваім жыццём. Вось толькі жонка, калі ён не вынырне... А ён жа мог не вынырнуць яшчэ пасля даўняй студэнцкай іх вечарынкі... Калі ўсёй сваёй групай кіраваліся яны дагульваць ноч на Ленінскім праспекце. Люба Богдан, якую ён страшэнна кахаў, калі падыходзілі да старога моста, раптам заступіла ўсім дарогу і, гулліва-загадна ўзняўшы руку, паабяцала царскую ўзнагароду — пацалунак — мужчыне, які па драўлянай парэнчы пяройдзе Свіслач... Ён не быў п'яны. Але ж яны ўсе пілі на той вечарынцы... Як ні дзіўна, але за царскі пацалунак перайсці Свіслач па драўлянай парэнчы ахвотнікаў-мужчын не аказалася... На парэнчу ступіў ён.

— Віктар! — істэрычна закрычала і ўчапілася яму за рукаў Верачка Некрашэвіч (яго сённяшняя жонка), — Віцька, яна ж вар'ятка! Злезь! Злезь, Віцечка!

Люба Богдан толькі пасміхалася звужанымі зялёнымі адчайнымі вачыма.

— Пацалунак мужчыне за мною!

— Віцечка! Віцечка! — трымала яго за рукаў і плакала Верачка Некрашэвіч.

Ён паволі адвёў яе руку ўбок і зрабіў першы крок па драўлянай парэнчы.

Увесь раптам ацверазелы іх гурт, намагаючыся нячутна ступаць па драўляным насціле моста, падаўся ўслед за ім. Паперадзе, не зводзячы з яго воч, кіравалася Люба Богдан. Веры ён не бачыў, ды ён пра яе і не думаў. Той пераход яго, як амаль біблейскі пераход яўрэяў цераз Чэрмнае мора, цягнуўся бясконца. Ён ні разу не зірнуў уніз на прывідны чорны глянец вады, ён толькі, як у гіпнозе, раскінуўшы рукі, напружана глядзеў наперад, і нейкім падсвядомым вымярэннем вызначаў, што не дайшоў яшчэ і да сярэдзіны Свіслачы... Тыя з яго паплечнікаў, у каго не вытрымалі нервы, адсталі і вярнуліся назад. Следам за ім нячутна ступалі знямелыя адважныя... Сам ён ад непамернага напружання ў нагах, ад раптоўнага агіднага страху, што не вытрывае, не дацягне і сарвецца... Сам ён некалькі разоў прыпыняў сябе на момант, сціскаў усю сваю волю і зноў рабіў крок наперад. А потым зноў спыняўся на імгненне і зноў кіраваў сябе да свае вар'яцкае мэты.

Здавалася, гэтаму ніколі не будзе канца.

І ўсё ж канец надышоў.

Здавалася, ніхто не дыхаў нават. Ён сам, першы, падсвядома адчуў сваю перамогу над заклятай парэнчай, над самім сабою, над сваім агідным згубным страхам... Як нібыта нічога і не заставалася ззаду, ён саскочыў з падманнай парэнчы і, сам сабе не верачы, адчуў пад нагамі надзейную выратавальную зямлю... І сам сабе шчасліва засмяяўся.

Ён не звярнуў увагі на ашалелыя воклічы і воплескі сваіх паплечнікаў-балельшчыкаў — Люба Богдан, распластаўшы, як крылы, рукі прыпала да яго і сваімі ледзянымі вуснамі абпаліла яго немыя перасохлыя вусны.

Верачка Некрашэвіч стаяла непадалёк і плакала.

...Тым летам Люба Богдан пазнаёмілася і — надзіва ўсяму курсу — раптоўна пайшла замуж за слыннага паэта... А ён пачаў піць... Добрая верная Верачка Некрашэвіч не адступілася ад яго. І на злосць (якую — злосць?..) сваёй вераломнай каханцы ён ажаніўся з Верай. Яна абараніла яго ад яго бяды. І зрабіла шчаслівым чалавекам...

Люба Богдан — яна тады ўжо ганарылася прозвішчам свайго паэта — праз гады спілася і памерла яшчэ маладой.

...Драўлянага старога моста даўно ўжо не было, і мала хто помніў ужо яго. "Хуткая" праімчала па новым (хоць і ён даўно не быў ужо новы) — з манументальнымі ўзорыстымі чыгуннымі парэнчамі. Ён паспеў успомніць мост стары. Тыя звабныя драўляныя парэнчы. І ледзяны пацалунак Любы Богдан...

...У кірунку да рэзідэнцыі прэзідэнта рухаўся крыху дзіўны гурт, які на момант прыпыніў "хуткую". Ішлі юнакі і дзяўчаты, ішлі сталыя мужчыны і жанчыны і нават дзеці школьнага, пэўна, узросту. Усе яны неслі транспаранты з заклікамі, напісанымі буйнымі выразнымі словамі:

*Не аддамо наш Ліцэй!..*

*Ганьба дзяржаве, якая адбірае!..*

*Прэзідэнт, мы хочам вучыцца!..*

Гэта кіраваўся да прэзідэнта дзяржавы пікет Беларускага Нацыянальнага Ліцэя. Змаганне цягнулася з вясны і ўсё лета.

...Яму як вострым шылам кальнула раптам у грудзіну з левага боку. Яго ж Інстытуту — старэйшаму ў дзяржаве, з сусветнай навуковай вядомасцю і вагой, таксама пагражала... Яго ж Інстытут таксама атрымаў загад — усё з таго ж усеўладнага засаду — тэрмінова перасяліцца ў нейкую выпадковую гарадскую стадолу. Лёгка было сказаць "перасяліцца" — з усімі лабараторыямі, з усім невымернага кошту імпартным абсталяваннем і прыборамі, з абжытых, дасканала дзесяцігоддзямі прыстасаваных да Навукі кабінетаў... Дык і гэтага, аказваецца, было яшчэ замала. У мэтах адмаладжэння калектыву (сам прэзідэнт быў самым маладым сээнгэшным палітыкам!) — прыйшла папера зверху — жалезна дыктавалася перагледзець штатны расклад супрацоўнікаў Інстытута. І ўсіх, хто даслужыў да пенсійнага ўзросту, адпраўляць на заслужаны адпачынак... Навуковую эліту "на адпачынак" адпраўляць на аднолькавых падставах.

Ён быў заглаб — загадваў навуковай лабараторыяй. Гэтай вясной яму споўнілася пяцьдзесят дзевяць...

..."Хуткая" спынілася ля пад'езда прыёмнага пакоя. Малады прыветны фельчар памог яму ўзняцца з месца, памог выйсці з машыны і, прытрымліваючы пад руку, давёў да прыёмнага пакоя. Абыякавая з выгляду жанчына-ўрач, якая прымала і афармляла хворых, бегла зірнула яму ў твар, раз і другі перачытала накіраванне з санаторыя і ўзялася, каб пазваніць, за тэлефонную трубку.

— Будзем афармляць у рэанімацыю, — гэта ўжо адносілася да ўрача, які суправаджаў хворага на "хуткай".

"Рэанімацыя, дык рэанімацыя... — дзіўна безуважна адрэагаваў ён у думках на тое, як вырашыла яго лёс урач з прыёмнага пакоя. — Зрэшты, за дарогу я паспеў ужо рэанімаваць амаль усё сваё жыццё...."

Тут жа неўпрыкмет узнікла з бакавых дзвярэй санітарка — добра пажылая жанчына — з крэслам-каталкай.

— Давайце, родненькі, каб не балелі ножкі... — звычна фамільярна і ў той жа час спачуваючы, пасобіла яна ўстаць яму з канапы.

— Можа, я сам дайшоў бы...

— Не, тут ужо наша ўлада, тут ужо мы кіруем, — ўсміхнулася яму санітарка.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

...У панядзелак, у шэсць гадзін раніцы, у яго кватэры нязвычна трывожна зазваніў тэлефон.

— Я папрашу жонку Віктара Іванавіча...

— Гэта я... — спалохалася гэтага ранняга званка і незнаёмага жаночага голасу жонка.

— Вам звоняць з бальніцы... Учора да нас у рэанімацыю прывезлі вашага мужа...

— Як у бальніцу?!. Як у рэанімацыю!?. Ён жа пазаўчора...

— Мне цяжка паведамляць вам гэта...

Тэлефонная трубка выпала ў жонкі з рук.

## Святло яе вышыванак

**Дом Вольгі Каралёвай стаіць напрыканцы вёскі Пціч, але большасць землякоў яго добра ведае. З ранняй вясны да позняй восені вабяць вока размаітасцю фарбаў кветкі ў гародчыку. У самой жа хаце таксама можна ўбачыць вясёлкавыя ружы, макі, васількі, "анюціны вочкі" ды гваздзікі — на вышыванках. Часта на вышыванках сустракаюцца макі самых дзівосных колераў. Гаспадыня кажа, што такія бачыла. Калі сустрэне прыгожую кветку, абавязкова прыгледзіцца да пялёсткаў, запомніць спалучэнне адценкаў і паўтонаў.**

**Куды ні глянеш у хаце майстрыхі, абавязкова нечаму здзівішся. Займаецца В. Каралёва і вязаннем.**

**Вышыванкі вясковай майстрыхі дэманстраваліся ў мясцовым СДК, у Капаткевічах, на раённай (у Петрыкаве) і абласной выставах народных умельцаў.**

**А. ЛІСІЦКІ**

## Выхавацелька і паэтка

**Настаўнікі Капаткевіцкай школы-інтэрната Петрыкаўскага раёна прарочылі Надзеі Якімавай кар'еру педагога. Але крыху памыліліся. Яна скончыла Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут, стала рэжысёрам. Аднак праз гады лёс вярнуў яе дадому. Працуе выхавацелькай у інтэрнаце, прымае ўдзел у пастаноўках народнага драмтэатра. Нядаўна на яго сцэне адбылася яе творчая вечарына.**

**Землякі ведаюць Надзею і як паэтку. Яе вершы неаднаразова друкавала "раёнка". Вершы Н. Якімавай напеўныя і меладычныя, лёгка кладуцца на музыку. Самадзейны кампазітар Віктар Гайдаш напісаў на іх некалькі песень.**

**А. ЛАРЫЁНАЎ**

## Хто ты, Іван Світаннік?



**У Слонімскім драматычным тэатры адбылася прэм'ера спектакля для дзяцей "Іван Світаннік" па п'есе Галіны Каржанеўскай. Усе казачныя падзеі ў ім адбываюцца ў тыя часы, калі звяры і птушкі ўмелі размаўляць, калі дапамагалі людзям мячы-самасекі ды лапці-самаскокі. Жылі-былі тады тры браты — Іван Вячорнік, Іван Паўночнік ды Іван Світаннік. Пайшлі яны ў свет шукаць чароўную дудку. Шмат прыгод было на іх шляху. Толькі дзякуючы малодшаму брату Івану Світанніку ўдалося знайсці чароўную дудку і вызваліць з палаца Кашчэя Касю-красуню.**

**Ролю Касі-красуні выконвае артыстка Наталля Шугай. Гэта адзіная жаночая роля ў спектаклі. Але артыстка ўдала стварыла вобраз шчырай прыгажуні, якая падабаецца дзецям. Братоў Іванаў — Вячорніка, Паўночніка і Світанніка — іграюць артысты Сяргей Фурса, Аляксандр Шалахонаў і Васіль Сявец. Дарэчы, Васіль Сявец выконвае не толькі галоўную ролю ў спектаклі, але з'яўляецца яшчэ і яго рэжысёрам-пастаноўшчыкам. Вобраз бацькі — дэбют Барыса Кучынскага. Калі на першы раз не ўсё атрымалася ў стварэнні гэтага вобраза, дык музычнае афармленне спектакля заслугоўвае ўвагі. Б. Кучынскі аздобіў яго добрай музыкай.**

**У казцы "Іван Світаннік" ёсць толькі адзін адмоўны герой — гэта Кашчэй, ролю якога сыграў артыст Уладзімір Навумік. Кашчэй у яго выкананні атрымаўся хітрым і смешнаватым дзядком.**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

*На здымку: сцэна са спектакля "Іван Світаннік"*

КІНО

# Лістапад-97: Новы досвед чалавека?

***На міжнародным кінафестывалі "Лістапад-97" шмат гаварылі пра ажыванне кінематографа. Доказ гэтаму — конкурсная праграма фільмаў, якую склалі лепшыя семнаццаць(!) карцін гэтага года. Але ж колькасць, як вядома, не заўсёды паказчык якасці. Таму час нагадаць словы кінарэжысёра А. Таркоўскага: "Навошта людзі ходзяць ў кіно? Што прыводзіць іх у цёмную залу? Пошук забаў? Патрэба ў наркотыку?.. Чалавек ідзе туды па жыццёвы досвед, бо кінематограф, як ніводнае з мастацтваў, пашырае, узбагачае фактычны досвед чалавека, і пры гэтым ён яго не проста ўзбагачае, але робіць даўжэй, значна даўжэй... Вось у чым сапраўдная моц кіно, а не ў "зорках", не ў шаблонных сюжэтах, не ў забаўляльнасці".***

***Дык колькі ж з тых семнаццаці фільмаў узбагацілі і пашырылі жыццёвы досвед мінскіх гледачоў? Колькі хоць бы з прызёраў сёлетняга "Лістапада"?***

### "ВЯРТАННЕ БРАНЯНОСЦА"

Ужо трэці год (дзякуючы "Лістападу") я назіраю сумную заканамернасць: сталыя рэжысёры з сур'ёзнымі карцінамі ў мінулым, сёння здымаюць забаўляльныя "эпапеі": "Шырлі-мырлі" (У. Мяншоў), "Нясуць мяне коні" (У. Матыль). Сёлета гэты спіс папоўніла і новая стужка кінарэжысёра Генадзя Палокі "Вяртанне браняносца", якая адкрыла "Лістапад-97".

Адразу ўражвае, што ў галоўнай ролі фільма — "Браняносец "Пацёмкін" С. Эйзенштэйна. І гэты вялікі "акцёр", як вынікае з ўсёй карціны, толькі адзін і заслугоўвае ўвагі.

Былы чырвонаармеец, немец па паходжанні, Іяган Герц (М. Уржумцаў) прынцыповы і жорсткі, атрымлівае пасаду загадчыка адэскай біржы акцёраў. Час ужо паказаў: каб аб'ектыўна ацэньваць творы мастацтва, адной ідэалогіі недастаткова. Аднойчы Герц сутыкаецца з чалавекам, логіка ўчынкаў якога яму незразумела. Чаму нейкі маскоўскі рэжысёр С. Эйзенштэйн, які прыехаў у Адэсу здымаць свой новы фільм, запрашае з біржы не прафесійных акцёраў, а тэхнічны персанал? На шчасце, Вялікае мастацтва Эйзенштэйна перамагае Вялікі фармалізм Герца — "Браняносец "Пацёмкін" у 1926 годзе выходзіць на экраны. І Герц, пабачыўшы яго, вар'яцее.

Напэўна, самы моцны эпізод новай карціны Г. Палокі, калі "непрафесійныя" акцёры з біржы пазнаюць сябе ў фільме С. Эйзенштэйна: адзін—у рабочым, другая — у жанчыне, якая выпускае з рук дзіцячую каляску і тая скача па Пацёмкінскіх сходах. На мой погляд, задума Палокі адметная, — выявіць, падступіцца да здагадкі, хто былі тыя людзі, якія сыгралі ў "Браняносцы "Пацёмкіне" эпізадычныя ролі. Як і цэнтральны момант фільма — прэм'ера ў адным з адэскіх кінатэатраў карціны С. Эйзенштэйна.

Фільм "Вяртанне браняносца" да "Лістапада" атрымаў некалькі прызоў, адзін з якіх — прыз "Надзея". Ён быў уручаны акцёрам М. Уржумцаву і Л. Патапавай, якая сыграла адразу "дзве" ролі: каханую Герца ў Палокі і маці забітага хлопчыка на Пацёмкінскіх сходах у фільме С. Эйзенштэйна. Здаецца, правіла Эйзенштэйна — не здымаць прафесійных акцёраў, выкарыстаў і Г. Палока. Бо і М. Уржумцаў (хоць на "Лістападзе-97" ён атрымаў прыз за лепшую мужчынскую ролю), і Л. Патапава, і ўжо вядомыя акцёры А. Маёрава, Т. Васільева, І. Бортнік, В. Носік, Б. Новікаў. І. Кваша, А. Булдакоў сыгралі (ці імкнуліся сыграць) як непрафесійнікі. Ці не як прафесійнікі. Паводле Г. Палокі, ён з'яўляецца аматарам балагана ў кіно. А ў балагане, як вядома, кожны цягне кліента ў свой бок. Таму роля прастытуткі Верачкі, на жаль, не лепшая роля А. Маёравай (памяці якой быў прысвечаны паказ фільма ў Мінску): жыццёвай энергіі актрысы, на жаль, выстачала... больш як майстэрства.

Калі глядзела новы фільм Г. Палокі, пашкадавала, што сёлета на "Лістапад" не прыехаў яго заўсёднік расейскі рэжысёр Алег Кавалаў. Яго новы фільм "С. Эйзенштэйн. Аўтабіяграфія" сапраўды варты ўвагі. А. Кавалаў, выкарыстоўваючы эпізоды з дакументальнай хронікі і нямых фільмаў, праілюстраваў фрагменты з дзённіка С. Эйзенштэйна. З дапамогай мантажу атрымалася цэласная карціна (невялікая па часе). Напэўна, і С. Эйзенштэйну было б цікава яе паглядзець.

### "КАРАЛІ З ВОЎЧЫХ ЗУБОЎ"

Думаю, шмат рэжысёраў, якія сёння звяртаюцца да часоў сталінскага тэрору, упэўнены, што здымаюць "новае аб мінулым". Менавіта так ахарактарызавала новы фільм літоўскага рэжысёра Альгімантаса Пуйпы "Каралі з воўчых зубоў" актрыса Моніка Бічюнайтэ, якая сыграла ў ім адну з галоўных роляў. Напэўна, для сучаснага літоўскага кіно гэта сапраўды новае аб мінулым — колькі б разоў галоўны герой ні сустракаўся з рускімі ваеннымі (потнымі і п'янымі), яны заўсёды імкнуцца згвалціць яго маці, жонку "ворага народа".

А наогул "Каралі з воўчых зубоў" — гэта ўспамін пра дзяцінства сталага мастака на імя Тадас (В. Пяткявічюс). Маці, маладая жанчына (М. Бічюнайтэ), застаецца адна з малым сынам Тадасам. Каб дзіця не загінула ад голаду, яна адпраўляе яго да бабулі ў вёску. Тадас — хлопчык незвычайны: бачыць цудоўныя сны, анёлаў у костках коней, размаўляе з мерцвякамі. Усе дзівацтвы вызначаюць у ім будучага творцу. Цікава, як рэжысёр пераплятае (як тыя карані) мінулае і сучаснае ў майстэрні свайго героя, як стварае карункі з болю, хваробы, няшчаснага кахання Тадаса. Яго мінулае матэрыялізуецца, дзякуючы бацькоўскаму падарунку з поўначы, — каралям з воўчых зубоў. Мо таму сталы Тадас і можа спакойна працягнуць руку да кубка з малаком, якое раніцай прынесла бабуля Тадасу малому, і выпіць яго...

Новая карціна А. Пуйпы — гэта прыклад так званага жывапіснага, паэтычнага кіно (на "Лістападзе-97" — прыз за лепшы аўтарскі фільм). Цікава было даведацца, што рэжысёр добра ведае жывапіс. Таму кожны кадр "Караляў з воўчых зубоў" — самастойны твор мастацтва: вось малы Тадас сядзіць у доўгай вузкай лодцы пасярэдзіне вясковай хаты, дзе на сценах — старажытныя іерогліфы, а вось

# Макабрычны балет

***Прэзентаваныя на лістападаўскім фестывалі фільмы можна было б класіфікаваць па тэмах: крызіс пакалення і час крызісу. Можна — па тыпу героя: кілер, (забойца), злодзей, "новы рускі". Нават магчыма аб'ядноўваць па агульных жанравых прыкметах: макабрычны балет і млява цякучая шызафрэнія. Але мяне перадусім цікавіць крытэрый рэжысёрскага майстэрства. Бо, што б там ні казалі пра драматургію ці творчасць акцёра, адзіным сапраўдным аўтарам фільма застаецца яго пастаноўшчык.***

Пры ўсёй шматлюднасці, раскіданасці ды мітуслівасці праца над кінакарцінай з'яўляецца валявой акцыяй рэжысёра. Менавіта ён выношвае задуму будучага фільма. І толькі ён збірае ў доўгую стужку цэлулоідныя шматкі, падпарадкоўваючы пярвічны матэрыял уласнаму мастацкаму мысленню... Ці дыктату спонсара, ці сацыяльна-палітычнай кан'юнктуры. У выніку атрымліваецца фільм пэўнага гатунку. Нярэдка гэта звычайная кінамакулатура — "шэрыя"; павярхоўныя, а, часам, ніякія карціны накшталт "Бегу ад смерці" В. Дзяругіна (Беларусь, 1996 г.).

Найбольш распаўсюджаныя стужкі "нулявога ўзроўню" — прафесійна зробленае, "крэпкае" (моцнае) кіно, якое адпрацоўвае ўжо вядомыя эстэтычныя мадэлі: "Брат" А. Балабанава, "Час танцора" В. Абдрашытава, "Прыяцель нябожчыка" В. Крыштафовіча.

І, нарэшце, экранныя творы, вышэйшыя за "нулявы ўзровень, — так званае аўтарскае (паэтычнае) кіно. Папросту кажучы, — кінамастацтва з яго асацыятыўна-метафарычнай прыродай, шматзначным зместам, трапяткой недагаворанасцю ды пошукам новых прыёмаў і форм. Гэтую верхнюю ганаровую прыступку на "Лістападзе-97" заняў фільм Альгімантаса Пуйпы "Каралі з воўчых зубоў" (Літва, 1997 г.).

Мастак і пісьменнік Тадас пасля маўклівай сустрэчы з прыхільнікамі свайго таленту аддаецца самарэфлексіі ў цішыні майстэрні. Шчыльным колам абступаюць яго вобразы дзяцінства, пашыраючы межы рэчаіснасці. А. Пуйпа адмовіўся ад традыцыйнай формулы рэтра-фільма. Таму ён не ўзнаўляе паслядоўнасці падзей цяжкіх пасляваенных гадоў, не распавядае аб драматычным шляху сталення героя. Код фільма "Каралі з воўчых зубоў" — асацыятыўны. Рэжысёр "выцясняе" так званы аб'ектыўны рэалізм вобразнымі эквівалентамі, а часам,адкрытай умоўнасцю. Ірацыянальная прырода кінатвора прадуктуе своеасаблівы эфект мігцення: увесь свет ува мне і я ва ўсім свеце. Водбліскі памяці, быццам вібруючыя іскры кастра, разлятаюцца ў душэўным лабірынце Тадаса, зачароўваюць ды саграваюць яго.

А. Пуйпа наўмысна падвяргае свой твор дэкампазіцыі і адважваецца на больш складаную спробу — размясціць "кавалачкі смальты" не ўздоўж восі-фабулы, але наадварот — па лініях аддалення ад яе. Не гістарычны кантэкст (рэпрэсіі, галоднае жыццё, жах, чаканне бацькі з Сібіры), не фактаграфія падзей, а эмацыянальны каларыт дзяцінства, яго адгалоскі ды вастрыня адчуванняў, — успаміны пачуццяў, так бы мовіць, вызначаюць сюжэт, атмасферу, мастацкую структуру фільма. Рэжысёр быццам нанізвае пацеркі, маніпулюючы вобразамі па правілах гульні шкляных перлаў. "Гэтую ўбогую, нязменна расчаравальную і бязрадасную рэчаіснасць нельга змяніць іншым спосабам, апроч як адмаўляючы яе і паказваючы ёй, што мы дужэйшыя, чым яны... " (Г. Гесэ).

Альгімантас Пуйпа "пераігрывае" мінуўшчыну на падставе ўласнай асабовасці (такім самым чынам, як і шматтомны раман Л. Гутаўскаса). І таму на экране разгортваецца не біяграфія героя, а хутчэй — аўтапартрэт. У кінатворы Тадас з'яўляецца шматмернай пастаццю, якая адначасова існуе на розных узроўнях мастацкага тэксту: хлопчык і дарослы, герой і аўтар, цэнтральны персанаж і alter ego рэжысёра. Наўпрост парушаючы прынцып дакладнасці, праўдзівасці А. Пуйпа трансфармуе ды нават размывае вымярэнне часу і прасторы. Дарослы Тадас выпівае малако, якое бабуля дала малому, і вяртае пустую шклянку ў мінулае; запальвае раптам патухлую свечку, каб асвятліць шлях сабе ўчарашняму. Гэтыя дзіўныя кантакты праз мантажную мяжу кадра падштурхоўваюць кружэнне часу.

Сутыкненні натуральнасці з адкрытай умоўнасцю становяцца неабходным сродкам эстэтычнай еднасці фільма. Касцюмы, прычоскі, тыпажы дакладна адпавядаюць гістарычнаму часу канца 40-х гг. Тым не менш, і маці, і бабуля, і дзядзька з'яўляюцца персанажамі магічнага тэатра-памяці Тадаса. А побач з імі — швейная машынка, рыбацкі човен, лесвіца на неба, адухоўленыя рэальнасцю сноў ды снамі рэальнасці.

Вялікасць, велічнасць прыроды, радзіннага дома, любімых людзей падкрэсліваецца нізкім ракурсам камеры. Незразумеласць, штучнасць, парадаксальнасць "дарослага" свету выкрываецца праз сцэны макабрычнага балета... Сярод пустыннай заснежанай вуліцы незнаёмец у цывільным раптоўна прыціскае бацьку да сваіх грудзей і ў рытме танга скіроўвае яго да чорнага варанка. У фінальным эпізодзе маці з бацькам нервова, мітуслівa вытанцоўваюць кругі на зялёным лузе, заслаўленым "аскепкамі" разбітага жыцця. Дагараюць рэшткі вогнішча. Разрозненыя персанажы пакідаюць авансцэну тэатра памяці.

Карціна "Каралі з воўчых зубоў" пераклікаецца з "Люстэркам" А. Таркоўскага, з "Амаркордам" Ф. Феліні, але ні ў якой ступені іх не рэпрадукуе. Паэтыка-жывапісная стылістыка расійскага майстра і тэатралізаваны свет італьянскага маэстра далёкім рэхам ахутваюць хісткую плынь кінатвора Альгімантаса Пуйпы.

Адзін з алегарычных матываў літоўскай карціны (макабрычны балет) атрымаў неспадзявана шырокі рэзананс у межах "Лістапада-97". Назва новага фільма Вадзіма Абдрашытава "Час танцора" (Расія, 1997 г.) магла б стаць эпіграфам да агульнай фестывальнай праграмы, нават уключаючы ўрачыстае адкрыццё форуму.

## Саркастычны максіміліст



Споўнілася 50 гадоў латышскаму паэту і грамадскаму дзеячу Віктару Аватыньшу. Ён нарадзіўся ў горадзе Лудза, дзе прыгожыя латгальскія прасторы напоўнены маўленнем сяброў-суседзяў. Пасля сканчэння Рыжскага інстытута грамадзянскай авіяцыі малады матэматык-праграміст не доўга працаваў па спецыяльнасці. З 1973 года выступае ў друку з вершамі, у 1979 годзе выходзіць першая кніга паэта. Віктар Аватыньш становіцца супрацоўнікам штотыднёвіка "Літаратура ун Максла", потым — часопіса "Даугава". Актыўна працуе ў публіцыстыцы. З 1992 года ўзначальвае Саюз пісьменнікаў Латвіі. Сябра ПЭН-клуба.

Пісьменніцкія саюзы Латвіі і Беларусі заключалі дамовы аб творчым супрацоўніцтве, ладзілі сумесныя мерапрыемствы. Дзякуючы прадстаўленню нашых латышскіх калег вышэйшай узнагароды Латвійскай дзяржавы — ордэна Трох Зорак — быў удастоены Рыгор Барадулін.

Віктар Аватыньш цікавіцца жыццём беларускай дыяспары ў Латвіі, спрыяе дзейнасці беларускіх культурна-асветных суполак.

Мірдза Абала, аналізуючы яго творчасць, указвала на саркастычна-максімалісцкія інтанацыі ў яго вершах. Сцвярджэннем гэтаму можа паслужыць верш "Храніст" Віктара Аватыньша з яго кнігі лірыкі "Пакатая вечнасць":

*Пясок прагрэюць падкалодным змеям,*
*Пергаменты правеюць... Супыніць!*
*Тых супыніць, хто языкамі меле,*
*Плюе ў гісторыю — красу яе счарніць.*

*Цьма распаўзецца, знойдзем і падмуркі;*
*Што Кангарс не прадаў,*
*свой здрайца не прап'е.*
*Працуй, храніст: угар не спаліць румы;*
*Чад выйдзе і сугрэўны час праб'е.*

*Вунь набрынялі памяццю надгробкі.*
*Працуй і не зважай на гультаёў,*
*Што мямляць: "Досыць на наш век кароткі:*
*Як вока Даўгава — аж да краёў!"*

Латышскаму храністу — Віктару Аватыньшу — зычаць творчага настрою і плёну Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі, Саюз беларускіх пісьменнікаў.

**Сяргей ПАНІЗНІК,**
**старшыня рады**

На *здымку: Віктар Аватыньш*

## Пісьменнік і барацьбіт

Міхась Машара (нарадзіўся 18 лістапада 1902 года, памёр 7 чэрвеня 1976-га) — постаць легендарная ў былой Заходняй Беларусі. Міхась Антонавіч быў актыўным удзельнікам нацыянальна-вызваленчага руху. У пачатку 1927 года рэдагаваў газету "Наша воля", быў зняволены ў Лукішкі, дзе правёў звыш чатырох гадоў. Пасля ўз'яднання Беларусі выбіраўся дэпутатам Народнага сходу Заходняй Беларусі. У час вайны працаваў у газетах "Звязда", "Савецкая Беларусь", "Партызанскае слова", на радыё. У 1945—1947 гадах — у часопісе "Полымя", потым два гады — у "Настаўніцкай газеце".

Друкавацца пачаў у 1927 годзе на старонках часопіса для дзяцей "Заранка". У Вільні выйшлі зборнікі вершаў М. Машары "Малюнкі", "На сонечны бераг!", "Напрадвесні", "З-пад стрэх саламяных", паэмы "Вяселле", "Смерць Кастуся Каліноўскага", "Мамчына горка", некалькі п'ес. У пасляваенны час друкаваўся не толькі як паэт, а і як празаік. Аўтар раманаў "Крэсы змагаюцца", "Сонца за кратамі" і "Лукішкі", якія ўтварылі трылогію, а таксама раманаў "Ішоў дваццаты год", "І прыйдзе час...". Напісаў кнігу ўспамінаў "Старонкі летапісу".

ПАЭЗІЯ

Ніл ГІЛЕВІЧ

# Навошта Радзіма паэту?



### Жыццё

*Не стала маці, да якое нёс*
*Душу збалелую — паспавядацца.*
*Не стала бацькі, што прымаў да слёз*
*Прапашчы лёс зямлі і гаспадарства.*

*Не стала брата, што дарадцам быў,*
*Калі ўзнікала клопатнае штосьці.*
*Не стала і сястры, з якой любіў*
*Успомніць песні нашай маладосці.*

*Не стала ўжо і большыні сяброў, —*
*Каб пасядзець за чаркай і яшчэ раз*
*Адчуць, што хіжы век нас не развёў*
*І што нам шлях не засланіла шэрасць.*

*Не стала ўжо, прашу мне даравраць,*
*І закаханага ў жыццё паэта,*
*Што так любіў над вершам шчыраваць,*
*Як Усявышні над стварэннем света!*

*Таго паэта ўжо няма. Няма!*
*А сноўдае сярод руін былога*
*Яго двайнік. Не сільцеся дарма*
*Пазнаць у ім свайго братка старога.*

1997, снежань

### У ноч пакут

*Господзь! Чаму й навошта*
*Ты мне даеш "адстаўку"*
*І так караеш жорстка —*
*На дзён маіх астатку?*

*Чаму мне не даеш ты*
*Патрэбнай сілы-моцы,*
*Каб выбавіць дарэшты*
*Душу з грызот бясконцых?*

*Чаму дазволіў д'яблу,*
*Замест дабра з любоўю,*
*Нянавісць і няпраўду*
*Прыставіць к узгалоўю?*

*Чаму ў такім рэжыме*
*Ты гоніш дні і ночы?*
*Як жыць, як жыць, скажы мне,*
*Пад грузам гэткай ношы?*

*Як жыць, калі наўкола,*
*Куды ні кінь вачыма, —*
*Як наркаман на ўколах,*
*Трымаецца Айчына.*

1997, снежань

### Навошта Радзіма паэту?

*Навошта Радзіма паэту,*
*Адбітая ў кроплі расы?*
*Ён — вольны вандроўнік сусвету.*
*Ён — вечны шукальнік красы.*

*Яго неспатольная мара*
*Не знае ні меж, ні пуцця.*
*Ён — вольных парываў ахвяра,*
*Ён — вечных блуканняў дзіця.*

*Ён ласкай не толькі планету,*
*А й космас увесь апаўе.*
*Навошта ж Радзіма паэту?*
*Каб косці ў ёй скласці свае.*

1997, лістапад

### І калі я...

*І калі я на суд Гасподні*
*Пайду-сыду за небакрай, —*
*Той белы дзень ты ўсё ж успомні,*
*Ты ўспомні ўсё ж той светлы май.*

*Як, блаславёная багамі,*
*Ты мне ўсміхалася здаля.*
*Якой нячутнай пад нагамі*
*Табе здавалася зямля.*

1997, лістапад

### Дагарай...

*Дагарай, дагарай, дагарай,*
*Адзінокае ў полі цяпельца!*
*Дакарай, дакарай, дакарай! —*
*Я — з трывалых, змагу прыцярпецца.*

*Стану-гляну, а ў полі пустым —*
*Ні дымка ўжо няма, ні свячэння.*
*Толькі золь. Толькі шэрая стынь.*
*Ды варон у прысадах вячэрня.*

1997, лістапад

### Зусім, як той...

*Усё!.. Журба і тая адабрана.*
*Пустэча — думкі нават не імкнуць.*
*А за сцяною, чуйнай, як мембрана,*
*"Сабачы вальс" на піяніне б'юць.*

*І чуцен смех, гарэзлівы, дзявочы, —*
*Зусім, як той, як паўжыцця назад,*
*Калі ты шчыра верыў у дзівосы*
*І сэрца білася з жыццём у лад.*

1997, лістапад

### Што, сябры?

*Што, сябры, ужо пра волю песні*
*Пець нялюба вам? Што — не чуваць?*
*Ах, да шкодных недзе іх аднеслі?*
*Ах, ужо няможна іх спяваць?*

*О, тады, канешне!.. Не спявайце.*
*Правільна! Тут ясна й прастаку.*
*Ну, а дзеля хлеба — падвывайце!*
*Падвывайце чорнаму ваўку!*

1997, верасень

### Сямірадкоўі

●

*О, пані, твой свавольны пацалунак —*
*Парывісты, раптоўны, нечпадзеўны,*
*Занадта для свавольнага гарачы —*
*Такі кароткі быў,*
*Такі кароткі,*
*Што ўспамінаць яго, напэўна, буду*
*Усё жыццё.*

●

*Жанчыну з унучкай-падлеткам спаткаў.*
*Спыніліся. Хоць і сівенькая ўжо,*
*А вочы, а вочы — зусім, як тады...*
*як тады.*
*Пытае ў мяне і пытае — і ўсё пра сям'ю.*
*А ўнучка ўсё штурхае локцікам:*
*годзе! хадзем!*
*Якое ж яно нездагадлівае-неспагадлівае,*
*Гэта трэцяе пакаленне!*

●

*Малое хлапчанятка на сцяжынцы*
*Пасе жучка бліскучага ў траве.*
*"Ты мой жучок! Куды ж ты, мой жучок!"*
*На дзядзьку, што спыніўся побач, глянуў*
*З перасцярогаю: "Тут мой жучок!*
*Не наступі!.." Не ведае, шчаслівец,*
*Што ў дзядзькі нават і жучка няма.*

●

*Сівы мужчына цераз парк ідзе.*
*Мыляючы губамі, ціха шэпча:*
*"Як неразумна, недарэчна, дзіка*
*Ты ўсё жыццё сабой распараджаўся!*
*Як збраканьерыў ты сваё жыццё!.."*
*А людзі глянуць: "Вось — любімец лёсу!*
*Вось да каго зычлівы быў Гасподзь!"*

●

*Я разумею: можа, сёння й грэшна*
*Казаць такое, знаючы ваш лёс, —*
*І ўсё ж кажу. Бо так бы і было:*
*Калі б тады, равеснік ваш з-пад Гайны,*
*Вучыўся я ў Глыбокім ці ў Паставах, —*
*Я быў бы з вамі! І на страх пачварам —*
*Саюз бы большым быў на аднаго!*

1997, снежань

КОНКУРСЫ

# "Кубак Поўначы" вабіць...

Выступленні студэнтаў Беларускай акадэміі музыкі на конкурсах розных узроўняў прыцягваюць пільную ўвагу прафесійнікаў: гэтая навучальная ўстанова мае моцную выканальніцкую школу, пэўныя традыцыі і методыкі ігры на розных інструментах. І вельмі прыемна, калі маладыя творцы атрымліваюць прызнанне, а значыць — і штуршок да больш адказнага стаўлення да сваіх музычных заняткаў.

Не так даўно ў горадзе Чарапавец (Расія) праходзіў трэці міжнародны конкурс выканаўцаў на народных інструментах "Кубак Поўначы" ("Кубок Севера"). Ён мае на мэце спрыяць развіццю творчасці маладых, удасканаленню іх прафесійнага майстэрства і выканальніцкай культуры, пошуку новых таленавітых музыкантаў, а таксама паляпшэнню прапаганды музыкі для народных інструментаў.

Сваю гісторыю конкурс вядзе ад 1992 года, калі яго арганізатары здзейснілі унікальную ідэю: ва ўсім свеце, бадай, не існуе аналагаў такога конкурсу, а па сваёй прадстаўнічасці і ўзроўні чарапавецкі "Кубак Поўначы" цяпер адзін з вядучых еўрапейскіх выканальніцкіх спаборніцтваў. Выпрабаваць тут свае сілы можа кожны, хто імкнецца да творчага самавыказвання з дапамогай таго ці іншага інструмента, чый прафесійны ўзровень адпавядае высокім патрабаванням сучасных міжнародных конкурсаў. Узрост удзельнікаў не мае абмежаванняў.

У сёлетнім конкурсе ўдзельнічала каля 150 музыкантаў, сярод іх — прадстаўнікі Расіі, Беларусі, Украіны, іншых рэспублік блізкага замежжа, а таксама — Японіі, Германіі, Сербіі, Югаславіі, Балгарыі, Чэхіі. Ад Беларускай акадэміі музыкі было шасцёра прадстаўнікоў. Праз вялікую канкурэнцыю ў фінал здолелі трапіць толькі двое: мандалістка Наталля Змітровіч, якая атрымала 3-ю прэмію і стала лаўрэатам сярод выканаўцаў на струнных інструментах ды баяніст Юрый Тарасянок — дыплом і прыз "За волю да перамогі".

Для нашых выканаўцаў гэта першы поспех менавіта на чарапавецкім міжнародным конкурсе (студэнты БАМ удзельнічалі і ў мінулых спаборніцтвах, але пэўных вынікаў не дабіліся). Таму варта пазнаёміцца з імі.

Наталля і Юрый — студэнты пятага курса акадэміі.

Юрый Тарасянок — выпускнік Маладзечанскага музычнага вучылішча (выкладчык А. Камінскі), цяпер займаецца ў народнага артыста Беларусі прафесара М. Сеўрукова.

Наталля Змітровіч у апошнія гады прафесійна займаецца ігрой на мандаліне, і тытул лаўрэата трэцяй прэміі "Кубка Поўначы" выдатна пацвярджае яе выканальніцкае майстэрства. Увогуле, па выніках працы журы секцыі народных струнных інструментаў (у склад яго ўваходзілі заслужаны артыст Расіі А. Цыганкоў, заслужаны дзеяч мастацтваў Расіі прафесар Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі А. Шалаў, прадстаўнікі Англіі і Японіі), 1-ю прэмію атрымаў японец Ясунобу Іноуэ, прафесійны музыкант, які пэўны час выступае на канцэртнай эстрадзе.



Да перамог студэнтаў маюць непасрэднае дачыненне і выкладчыкі. У класах М. Марэцкага і М. Сеўрукова гэта, безумоўна, не першыя поспехі, і да слоў віншавання дадамо пажаданні плёну, натхнення ў няспынным працэсе творчай працы з вучнямі.

**Яўгенія МАЦКЕВІЧ**

*На здымку: лаўрэат III прэміі Наталля Змітровіч (Беларусь); лаўрэат I прэміі Ясунобу Іноуэ (Японія).*

ПОСТАЦІ

НА НЕРЧЫНСКІХ рудніках, як і паўсюдна ў месцах катаргі царскай Расіі,назіраліся выпадкі, калі асуджаныя выказвалі незадавальненне становішчам. Бывалі ўцёкі, некаторыя адмаўляліся выходзіць на працу. З апошнімі доўга не цырымоніліся — прымалі да іх больш суровыя меры ўтрымання, і праз пэўны час нават самыя "непрымірымыя" станавіліся спакойнымі, маўклівa неслі крыж пакутнікаў. Уцекачоў лавілі, а некаторыя з іх і самі вярталіся — далёка не падасіся, наўкола маланаселеная мясцовасць, а ў тайзе, як кажуць, мядзведзь гаспадар, лёгка і загінуць.

Начальства звыклася з усімі гэтымі выпадкамі і не надавала ім асаблівай увагі. Тым больш старалася ў вышэйшыя інстанцыі не паведамляць. Навошта, калі самім можна разабрацца. Палка ж можа аказацца з двума канцамі. Канечне, і пахваліць могуць, што бунтаўшчыкоў не церпіш, нічога не хаваеш. А з другога боку, самога і вінаватым зробяць, у чымсьці слабасць паказаў, не быў да канца цвёрдым — глядзіш, і непрымнасці. Таму канфлікты найчасцей вырашалі на месцы.

# Асабісты вораг Мураўёва-Вешальніка

Так рабіў і камендант Нерчынскага завода палкоўнік Варанцоў. Але ў ліпені 1866 года ён усё ж мусіў парушыць гэтае няпісанае правіла. І на тое падстаў было больш чым дастаткова. Узбунтаваліся, чаго дагэтуль не назіралася, "дзяржаўныя злачынцы", усе да аднаго. І каб жа кінуліся на ўцёкі ці напалі на ахову — гэта, зразумела, таксама падлягае суроваму пакаранню, але хоць у нечым зразумела, а то — адмовіліся выходзіць на работу і заявілі, што "ніякая сіла не ў стане прымусіць іх працаваць у выхадныя дні", маючы на ўвазе як нядзелі, так і святы.

Угаворы нічога не далі. 6 ліпеня, адразу пасля непадпарадкавання, Варанцоў паведаміў пра інцыдэнт старшыні Савета Галоўнага ўпраўлення Усходняй Сібіры генерал-лейтэнанту К. Шалашнікаву. Але той чамусьці не надаў паведамленню асаблівага значэння. Бадай, разважаў, што прэтэнзіі бунтаўшчыкоў несур'ёзныя — да іх да падобнага пратэсту ніхто не дадумваўся, і яны хутка супакояцца.

Аднак у Варанцова падстаў спадзявацца на лепшае не было, бо і ў чарговую нядзелю на работу ніхто не выйшаў. 18 ліпеня камендант падаў у Савет чарговы рапарт, у якім паўтарыў напісанае ў першым, і ўдакладніў: "усімі дзеяннямі... злачынцаў кіруе Іасафат Агрызка". А яшчэ паведаміў, што бунтаўшчыкі "падалі дакладную запіску, у якой ганьбуюць закон і ўлады".

Пасля гэтага генерал аддаў загад ваеннаму губернатару Забайкальскай вобласці: "правесці па гэтай справе найстражэйшае фармальнае (маецца на ўвазе — адпаведна форме. — **А. М.**) следства".

Нарадзіўся Іасафат Агрызка ў 1826 годзе ў Лепельскім павеце Віцебскай губерні ў небагатай шляхетнай сям'і. Пачатковую адукацыю атрымаў дома, а ў 1837 годзе паступіў у Лепельскае павятовае вучылішча. Пасля заканчэння чацвёртага класа быў пераведзены ў Мінскую гімназію. І ў вучылішчы, і ў гімназіі паказаў вялікую цікавасць да ведаў, прытым па розных прадметах. Калі ў 1844 годзе скончыў гімназію, за поспехі ў авалоданні рускай мовай быў удастоены права на атрыманне чыну чыноўніка XVI класа пры паступленні на грамадзянскую службу.

Іншы на месцы Агрызкі і задаволіўся б гэтым. Іншы, але не ён. І бацькі настойвалі на прадаўжэнні вучобы, бы і сам разумеў, што нельга задавальняцца дасягнутым. А таму ў 1845 годзе быў залічаны на першы курс юрыдычнага факультэта Пецярбургскага універсітэта.

З дому не надта дапамагалі. У пошуку заробкаў займаўся з абітурыентамі, якія хацелі паступіць ва універсітэт ці іншыя вышэйшыя сталічныя навучальныя ўстановы. Падзарабляў прыватнымі ўрокамі. Нават працаваў выкладчыкам у вучылішчы правазнаўства, а нейкі час — у школе гвардзейскіх падпрапаршчыкаў.

Іасафат Агрызка адначасова належаў да маладых людзей, якія разумелі, што царызм заняволіў народы, не церпіць свабодалюбства. Таму ўступіў у рэвалюцыйны гурток. У яго ўваходзілі З. Серакоўскі, В. Спасовіч, многія студэнты універсітэта. Гурткоўцы падтрымлівалі цесную сувязь з рэвалюцыйнымі маладзёжнымі арганізацыямі ў іншых гарадах, сярод якіх былі Вільня, Мінск...

Праз некаторы час улады выйшлі на след гуртка. Праўда, Агрызку ўдалося пазбегнуць пакарання і ён працягваў вучобу. Універсітэт скончыў у 1849 годзе са ступенню кандыдата права. Адкрывалася перспектыва заняць уплывовую пасаду. Ён выкарыстаў гэтую мажлівасць і з 1850 года пачаў службу ў Кадыфікацыйнай камісіі Царства Польскага. Пазней працаваў у Міністэрстве фінансаў.

Гэта дазволіла Іасафату Пятровічу стаць сваім чалавекам сярод уплывовых дзяржаўных асоб. Прыязныя адносіны склаліся ў яго з высокапастаўленымі чыноўнікамі, у прыватнасці, з генерал-губернатарам Пецярбурга, князем А. Суворавым. Пасябраваў Агрызка з прафесарам Пецярбургскага універсітэта, гісторыкам, правазнаўцам, публіцыстам К. Кавеліным, у якога яго прывабіла ліберальнасць поглядаў.

А яшчэ Агрызка быў душа чалавек. А на вачах у начальства падкрэсліваў іншыя якасці: дзелавітасць, гатоўнасць выканаць любы загад, тактоўнасць, таму і пачалі яго некаторыя называць стараннем "службістам". І няўцям ім было, што гэты "службіст" не толькі не здрадзіў ідэалам гадоў студэнцтва, а і не адмовіўся ад нелегальнай рэвалюцыйнай дзейнасці.

У 1857 годзе, калі з ссылкі вярнуўся З. Серакоўскі, Агрызка прыняў і канкрэтныя захады: разам з ім заснаваў Пецярбургскую рэвалюцыйную падпольную арганізацыю, у якую ўвайшлі студэнты, афіцэры. Аб мэтах і задачах, якія ставілі яны перад сабой, можна даведацца з матэрыялаў штодзённай газеты на польскай мове "Slowo" ("Слова"). Дазвол на выданне яе Агрызка Іасафат Пятровіч неўзабаве атрымаў ад улад. А перад гэтым многіх знаёмых здзівіў набыццём друкарні. Яна якраз і патрэбна была для выпуску газеты.

Першы нумар "Слова" з'явіўся 2 студзеня 1859 года. З яго і з наступных відаць, што выдавец і яго аднадумцы надавалі вялікае значэнне асвеце сярод народа, востра ставілі справядлівае вырашэнне сялянскага пытання, не абыходзілі праблему міжнароднага жыцця.

Газета, аднак, жыла нядоўга. Падставай для закрыцця стала публікацыя 21 лютага (5 сакавіка) ліста І. Лялевеля. Правільней, нават не самога пісьма вядомага рэвалюцыянера, а каментарыя да яго. Рэдакцыя дзякавала Лялевелю, называючы яго "нашым бацькам гісторыі", і прасіла "благаслаўлення на далейшым шляху жыцця і працы". Сам жа ліст меў характар палемікі. Лялевель не пагаджаўся з асобнымі ацэнкамі, выказанымі прафесарам Антоніем Чайкоўскім пры разглядзе прац П. Хельцля.

Канечне, сапраўдная прычына незадавальнення ўлад была толькі ў тым, што ўпаміналася Лялевель. Гэта, дарэчы, падкрэсліў у артыкуле "І. Лялевель і казематы", надрукаваным у 40—41 нумарах знакамітага "Колокола" за 15 красавіка таго ж 1859 года, А. Герцэн: "Пан Агрышка (прозвішча было пададзена з памылкай, — **А. М.**) змясціў у сваім часопісе ліст знакамітага Лялевеля і некалькі цёплых, удзячных слоў аб ім. Гэты ўчынак наклікаў на п. Агрышку двугарчакоўскі гнеў. Агрышку схапілі, часопіс закрылі".

Вестка аб арышце Агрызкі і закрыцці газеты ўскалыхнула Пецярбург. З вуснаў у вусны перадавалася двухрадкоўе, аўтарства якога прыпісвалася М. Някрасаву:

***Плохо, братцы, беда близко.***
***Арестован уж Огрызко.***

У абарону Іасафата Пятровіча і "Слова" выступілі многія знакамітыя дзеячы і ўплывовыя чыноўнікі. З просьбай вызваліць яго звярнуўся і І. Тургенеў. Агрызка за кратамі знаходзіўся нядоўга, 13 сакавіка 1859 года камендант Петрапаўлаўскай крэпасці атрымаў паведамленне, што "гасудар Імператар высачайша загадаў зрабіць ласку калежскага асэсара Агрызку, які ўтрымліваецца ў даверанай Вашаму Высокаправасхадзіцельству крэпасці, вызваліць ад арышта".

Аляксандр II, відаць, і сапраўды паверыў у невіноўнасць Агрызкі. "Спрацавала" і хадайніцтва, але ж і ў Міністэрстве фінансаў пра Агрызку былі вельмі высокай думкі. Апублікаванне ліста Лялевеля палічылі прыкрай выпадковасцю і справу ўладзілі. Хоць выпуск "Слова" не бы аднаўлены. Агрызка змог працягваць працаваць у міністэрстве і займацца выдавецкай дзейнасцю.

Апошнюю акалічнасць Іасафат Пятровіч пастараўся выкарыстаць як мага паўней. На працягу некалькіх гадоў ён выпусціў больш за 100 кніг. У шэрагу іх — такое унікальнае выданне, як некаторыя тамы "Матэрыялаў для геаграфіі і статыстыкі Расіі, сабраныя афіцэрамі Генеральнага штаба", у тым ліку тыя, што тычацца Віленскай і Гродзенскай губерняў. На працягу 1859—1860 гадоў Агрызка перавыдаў восем тамоў так званага "Валюміна легума" — збор старажытных законаў Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны... І, вядома, заслуга Агрызкі ў тым, што ён стаў першым выдаўцом твораў М. Дабралюбава.

Дабралюбаў, як вядома, памёр 17 лістапада 1861 года. Сабраць разам напісанае выдатным рэвалюцыянерам, крытыкам узяўся М. Чарнышэўскі, які паспеў ужо зблізіцца з Агрызкам. Іасафат жа Пятровіч, правёўшы месяц у Петрапаўлаўскай турме, ад сваіх поглядаў не адмовіўся і, як пакажа час, ад рэвалюцыйнай барацьбы таксама. А пакуль ён, у вачах непасрэднага начальства і падначаленых па-ранейшаму выглядаючы старанным "службістам", кантактаваў з перадавымі людзьмі Расіі. Чарнышэўскі ў гэтым шэрагу заняў адно з першых месц.

Агрызка, не задумваючыся, даў згоду на яго прапанову выдаць Збор твораў Дабралюбава. Працавалі аператыўна, і першы том пабачыў свет вясной 1862 года. На тытульным аркушы яго, як, дарэчы, і наступных (усяго пяць тамоў), змешчаны словы Дабралюбава, што ўспрымаюцца эпіграфам:

***Милый друг, я умираю,***
***От того, что был я честен;***
***Но за то родному краю***
***Вечно буду я известен.***

***Милый друг, я умираю,***
***Но спокоен я душою...***
***И тебя благословляю:***
***Шествуй тою же стезею.***

Блізкімі былі гэтыя словы і Чарнышэўскаму, і Агрызку. Блізкімі, бо абодва даўно сталі на шлях барацьбы з самадзяржаўем. З адной хіба розніцай: дзейнасць Чарнышэўскага была добра вядома, знаходзіўся ён і ў пастаянным полі зроку царскай ахранкі, а Агрызка дзейнічаў больш аглядкава. У прыватнасці, у гэты час ён стаяў на пазіцыях, блізкіх да вядомай арганізацыі "Зямля і воля", а восъ ці ўваходзіў у яе, на сённяшні дзень невядома.

Выданне твораў Дабралюбава тым самым для іх станавілася данінай памяці і пісьменніку, і чалавеку, погляды якога абодва падзялялі. Услед за першым томам з'явіўся другі, потым трэці, а ўлетку змаглі патрымаць у руках і чацвёрты, восъ-восъ павінен быў пабачыць свет і пяты, але 7 ліпеня 1762 года Чарнышэўскага арыштавалі. Між іншым, і канчатковае рэдагаванне чацвёртага тома замест яго даводзіў М. Антановіч.

Як і кожны выдавец, які займаецца гэтай справай па прызванні, а не дзеля заробку, Іасафат Пятровіч любіў браць дахаты свежыя экземпляры, якія так прыемна пахлі свежай фарбай, каб перачытаць іх. Так было і з трэцім томам Збору твораў Дабралюбава. У ім Агрызка надоўга запыніў увагу на артыкуле "Рысы для характарыстыкі рускага простанароддзя". Пры першай публікацыі ў часопісе "Современник" у дзевятым нумары за 1860 год ён па нейкай прычыне Іасафатам Пятровічам не быў прачытаны. Хутчэй з-за адсутнасці часу. Цяпер жа, заглыбляючыся ў напісанае, Агрызка быццам разам з самім Дабралюбавым палемізаваў з тымі, хто бачыў у беларусах толькі невукаў.

"Сумлення ў іх няма!" — прамовіў ці не ўголас. Дадумацца да такога: "Адносна беларускага селяніна справа даўно вырашана: цёмны канчаткова, настолькі, што нават пазбаўлены чалавечых здольнасцяў". І нібыта ўжо не Дабралюбаў даваў рашучы адпор рэакцыянерам, а ён сам, Агрызка: "Не ведаем, у якой ступені памылкова гэтае меркаванне, таму што не вывучалі спецыяльна беларускі край: але паверыць яму, несумненна, не можам. Цэлы край гэтак вось узялі, ды і зрабілі цёмным — як бы не так! Гэта таксама, як італьянцаў зрабілі цёмнымі, расслабілі, пазбавілі любові да радзімы і да свабоды!.. Пaглядзіце цяпер на іх... Ва ўсякім разе пытанне аб характарыстыцы беларусаў павінна хутка быць растлумачана працамі мясцовых (маецца на ўвазе беларускіх. — **А. М.**) пісьменнікаў".

Асабліва яму спадабалася ўпэўненасць Дабралюбава, якая не выклікала ніякіх сумненняў, што ў далейшым павінна быць так, а не інакш: "Паглядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы".

А тое, што скажуць яны і як хутка скажуць, залежыць і ад яго самога, які, хоць па дакументах і лічыцца палякам, але рос і гадаваўся сярод беларусаў. Ды і з прыязнасцю ставіцца да іх, як і многія, з кім звязаў яго лёс у Пецярбурзе.

Падтрымліваючы сувязі з "Зямлёй і воляй", Агрызка не парываў стасункаў і з іншымі рэвалюцыянерамі. Гэта засведчылі і падзеі, звязаныя з выступленнем супраць рускага самадзяржаўя ў 1863—1864 гадах. Агрызка належаў да арганізатараў і кіраўнікоў паўстання. А з'яўляўся ён на той час віцэ-дырэктарам Дэпартамента неабкладных збораў у Міністэрстве фінансаў. Нелегальна ж выконваў абавязкі прадстаўніка польскага нацыянальнага ўрада ("Жонда Народавага") у Пецярбурзе.

Арышт Агрызкі 14 лістапада 1864 года выклікаў рэзананс, які па сваёй сіле быў куды мацнейшым у параўнанні з рэагаваннем на забарону выдання газеты "Слова". Тады актыўнасць праявіла прагрэсіўная грамадскасць. Цяпер у шуме вакол імені Агрызкі былі зацікаўлены ўлады. Іх раздражняла, што сярод бунтаўшчыкоў аказаўся чалавек, які знаходзіўся на самай вяршыні дзяржаўнай кіраўнічай лесвіцы, а сваімі дзеяннямі падрываў моц краіны. А такога трэба было любой цаной знішчыць. Спачатку — маральна.

Яшчэ ішло следства, а, як пазней успамінаў кіраўнік пецярбургскага аддзялення "Зямлі і волі" Л. Панцялееў, "хутка для вядомых мэтаў з імя Агрызкі зрабілі страшыдла, яго злаўмысныя падкопы знаходзілі ўсюды і ва ўсім, у перадавых артыкулах "Московских Известий" шмат разоў імя Агрызкі ўжывалася як імя агульнае для ўвасаблення "польскай каварнасці".

Асабліва стараўся сумнавядомы Мураўёў-вешальнік. Былі ў яго на гэта і свае прычыны. У свой час Агрызка прылюдна назваў Мураўёва казнакрадам, а затым перашкодзіў яго нашчадку заняць месца апекуна пры малалетнім сыне князя Дзямідава. Таму і стаў Агрызка для Мураўёва асабістым ворагам. Ворагам ён быў і для ўсёй саноўнай Расіі, якая, не даруючы вальнадумства, тым больш не трывала яго ў сваіх радах.

Агрызка праходзіў галоўным абвінавачаным па справе "Пецярбургскай рэвалюцыйнай арганізацыі". Прыгавор зачыталі ў канцы 1865 года. Агрызку назначылі смяротнае пакаранне, якое неўзабаве замянілі 20 гадамі катаргі ў Сібіры. Паводле рашэння суда, ён павінен быў накіроўвацца туды "этапам" разам з сябрамі па рэвалюцыйнай барацьбе. Але ўмяшаўся ўсясільны Мураўёў, а таму, парушыўшы існуючы тады парадак, яго адправілі аднаго і па асобным маршруце. Аднячасова Мураўёў пастараўся, каб далейшыя хадайніцтвы сяброў Іасафата Пятровіча аб памілаванні не маглі аблегчыць лёс асуджанага. Паперы звычайна не траплялі да адрасатаў. У лютым 1866 года Агрызка і апынуўся ў Акатуі...

Ваенны губернатар Забайкальскай вобласці, атрымаўшы загад К. Шалашнікава, падабраў групу вопытных следчых, якія паспяхова разблытвалі і не такія складаныя справы. Даволі хутка было ўстаноўлена, што зняволеныя з Акатуя падтрымліваюць цесныя сувязі з гэткімі ж "дзяржаўнымі злачынцамі" з іншых турмаў Нерчынскай катаргі, а найперш — у Аляксандраўскім заводзе, дзе яны стварылі сваю арганізацыю — так званы "Огул выгнанцев" — "Таварыства выгнаннікаў". Следства выйшла на ссыльнага Юзафа Двожачка, знайшлі статут арганізацыі, падпісаны 53 чалавекамі.

"Таварыства..." ставіла асноўнай мэтай паляпшэнне жыцця і ўтрымання зняволеных, дзеля чаго стварылі дзве касы. Адна з іх — "эканамічная" — з'яўлялася "агульнай". Інакш кажучы, сродкі, што знаходзіліся ў ёй, ішлі на задавальненне самых розных надзённых патрэб. Другая — "жалезная" — існавала для выпіскі часопісаў, кніг, з яе бралі грошы і для набыцця розных рамесных інструментаў...

Як быццам нічога благога. Падобныя касы існавалі ў месцах зняволення паўсюдна. Ды яны і не цікавілі следства. Галоўнай задачай яго было ўстанавіць, хто на самай справе стаў арганізатарам агульнага непаслушэнства.

Як высветлілася, Варанцоў, назваўшы Агрызку, не памыліўся. Правёўшы вобыск у камеры, дзе ўтрымліваўся Іасафат Пятровіч, знайшлі "чарнавік дакладной запіскі,

*(Працяг на стар. 14—15)*

## “Калядныя ігрышчы”

**Так называецца святочная праграма, якую прадставіць у педагагічным універсітэце выкладчык кафедры “Сусветнае мастацтва і фальклор” Іван Кірчук. Калядаваць збіраюцца чатыры курсы, прычым кожны рыхтуе свой фрагмент дзеі. Будзе тут і варажба, і жывая “Батлейка”, і калядаванне з мядзведзем, з цыганамі і, вядома ж, з казой — галоўным калядным персанажам. “Дзе каза бывае — там шчасце вітае”, — верыць народ.**



**Удзельнічаць у студэнцкіх калядах будуць каля ста чалавек, а працягнецца ўся імпрэза больш за гадзіну. Стварыць гэты відовішчны спектакль Івану Іванавічу ўдалося ў рэкордны тэрмін — за тры месяцы. Дарэчы, у ролі аўтара праграмы і рэжысёра ён выступае неўпершыню. Падчас працы ў мінскім вучылішчы мастацтваў І. Кірчук штогод наладжваў самыя розныя імпрэзы, у іх ліку — “Беларускі кірмаш”, “Гуканне вясны”, “Купалле”, “Вясна красна на ўвесь свет”. Упершыню на Беларусі, як сведчаць знаныя фалькларысты, ён практычна рэканструяваў некаторыя народныя абрады — напрыклад, “Лалоўнікі”, “Провады русалкі”. Марыць жа Іван Іванавіч пра свой тэатр фальклору. Падставы для гэтага ёсць: сабрана вялікая фанатэка, створаны хатні этнаграфічны музей, у калекцыі якога — ганчарныя, берасцяныя, драўляныя, тканыя вырабы, народныя музычныя інструменты, лялечны тэатр “Батлейка”. Экспанаты збіраліся паступова, на працягу 15 гадоў, найперш у фальклорных экспедыцыях.**

**Апроч навукова-даследчай і педагагічнай працы займаецца У. Кірчук і музычнай практыкай, стварыў некалькі гуртоў. Апошні і, бадай, самы ўдалы праект — “Троіца”. І хаця існуе ён трошкі больш за год, калектыў ужо паспеў “засвяціцца” на двух буйных міжнародных фестывалях Oero і Mundial у Галандыі, узяць першае месца на фэсце альтэрнатыўнай музыкі “Саступі дарогу” ды завітаць у Санкт-Пецярбург, дзе пад іх спевы таньчыў сам Юры Шаўчук...**

**І. Кірчук запрашае ўсіх, хто захапляецца народнай культурай, на “Калядныя ігрышчы”. Прэм’ера спектакля прызначана на студзень 1998 года і адбудзецца ў корпусе педуніверсітэта па вул. Магілёўскай, 37.**

**І. Б.**

## Рэвалюцыяй прызваны

**Споўнілася 95 гадоў з дня нараджэння Анатоля Вольнага — аднаго з ахвяр сталінізму (расстраляны 29 кастрычніка 1937 года), пісьменніка, які плённа працаваў у літаратуры ў 20—30-ыя гады. Сапраўднае прозвішча А. Вольнага — Ажгірэй. Нарадзіўся на станцыі Пухавічы ў сям’і служачага. У 1920 годзе добраахвотна ўступіў у Чырвоную Армію. Пасля дэмабілізацыі працаваў у ЦК ЛКСМБ, вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. А. Вольны спачатку ўваходзіў у літаратурнае аб’яднанне “Маладняк”, потым перайшоў у “Полымя”. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1920 годзе. У 1924 годзе разам з А. Александровічам выдаў кнігу паэзіі “Камсамольская нота”. Аўтар паэтычных зборнікаў “Чарнакудрая радасць”, “Табе”. У сааўтарстве з А. Александровічам і А. Дударам напісаў раман “Ваўчаняты”, які выйшаў у 1925 годзе. На творчым рахунку А. Вольнага — аповесці “Двое”, “Антон Савіцкі”, шэраг п’ес. Па яго сцэнарыях пастаўлены фільмы “Хвоі гамоняць” (разам з К. Дзяржавіным), “Гатэль “Савой”, “У агні народжаная”, “Сонечны паход” і іншыя.**

# Асабісты вораг Мураўёва-Вешальніка

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

па змесце падобную на тую, якая была пададзена палітычнымі злачынцамі на імя палкоўніка жандармаў... Запіска гэтая напісана алоўкам і рукою... Агрызкі, які на допытах і паказаў, што ён быў не аўтарам, а рэдактарам яе”.

Такое данясенне К. Шалашнікаў атрымаў разам з самой запіскай даволі вялікага памеру — восем старонак рукапіснага тэксту.

Ёсць неабходнасць пазнаёміцца з ёй падрабязней, паколькі гэта, несумненна, адзін з першых дакументаў, напісаных ссыльнымі ў імя адстойвання сваіх правоў. Ён стараўся з упэўненасці, што “мэта кожнага ўрада кожнай хрысціянскай дзяржавы не павінна абмяжоўвацца адным толькі захаваннем правоў грамадзянскіх, але што галоўнай задачай яго павінна быць забеспячэнне наогул усіх чалавечых правоў”.

Парушэнне гэтых правоў зняволеныя бачылі ва ўтрыманні іх запёртымі дзень і ноч. А яшчэ ў тым, што ўсіх, у тым ліку хворых і старых, закавалі ў кайданы і забаранілі дастаўляць ежу з суседніх вёсак. “Гэта, — гаварылася ў запісцы, — ёсць прамое адмаўленне ўсіх агульначалавечых і хрысціянскіх правоў, што складаюць набытак кожнага, а, значыць, і ўсіх сасланых на катаржныя работы за палітычныя перакананні”. Зняволеныя выказвалі недаўменне, чаму “рускі ўрад, будучы і еўрапейскім і хрысціянскім, мог адобрыць такое распараджэнне”.

Ёсць у запісцы меркаванне ці не цалкам сугучнае сённяшняму дню, правільней — умовам жыцця ў дэмакратычнай дзяржаве: “Хоць, у выніку неаднолькавага гістарычнага жыцця розных народаў, розніца палітычных перакананняў можа быць вялікай, але ва ўсякім разе розніца гэта не адмаўляе права заставацца хрысціянінам і выконваць... Запаведзі Гасподні, любы замах на якія настолькі злачынны, настолькі ж у вышэйшай ступені антымаральны...”

Ведаючы палітычныя погляды Агрызкі, сумнявацца не даводзіцца — запіска складзена ім. Менавіта ён па сваіх перакананнях належаў да тых рэвалюцыянераў, якія, не адмаўляючы змены дзяржаўнага ладу, аддавалі перавагу законным, на іх думку, пераўтварэнням, а не ставячы на першы план узброенае выступленне. Тым самым заставаліся дэмакратамі па складзе мыслення, а па паводзінах у пэўнай ступені “і дыпламатамі”.

“Дыпламатам” вырашыў застацца і К. Шалашнікаў, але, вядома, у яго разуменні. А ў выніку, паколькі ссыльныя Нерчынскай катаргі ўзброенага непадпарадкавання не аказалі, і супраць іх зброю не прымянялі. Але, паводле заключэння па справе следства, “галоўным зачыншчыкам усіх беспарадкаў у Акатуйскай турме з’яўляецца палітычны злачынец Агрызка, які паміж і злачынцаў карыстаецца вялікай павагай і маральным уплывам”, да яго і было вырашана паставіцца асабліва строга.

Загад аб утрыманні ў далейшым Агрызкі асобна ад іншых Шалашнікаў аддаў яшчэ ў час вядзення следства. Як і хацеў, гэтым спакою сярод зняволеных дамогся. Яны перасталі бунтаваць, пачалі выходзіць на работу ў нядзельныя і святочныя дні, згадзіліся і з парушэннем іх правоў. Але прычына такой пакорнасці была не толькі ў ізаляцыі Агрызкі. Гэткім жа чынам паставіліся яшчэ да 19 чалавек, сярод якіх аказаўся і Двожачак.

Клопат аб далейшым лёсе “самых небяспечных” узяў на сябе генерал-губернатар М. Корсакаў. У сакрэтным пісьме, адрасаваным Якуцкаму губернатару А. Лахвіцкаму, ён загадваў стварыць “у г. Вілюйску цалкам асобнае і надзейнае памяшканне для ўтрымання ў ім 20 чалавек з тых ссыльна-катаржных палітычных злачынцаў, якія па сваім складзе думак уплываюць на масу і падштурхоўваюць іншых да беспарадкаў”. З гэтага моманту ў дакументах і перасталі згадвацца Агрызка, Двожачак і іх сябры па няшчасці. Кожны атрымаў свой парадкавы нумар. Агрызка значыўся пад “11-ым”. Двожачак стаў “16-ым”.

Усіх тэрмінова пачалі рыхтаваць у далейшую дарогу. А паколькі “асабліва небяспечныя”, фіксаваўся па сутнасці кожны іх крок. Таму так дакладна засведчана, што ў Якуцк прыбылі 7 снежня 1866 года ў пяць гадзін вечара. Адразу размясцілі ў Якуцкім турэмным замку, знайшоўшы для кожнага асобную камеру ў флігелі для перасыльных арыштантаў.

У Якуцку ўтрымліваліся да 22 сакавіка 1868 года, пасля чаго пачаўся пакутны шлях у Вілюйск, які завяршыўся ў красавіку. Там іх даўно чакалі і падрыхтаваліся належным чынам. Усіх, хто перад гэтым знаходзіўся ў турме, выслалі ў іншыя месцы акругі, каб у іх з “асабліва небяспечнымі” не ўзнікала ніякіх кантактаў.

Для Агрызкі пацягнуліся аднастойныя дні і ночы. У сакавіку 1870 даведаўся, што Двожачка перавялі на пасяленне ў Якуцкую акругу, а праз некалькі месяцаў прыйшла вестка, што ён памёр. Яшчэ на адну блізкую душу паменшала на свеце.

Пробліск святла на жыццёвай дарозе Іасафата Пятровіча з’явіўся ў канцы 1871 года. Нечакана яму “вярнулі” прозвішча і дазволілі пасяліцца ў Якуцку пад нагляд паліцыі. Думаў-гадаў, адкуль такая “дабрата”? Няўжо нехта з сяброў у сталіцы пахадайнічаў? Аказалася куды прасцей. Праўда, пра гэта Агрызка даведаўся значна пазней. 11 студзеня 1872 года ў Вілюйск быў пераведзены Чарнышэўскі, а яго, як таксама “асабліва небяспечнага”, вырашылі размясціць у камеры, у якой утрымліваўся Агрызка. Таму за 20 з нечым дзён да прыбыцця Чарнышэўскага і адправілі яго на пасяленне ў Якуцк.

Спаўна спазнаўшы ў гэтай камеры-адзіночцы, па чым фунт ліха, Іасафат Пятровіч не мог не здагадвацца, як цяжка даводзіцца Чарнышэўскаму. Таму неаднаразова звяртаўся да сяброў у Пецярбург (перапіску ўжо дазволілі, каб тыя ўмяшаліся. У прыватнасці, у лісце да К. Кавеліна 21 лістапада 1874 года прасіў: “Падумайце, сябры дарагія, ці нельга як-небудзь дапамагчы чалавеку, які заняў маё месца. Хоць у параўнанні са мною ён і карыстаецца там куды большаю свабодаю, але адзінота і клімат дзейнічаюць на яго, я гэта ведаю, забойна. Няўжо няма ніякай магчымасці выбіць для яго перавод хоць на адзін градус паўднёвей?”

Сам бавіў час тым, што праглядаў часопісы, якія няхай і са спазненнем, даходзілі ў Якуцк, атрымліваў кнігі. Пачаў займацца сельскай гаспадаркай, дасягнуўшы ў гэтым немалога поспеху. А ў 1874 годзе, дзякуючы намаганням сталічных сяброў, быў пераведзены ў Верхаленск. Пра хадайніцтвы наконт яго ўплывовых асоб, відаць, даведаліся і там, бо мясцовы спраўнік хутка дабіўся дазволу ў генерал-губернатара на паездку Іасафата Пятровіча на чатыры месяцы ў Іркуцк. Гэта было звязана з пагаршэннем яго здароўя, а там можна было атрымаць медыцынскія парады, прайсці кансультацыі.

Тэрмін знаходжання ў Іркуцку прадоўжылі, але нечакана (невядома па якой прычыне) загадалі вярнуцца ў Верхаленск. Там

# Выжываюць разумныя

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

**— Мне здаецца, ён у масе сваёй і зараз усё яшчэ савецкі.**

— Абсалютна згодзен. Дык вось, ён даўно прывык, што за яго нехта там наверсе пра ўсё жыццёва важнае думае. Укаранілася і прывычка мець сацыяльныя гарантыі на працу незалежна ад уласнай руплівасці, на адпачынак, на жыллё, на медыцынскае абслугоўванне і гэтак далей. Цяпер умовы змяніліся і кожны вымушаны ўмець змагацца за свой дабрабыт. А для гэтага ж таксама патрэбна вялікая жыццёвая вывучка, нават пэўная традыцыя. Справа, прама скажам, не аднаго пакалення.

Вы назвалі пэўную катэгорыю людзей. Так, псіхіятрамі яны заўважаныя. І сапраўды, гэта вельмі вялікая сацыяльная праблема — нашы “савецкія абломавы”. Падобныя хібы ў сацыяльных паводзінах могуць мець дзеці, зачатыя п’янымі бацькамі.

**— Ці хранічна стомленымі бесперспектыўнай абрыдлай працай пад прымусам, накшталт калгаснай. Ці на вытворчасці пры Сталіне, калі людзей пад страхам жорсткага пакарання прымушалі працаваць амаль задарма. Дарэчы, сярод “кулацкага элемента” каго-каго, а лайдакоў не было, хоць людзі і працавалі вельмі шмат. Але ж самахоць, са спадзяваннем на лепшае ў будучым. Таму і дзеці ад такіх бацькоў нараджаліся з генетычнай праграмай працаваць, дзейнічаць стваральна.**

— Складанае пытанне. Яшчэ адна зона рызыкі — няпоўныя сем’і. А такіх недзе каля 25 працэнтаў, дастаткова многа. Не ўсе яны кепскія, канешне, але ж шмат і такіх, дзе дзеці пачынаюць паўтараць шлях сваіх недалужных бацькоў — тыя ж неактыўныя адносіны да жыцця, стваральнай працы, хлуслівасць, лянота, нарэшце п’янства. Гэтай праблемай, паўтару, не толькі мы павінны займацца. Дарэчы, каб не перакладаць хібы сацыяльнага выхавання толькі на школу, як часта бывае, мушу сказаць, што з першых класаў у многіх выпадках педагогі стараюцца выхаваць у дзяцей працавітасць, прывычку даводзіць справу да завяршэння, актыўную жыццёвую пазіцыю. Але калі ў чалавека ў сям’і, яшчэ з пялёнак, так бы мовіць, не фармуецца дактрына дасягнення пазітыўных сацыяльных мэт, то ні школа, ні медыцына выправіць яго не здолеюць. Асабліва, калі ён яшчэ і сам да гэтага не будзе імкнуцца.

Нашы захады? У сістэме Міністэрства адукацыі цяпер ствараюцца педпсіхалагічныя цэнтры — іх пакуль няшмат, але ўжо ёсць, — якія стараюцца сацыяльна актывізаваць вось гэтых непрыкаяных, жыццёва інертных маладых людзей, каб хоць неяк ім дапамагчы. Прычым, як мага ў больш раннім узросце. Лягчэй за ўсё ўспрымаюцца формы існавання, якія не патрабуюць высілкаў волі. А гэта што: бадзяжніцтва, папрашайніцтва, дробны крадзеж... А ў нецвярозым стане ўжо магчымыя і больш сур’ёзныя крымінальныя ўчынкі. Усё гэта спараджаецца сацыяльнымі прычынамі, залежыць ад стану грамадства. Тут, зноў жа, медыцына нешта істотна зрабіць не ў сілах. Яна можа толькі падкарэкціраваць нешта, параіць, у якім накірунку шукаць выйсце. Вельмі многае залежыць ад змены поглядаў саміх людзей на жыццё, ад эфектыўнасці сацыяльна-педагагічнага ўздзеяння на іх. Ну, і дзяржава не павінна заставацца раўнадушнай да лёсу сваіх грамадзян.

**— Але ж у вашай службы значны прафесійны аўтарытэт. Вы можаце рэкамендаваць нешта тым жа дзяржаўным органам.**

— Што мы і робім актыўна. А пачынаць аздараўленне патрэбна з сям’і. Затым уключаецца педагагічна-адукацыйная сістэма і адпаведныя дзяржаўныя структуры. У нас добрыя кантакты з Міністэрствам адукацыі. У цэнтрах, пра якія я ўжо казаў, бяруць актыўны ўдзел і ўрачы — псіхіятры, псіхатэрапеўты і псіхолагі. Словам, імкнёмся ўздзейнічаць на сітуацыю чым толькі можам. Напрыклад, дзякуючы нашым намаганням упершыню ў рэспубліцы (пакуль толькі ў Мінску) створаны гарадскі дзіцяча-падлеткавы псіханеўралагічны дыспансер, каб можна было больш увагі ўдзяляць тым, хто знаходзіцца ў зоне рызыкі. Перад гэтай службай пастаўлена задача грунтоўна абследаваць сем’і, дзе не ўсё ў парадку, і калі выявяцца нейкія псіхічныя адхіленні, неадкладна аказваць дапамогу. У садружнасці, зноў-такі, з Міністэрствам адукацыі.

Дарэчы, вышэйшыя дзяржаўныя органы атрымліваюць ад нас пастаянную ўсебаковую інфармацыю пра стан псіхічнага здароўя насельніцтва, нашы рэкамендацыі адпаведна. Даводзіцца бываць і на паседжаннях міжведамаснай камісіі па барацьбе са злачыннасцю і наркаманіяй Савета бяспекі рэспублікі. Канешне, там абмяркоўваюцца яшчэ болей надзённыя праблемы, але не застаюцца ўбаку і нашы, вырашыць якія магчыма не так хутка, як хацелася б.

**— Мне здаецца, псіхічнае здароўе нацыі — ці не адна з найбольш надзённых праблем, і тут павінна быць нейкая грунтоўная дзяржаўная праграма.**

— Яна ёсць. І някепская. Скажам, камітэтам па справах моладзі распрацавана праграма аздараўлення, праграма аховы правоў дзіцяці і гэтак далей. На паперы напісана многа добрых і правільных слоў, цяпер бы толькі запусціць механізм рэалізацыі, які, на жаль, прабуксоўвае.

**— Цяпер хачу задаць вам крыху, так бы мовіць, філасофскае пытанне. Як бы вы**

Агрызка пражыў да мая 1876 года. Як і ў Якуцку, хацеў заняцца сельскай гаспадаркай, але сутыкнуўся з цяжкасцямі: "гэта аказалася зусім немагчыма: з-за таннасці хлеба і дарагоўлі рабочых рук хлебаробства стратнае".

А сябры працягвалі хадайнічаць... Нарэшце дамагліся, што ў тым жа 1876 годзе Агрызку перавялі на пастаяннае жыхарства ў Іркуцк, дзе знаходзіўся "пад строгім наглядам паліцыі і асобным наглядам".

Іркуцк для свайго часу з'яўляўся як бы сталіцай Сібіры. А якраз кантактаў з людзьмі, якія б маглі зразумець цябе, столькі гадоў Іасафату Пятровічу не ставала. Ён марыў знайсці іх тут, бо адзіноцтва — у тым ліку і духоўнае — даўно надакучыла. А ў душэўным здароўі, паколькі стаў фізічна нямоглым, было ці не адзінае ўратаванне. Страціў зрок на правае вока, слаба бачыў левым...

Але не здаваўся і работы не цураўся. Ды і як без яе, калі даводзілася з цяжкасцю зводзіць канцы з канцамі. Даўгі раслі не толькі таму, што на дапамогу збоку разлічваць не даводзілася. Колькі жыў, прывык, як ні цяжка даводзілася самому, дапамагаць і іншым. У адным з лістоў наконт складанасці матэрыяльнага становішча прызнаваўся, што гэта вынік "збегу няшчасных абставін і ў нечым мая лішняя дабрыня".

Складанасць была і ў тым, што яму не дазвалялі выязджаць за межы Іркуцкай акругі. Летам вырашыў паспрабаваць шчасця ў здабычы золата — балазе Баргузінскія радовішчы знаходзіліся не так і далёка ад Іркуцка. Не разбагацець збіраўся, а каб хоць крыху грошай займець. І з даўгамі хацеў разлічыцца. Ды спадзяванні аказаліся марнымі. Апынуўся ў гэткім жа незайздросным становішчы, як і іншыя шукальнікі дарагога металу.

А што за парадкі панавалі на гэтых промыслах, відаць з аднаго з пісем Іасафата Пятровіча, якое, між іншым, сведчыць аб яго добрым веданні жыцця, назіральнасці, здатнасці рабіць важкія абагульненні: "Рабочыя ўсе сапсаваны да неверагоднасці, давайце ім выдатнае ўтрыманне і плаціце хоць па 4 р. за залатнік знойдзенага золата, яны ўсё ж будуць ленавацца працаваць, будуць красці золата і панясуць яго таму, хто купляе яго за віно. Вінаваты, канечне, не яны, а тыя золатапрамыслоўцы, якія скупляюць золата за віно, а яны ўсе, у Баргузінскай акрузе, займаюцца гэтым. Пры такіх парадках рабочыя на зыходзе лета выходзяць без кашулі... Кажуць, што залатыя прыіскі ўвогуле шкодна ўплываюць на маральнасць народа. Мне здаецца, што яны маглі б прыносіць вялікую карысць народу, калі б самі золатапрамыслоўцы больш сумленна ставіліся да справы і калі б з боку ўрада былі прыняты больш разумныя меры".

Быў бы маладзейшым, магчыма, гэтыя прапановы мог абгрунтаваць больш дэталёва, зрабіўшы належныя выкладкі і распрацоўкі, а так... Каму патрэбны яго меркаванні? Стары, нямоглы чалавек, а да ўсяго пад наглядам паліцыі!

Канечне, мара аб вяртанні ў Пецярбург Агрызку не пакідала, хоць з кожным годам разумеў усё большую мройнасць яе. А калі вяртацца, дык да каго? Яшчэ ў чэрвені 1877 года Іасафат Пятровіч напісаў ліст, поўны роспачы: "Адчуваю ўпадак сіл фізічных і наўрад ці дачакаюся таго часу, калі мне дазволяць выехаць адсюль... Няма чаго рабіць, буду чакаць. Балюча адно, што самыя блізкія мне людзі, якіх хацелася б хоць раз у жыцці пабачыць і абняць, адзін за другім паміраюць. Калі ўдасца пражыць мне 5, 6 гадоў, то, відаць, няма чаго і вяртацца".

Пажыць Агрызку наканавана было яшчэ 13 гадоў — памёр ён 18 сакавіка 1890 года. За чатыры гады да гэтага перажыў смерць К. Кавеліна, даведаўшыся пра якую, плакаў несуцешна, як дзіця, аб чым прызнаваўся ў лісце да Л. Панцялеева, пасланым вясной 1886 года: "Я страціў звычайную маю энергію і да гэтага часу не магу ачомацца".

Памёр Агрызка ў адзіноце і беднасці — даўгі складалі 20 тысяч рублёў... А перад гэтым пакутаваў задышкай, ацёкам ног, пастаяннай слабасцю. Тым не менш любіў запрашаць да сябе сяброў, якіх знайшоў у Іркуцку. Адным з іх быў Б. Шастаковіч, які праходзіў па справе Д. Каракозава і апынуўся ў Сібіры. Яму Іасафат Пятровіч шмат расказаў пра сваё жыццё, дзяліўся нават самым запаветным. Б. Шастаковіч упэўніўся, што згадкі Агрызкі мелі б і грамадскую цікавасць — як сведчанне аднаго з тых, хто прайшоў рэвалюцыйны шлях, у многім непадобны на дарогу іншых барацьбітоў з царызмам.

Захавалася такое сведчанне Б. Шастаковіча: " У апошнія дні нашага знаёмства мы дамовіліся, каб я пад яго дыктоўку запісаў яго ўспаміны. Але хвароба так моцна падточвала яго арганізм, што я баяўся стаміць яго гэтай справай. Мяркуючы па некаторых нашых гутарках, аповед гэты не быў бы пустым, а ўяўляў бы шмат цікавых гістарычных фактаў".

І 18 сакавіка ў Іасафата Пятровіча быў не толькі ўрач, а і знаёмыя. Адчуваючы, што сілы на зыходзе, Агрызка папрасіў перадаць прывітанне тым сябрам, каго няма поруч. Не мог ведаць, што за месяцы яго хваробы іх у жывых засталося яшчэ менш. Адно ведаў: на гістарычную арэну выходзіць новае пакаленне рэвалюцыянераў. Значыць, яны, папярэднікі, жылі і змагаліся недарэмна. Дарэчы, сам ён не шкадаваў, што ў жыцці сваім пайшоў гэтай, а не іншай дарогай: "Мінулае незваротнае, але... калі б гэта зрабілася без маёй волі, абставіны гэтыя паўтарыліся, я б зноў зрабіў так, як зрабіў..."

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

ВІНШУЕМ!

# "А больш за іншыя — дык зухаватыя..."

***Гэтая актрыса мае на сваім творчым рахунку ролі надта сур'ёзныя, — адказныя, як іх называюць у закуліссі. І выконвала яна такія з сапраўднай самааддачай, паглыбляючыся ў псіхалагічныя лабірынты жаночага характару.***

Мабыць, заўзятыя тэатралы і дасюль помняць, як гэта выглядала на сцэне, калі Таццяна Заранок паўставала ў промнях рампы Надзеяй Шадрынай ("Чалавек з ружжом" М. Пагодзіна) або Таццянай Марыч ("Над Бярозай-ракой" П. Глебкі). Тое было яшчэ ў Другім БДТ (цяпер Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа). Берасцейцы ж ведаюць, як старанна зусім нядаўна ў горадзе над Бугам артысты выконвалі ролі ў так званай Лeнініяне ("Фінал" П. Строгава, "Дзень цішыні" М. Шатрова, "Брэсцкі мір" К. Губарэвіча), і вобраз Надзежды Крупскай у гэтых спектаклях увасабляла Т. Заранок. Складаныя сцэнічныя задачы вырашаліся ёю і ў такіх розных драматычных творах, як "Хаціна дзядзькі Тома" паводле Г. Бічэр-Стоў (міс Фані) і Юстына ў аднайменнай п'есе Х. Вуаліёку, Аксюша і Людміла ў "Лесе" і "Познім каханні" А. Астроўскага, трагедыйная Зінка ў "Заложніках" А. Кучара... Арганіка і глыбокае адчуванне ўнутраных імпульсаў, праўда паводзін падобных яе гераінь спалучалася з адточаным артыстычным майстэрствам. Актрыса і цяпер, калі надараецца ёй гаварыць пра перажытае і зробленае на сцэне, справядліва ганарыцца рэпутацыяй удумлівага інтэрпрэтатара тэатральных вобразаў. І ўсё ж такі...

— І ўсё ж, як ні круці, а больш за іншыя любіла і люблю тых сваіх дзяўчат і жанчын, што былі адметныя зухаватым характарам. Перасмешніц. Гарэз. Свавольніц...

То і зразумела. Яна ж і ў Студыю пры Другім БДТ прыйшла ў 1931 годзе пракудлівай белакурай ахвотніцай да розных штук з далёкай ад тэатральных цэнтраў станцыі Васілевічы, дзе бацька яе працаваў на чыгунцы. Пявуння. Непаседа. Гатовая вось зараз пусціцца ў скокі. Праўда, і правінцыйна сарамлівая. "Зажатая", як гавораць у закуліссі. І студыйныя педагогі перш-наперш вучылі яе свабодна паглыбляцца ў жывое жыццё, якое захапляе маладое сэрца і вядзе яго па сваіх пакручастых зігзагах. Во якраз такімі вобразамі яна і славілася — і на віцебскіх падмостках, і ў Брэсцкім тэатры (тады яшчэ — імя Ленінскага камсамола Беларусі). Колькі агню і хітраватага гумару, які пяшчотны і патрабавальны тэмперамент зіхацелі і пераліваліся ў яе каларытнай Дуньцы ("Любоў Яравая" К. Транёва) або лагоднай Тоні ў "Цудоўным сплаве" У. Кіршона, у гарэзлівай Фаншэце ("Жаніцьба Фігара" П. Бамаршэ) і ў Ганне Чыхнюк ("Выбачайце, калі ласка!" А. Макаёнка), у Марціне ("Лекар па прымусу" Ж.-Б. Мальера) і ў валявой працаўніцы Любе ("Алазанская даліна" І. Дорскага і К. Губарэвіча)! Тут актрыса дэманстравала маляўніча дзівосную мазаіку тэатральных партрэтаў жанчын з гарэзлівым нахілам свайго характару. Яна часта знаходзіла і вытрымлівала адметную інтанацыю-мелодыю ў сцэнічным жыцці сваёй гераіні. Не саромелася раскрываць і загадкавую блытаніну жаночых жаданняў і памкненняў, ахвярную асляпленасць у каханні і смелую рызыку ў іхніх пошуках месца пад сонцам, шчасця жаночага.

У снежні народная артыстка Беларусі Таццяна Заранок адзначае юбілей. Да вітанняў у яе адрас берасцейцаў, упэўнена можна сказаць, далучацца і ўдзячныя ёй гледачы Віцебска, Мінска, Харкава, Львова, Гомеля, Масквы, дзе выступала з гастролямі брэсцкая трупа ў 50—70-ыя гады. Бо толькі ў "Брэсцкай крэпасці" К. Губарэвіча, напрыклад, яна сыграла ролю Дашы больш як семсот разоў! Працаўніца сцэны, — кажуць пра такіх. Справядліва. Акрыленая і вясёлая працаўніца. Такой Вас, Таццяна Піліпаўна, ведаюць і помняць нашы тэатралы!

**Барыс БУР'ЯН**

**ахарактарызавалі старажытны афарызм: "Выжываюць разумныя"? У ім няма ніякай этычнай афарбоўкі. Але ж можна сказаць, што разумныя — гэта найбольш хітрыя, якія свае здольнасці мозгу ўмела выкарыстоўваюць, каб падпарадкаваць сабе больш прастадушных і жыць за кошт іхняй працы. Ці тыя, хто ўмее своечасова падладжвацца і дагаджаць чарговаму ўладару, але потым ацалець, калі той будзе звергнуты больш удачлівым сапернікам. А можна лічыць, што гэта людзі, якія ўмеюць аналізаваць прыродныя і сацыяльныя абставіны, знаходзіць аптымальнае вырашэнне лёсавызначальных праблем, што ўзнікаюць у працэсе жыцця, уключаючы тую ж ахову прыроды, асяродка свайго існавання.**

— З пункту гледжання псіхіятрыі разумны чалавек — той, хто здольны авалодаць пэўным наборам ведаў аб прыродзе, сацыяльным асяродку, аб'ектах і суб'ектах, неабходных дзеля жыцця. Гэта адна частка вызначэння. Бо мы ведаем нямала такіх разумнікаў, якія гэта ведаюць і ў той жа час застаюцца непрыстасаванымі ў жыцці, незапатрабаванымі. Другая частка вызначэння інтэлектуальнай дастатковасці — якраз здольнасць прымяняць на практыцы свае жыццёвыя веды, умельства. Так што можна сказаць: разумны — гэта адаптаваны чалавек, які можа свой вопыт, вывучку, сацыяльныя навыкі выкарыстоўваць дзеля ўласнай карысці (гэта эгаістычная пазіцыя), ну, і дзеля карысці грамадства (альтруістычная пазіцыя). Сама ж разумнасць, інтэлект, канешне, бываюць рознай ступені. Маці-прырода нас такімі зрабіла: нехта ў адным разумнейшы, нехта — у іншым, а разам, у соцыуме, усе карысныя ўсім. А задача кожнага члена грамадства — максімальна рэалізаваць свой разумовы патэнцыял. Вось мы і зноў закранулі пытанне ранняга сацыяльнастаноўчага выхавання падрастаючага пакалення і адказнасць бацькоў за засваенне дзецьмі аптымістычна-пазітыўных, скіраваных на стваральную працу поглядаў на жыццё, каб кожны змог развіць усе свае станоўчыя здольнасці, задаткі, цалкам раскрыўся.

**— Чалавецтва пастаянна вымушана прыстасоўвацца, у тым ліку псіхалагічна, да непазбежных прыродных змен асяродка існавання, сваёй экалагічнай нішы, як яшчэ гавораць. З пункту гледжання выжывання чалавецтва як віду, якое грамадства, па меркаваннях псіхіятрыі, больш перспектыўнае — з вялікім міграцыйным (і эміграцыйным) патэнцыялам ці больш аседлае, эмацыянальна прывязанае да пэўнай тэрыторыі, устойлівае па культуры, традыцыях, мове, карацей — з прыкметнай нацыянальнай акрэсленасцю, своеасаблівасцю?**

— Складанае пытанне. Думаю ўсё ж, чалавек павінен стаяць на пазіцыях любві да сваёй айчыны, мець гісторыю свайго народа, паважаць яе, бо без гісторыі і сваёй мовы — гэта чалавек без каранёў. Так, гэта вельмі важна. У той жа час ён не павінен замыкацца ў вузкіх рамках прывычных інтарэсаў. Разнастайны абмен паміж этнасамі, як, дарэчы, і значныя сацыяльныя перамены — таксама неабходныя для развіцця і выжывання чалавецтва. Узяць тую ж рэвалюцыю ў Расіі 1917 года. Як бы яе нехта ні ахайваў, а гэта велізарнейшая падзея першай паловы дваццатага стагоддзя. Рэвалюцыя дазволіла людзям, якія ніколі не ўзняліся б, так бы мовіць, "ад сахі", кардынальна памяняць сацыяльны статус, стаць вучонымі, урачамі, педагогамі, інжынерамі, пісьменнікамі і гэтак далей. Рэвалюцыя дала магчымасць развівацца чалавецтву, нягледзячы на ўсе выдаткі, якія мы ведаем з гісторыі. Але менавіта ў часе такіх вось сацыяльных катаклізмаў, пераваротаў людзі актывізуюцца як ніколі. Мы ўжо гаварылі пра тое, як людзі здольныя прыстасоўвацца да змены ўмоў жыцця. У такія часы якраз становяцца магчымымі значныя адкрыцці, навуковыя дасягненні, выдатныя творы мастацтва, нягледзячы на гранічна неспрыяльныя эканамічныя і сацыяльныя абставіны. Відаць, гэта ўсё заканамерна для развіцця чалавецтва. Павінны быць і кансерватыўныя, стабільныя перыяды, і рэвалюцыі, якія пераварочваюць сацыяльныя структуры, каб ствараць новыя.

**— Гэта сацыяльны момант развіцця чалавецтва. А калі разглядаць менавіта толькі суперміграцыю, калі нейкая значная частка насельніцтва пастаянна імкнецца, рэагуючы на жыццёвыя складанасці, абавязкова ў іншую (можа, больш цёплую, ці сытную, ці свабодную) краіну, а гэту пачынае лічыць часовым прыпынкам? Накшталт цяперашніх шмат якіх падлеткаў у гарадах, якія наўмысна і з нейкай асалодай ператвараюць лесвічныя пляцоўкі і пад'езды дамоў у апаскуджаныя руіны.**

— Значная міграцыя сапраўды стварае праблемы, урбанізацыя таксама — калі мноства людзей адрываюцца ад сваіх каранёў. Гэта стварае эгаістычныя настроі — калі кожны сам за сябе. Значыць, разбураецца камуна, абшчына, калі людзі дапамагалі адзін аднаму выжыць. Словам, гэта дадатковы стрэсавы фактар. Чалавецтва разлічваецца такім чынам за ўсё нервова-псіхічнымі растройствамі пэўнай часткі сваіх членаў. Выходзіць, значная міграцыя — не лепшае дзеля псіхікі. Словам, у жыцці за ўсё даводзіцца плаціць, у тым ліку здароўем. Таму, перш чым нешта сур'ёзнае рабіць, трэба добра лічыць варыянты наступстваў.

**— Ну, і напрыканцы нашай гутаркі, Алег Уладзіслававіч, што б вы, як вядомы ўрач-псіхіятр, параілі зараз сваім суайчыннікам-беларусам?**

— Я параіў бы, нягледзячы на ўсе цяжкасці жыцця, з якімі мы сутыкнуліся, заставацца самімі сабой, годнымі і разважлівымі. Трэба верыць у чалавека — у яго прыстойнасць і неабмежаваныя магчымасці як разумнай істоты. Трэба нам навучыцца падобраму адносіцца адзін да аднаго, бо мы часта самі непрадуманымі паводзінамі ствараем масу канфліктаў, якія выклікаюць расстройствы нервовай сістэмы. Парэкамендаваў бы бадзёрасці духу, адносіцца да ўсяго па-філасофску, не губляць упэўненасці, што, нягледзячы на ўсе цяжкасці і змрочнасці, будуць у кожнага ў жыцці і светлыя часіны, калі ён здолее валодаць сабой.

ПАМЯЦЬ

***Хачу, калі хопіць сіл і часу, напісаць кніжку пра людзей майго сэрца. Яны са мною, жывыя і мёртвыя, ідуць па жыцці, падмагаюць перадольваць нягоды. Перад імі спавядаюся, у іх, як у чыстай крынічцы, чэрпаю гаючыя лекі для душы.***

***У маім сэрцы, найперш, мама, святая Марыя, мая пажыццёвая Багіня. Выпеставаны ў душы вобраз першай, вясковай настаўніцы, якая нас, пасляваенных галадранцаў, вучыла ў сваёй хаце пісаць літары беларускага алфавіта. Перад сном прыгадваю доктарку, якая зрабіла мне складаную аперацыю, а сама неўзабаве стала ахвярай чарнобыльшчыны. Даражу сяброўскай шчырасцю з асобнымі пісьменнікамі, артыстамі, мастакамі, вучонымі. У маім сэрцы — каханая жанчына, спадарожнік жыцця, мае дзеці і ўнукі, і дзеці Беларусі — сіроты, падкідышы, інваліды, хворыя, якія пазбавілі мяне сну і так рана заснежылі галаву...***

***Сярод сяброў майго сэрца і Аляксандр Пятровіч Капусцін, пісьменнік і чалавек шчодрай, чыстай душы.***

# Усяму беламу свету...

## СЛОВА ПРА АЛЯКСАНДРА КАПУСЦІНА

Мяне з ім некалі пазнаёміў Толя Бутэвіч. Ён, выпускнік універсітэта, працаваў тады ў БЕЛТА і вельмі цешыўся, што побач з ім вопытны журналіст і літаратар. А з Толем мы разам, праўда, я ўжо штатна, а ён, як юнкор, праходзілі першыя журналісцкія ўрокі ў нясвіжскай раёнцы.

Вось аднойчы і сустрэлася тройца малойцаў, і пасядзелі хораша, няспешна, як здаўна робяць аднадумцы на Беларусі. Мяне ў той вечар кранулі ўспаміны Аляксандра Пятровіча пра яго ваеншчыну, спярша пра камсамольскае падполле, пасля пра ліхія партызанскія налёты на чыгунку і пра франтавыя паходы, у якіх ён быў тройчы паранены. А найбольш мяне ўзрушыла тое, што я спаткаў чалавека, які ў вайну партызаніў якраз жа недалёка ад маіх Шоўкавічаў. Жлобінскі раён, адкуль родам Аляксандр Пятровіч, суседнічае з Шацілкамі (цяпер Светлагорск), а ад іх да маёй балотнай вёсачкі — рукой падаць. Калі нашу вёску спалілі, і мы хаваліся ў лясных куранях, нас, хто застаўся жывым, дзяцей і старых, ахоўвалі партызаны. Трэба ж, сярод іх быў і Аляксандр Капусцін, з якім мы распачалі ў Мінску сяброўства. Друкаваліся ў адных газетах і часопісах, сталі членамі адной пісьменніцкай арганізацыі.

І я ўсе гады, і цяпер, калі Аляксандр Пятровіч так нечакана пакінуў белы свет і "ў сваю дывізію пайшоў", беражліва даражу нашым сяброўствам, бязмежна ўдзячны яму за тое, што ратаваў мяне, дзіця вайны, у гады ліхалецця. Як тут не прыгадаць радкі паэта Міколы Маляўкі, прысвечаныя Аляксандру Капусціну:

*Людзі франтавога*
*пакалення,*
*Людзі легендарных*
*перамог,*
*Вы —*
*І слава наша,*
*І сумленне,*
*І апора вы —*
*У дні трывог...*
*Выбітыя страшнаю*
*вайною,*
*Сшытыя,*
*Сабраныя з касцей,*
*Вы грудзьмі,*
*Вы ранняй сівізною*
*Прыкрывалі нас,*
*Малых дзяцей...*

Аляксандр Пятровіч на пачатку сяброўства стаў і маім літаратурным абаронцам, настаўнікам. У яго былі ўжо аўтарскія кніжкі "Суд ідзе", "Мерай закону і сумлення", "Суд вырашыў", а я толькі марыў пра першую кніжку. І для мяне было важна атрымаць урокі майстэрства ад вопытнага літаратара: як ён шукае і адбірае жыццёвы матэрыял, якімі словамі перадае яго чытачу, што закладвае паміж радкамі і якімі фарбамі душы малюе на белых аркушах паперы.

Тады, калі чытаў яго першыя кніжкі, і цяпер, калі чытаю апошнюю кніжку Аляксандра Капусціна "Усяму беламу свету", якую, на жаль, ён так і не дачакаўся ўбачыць, у мяне застаецца нязменнае пачуццё зайздрасці. Як умее пісьменнік Капусцін назіраць праявы жыцця! Здаецца, не было анічагенькі на яго дарозе, каб вочы не заўважылі, каб душа не адгукнулася, каб сэрца не зрэагавала.

Вось выйшаў пісьменнік на прагулку. Цешыцца бялюткім снегам, які выпаў уначы, прыпудранымі бярозкамі, быццам весялухамі-артысткамі перад выхадам на сцэну. "На вецці зырка іскрыліся сняжынкі-зорачкі пад промнямі, што выслізнулі з-пад абрыўка хмары". Ды раптам душа пісьменніка захмарылася. Не снезе было накрэмзана брыдкае слова. Гэта зрабіў нехта з малых жыхароў яго дома. Ён цераніў нагою па крывых літарах, а пасля пашукаў спагады свайму абурэнню ў суседзяў, мужа і жонкі. Тыя ў адказ абыякава ўсміхнуліся: "Пісьменны хлопчык..."

Ад такой абыякавасці, здаецца, само сонца раней часу пакацілася на спачын. А на сподзе душы пісьменніка шчымела: хто даў таму хлопчыку кій, якім ён пісаў брыдоту, хто адбярэ — бацькі, школа ці ўсе мы, левыя і правыя?..

Такіх навелак, абразкоў у апошняй кнізе, як і ва ўсёй творчасці Аляксандра Капусціна, вельмі шмат. Ён, а гэта адметная якасць пісьменніка, пазіраў на свет адкрытымі, яснымі вачыма дзіцяці. Не стамляўся гэта рабіць. Таму і смыліла ягонае сэрца па розных праявах жыцця, на якія, як на драбязу і нікчэмнасць, не звяртае ўвагі чалавек раўнадушны, невідушчы абыякавы.

У трэцім томе бібліяграфічнага слоўніка "Беларускія пісьменнікі" Аляксандру Капусціну прысвечана пяць старонак убористага тэксту. Пачынаючы з 1943 года і па 1985 год занатаваны ўсе публікацыі аўтара. Тут і публіцыстычныя артыкулы, і нарысы, і апавяданні, і гумарэскі, і дзённікавыя



запісы, і аповесці. А выданні, у якіх друкаваўся А. Капусцін, самыя розныя, здаецца, усе, якія толькі былі на той час у Беларусі.

Прыемна, што некалькі твораў для дзяцей прыносіў Аляксандр Пятровіч і да нас у "Вясёлку". Гэта — "Мірны лётчык", "Шабля маршала", "На пчальніку", "На партызанскім востраве", "Малюнак"...

Ды з усяго напісанага Аляксандрам Пятровічам, а гэта значная доля творчых здабыткаў, мне вельмі імпануе яго дакументалістыка. Можа, яшчэ і таму, што я сам люблю гэты нялёгкі жанр. Ён складаны і цяжкі тым, што заўсёды маеш справу з рэальным чалавекам, які жыве, працуе, памыляецца, любіць і ненавідзіць. Тут, як і вопытнаму краўцу, трэба сем разоў адмераць, назапасіць ведаў пра гэту асобу з розных крыніц, у тым ліку і архіўных, а тады ўжо садзіцца пісаць.

Аляксандр Пятровіч любіў пісаць пра сучаснікаў і асабліва пра сваіх землякоў, альбо пра людзей, якія нешта значнае зрабілі для яго роднай Жлобіншчыны. Лепшае з напісанага ўвайшло ў кнігі "Покліч сэрца", "Размова ў дарозе", "Салёная раса".

Верным сваёй творчай захопленасцю застаўся аўтар і ў апошняй кнізе. Усяму беламу свету захацеў ён расказаць пра сваіх землякоў. Ім прысвечаны апошні раздзел кніжкі "Добрым словам чалавечым". Ён, як запавет жывым: любіце жыццё! Ён, як помнік знакамітым людзям, якіх ён ведаў і любіў.

А. Капусцін па-свойму адкрыў для нас, нашай культуры мастака Міхаіла Башылава, ураджэнца Жлобіншчыны. Таленавіты мастак перапісваўся з самім Львом Талстым і рабіў малюнкі да рамана "Вайна і мір". Арыгіналы малюнкаў Башылава да "Губернскіх нарысаў" Салтыкова-Шчадрына захоўваюцца ў Рускім музеі ў Санкт-Пецярбурзе. Зямляк А. Капусціна быў першым ілюстратарам твораў Шаўчэнкі, Грыбаедава.

З гонарам напісаў Аляксандр Пятровіч нарыс пра слыннага акадэміка А. Н. Сеўчанку, які нарадзіўся і гадаваўся ў вёсцы Дзяніскавічы Жлобінскага раёна. Пісьменнік зазначае, што кожны чалавек узлятае на тую вышыню, якая яму даступна па даўжыні крылаў. І гэтай "даўжынёй крылаў" ён як бы ацэньвае ўсё, што паспеў зрабіць у сваім жыцці вучоны, рэктар універсітэта, грамадскі дзеяч Антон Нічыпаравіч Сеўчанка.

Здаецца, А. Капусцін паставіў перад сабой пажыццёвую творчую задачу: вярнуць з нябыту, з гісторыі ўсе слаўныя імёны жлобінцаў, увекавечыць добрым словам сваіх землякоў. Ён усвядоміў мудрую ісціну: памяць людская — вечны агонь жыцця, без яе няма культуры, а без культуры няма чалавека.

І жлобінцы бязмежна любілі свайго летапісца, былі ўдзячны яму за памяць пра іх, за клопаты пра іх, за тое, што выводзіў лепшых з лепшых на арбіту славы і вядомасці. А праявілі гэту любоў і павагу у 1983 годзе, прысвоіўшы яму званне "Ганаровы грамадзянін г. Жлобіна".

Разам з пісьменнікамі Мікалаем Кругавых, Віктарам Дайлідам, Міколам Маляўкам, Міколам Мятліцкім, Анатолем Зэкавым, Анатолем Жалязоўскім, Алесем Марціновічам я бываў на Жлобіншчыне, якая ўшаноўвала ў розныя юбілеі свайго паважанага грамадзяніна. Пра яго казалі сардэчныя словы, яму прысвячалі песні і танцы, дарылі дарагія падарункі. І гэта рабілася так шчыра, міла, з любасцю, што той цёплай шчодрасці хапала не толькі самому Аляксандру Пятровічу, а і нам, яго сябрам, літаратурным братам.

Амаль заўсёды ў такіх творчых сустрэчах А. Капусціна з землякамі брала ўдзел і яго пажыццёвая спадарожніца, любячая жонка Эміля Іванаўна. Да сівых валасоў, да апошняга дня ён, называў яе ласкавымі словамі, клапаціўся пра яе настрой, здароўе, аберагаў агонь сямейнага кахання.

Шчаслівымі заканаымі жылі Аляксандр Пятровіч і Эміля Іванаўна на вуліцы Гамарніка, у сваёй утульнай кватэры з безліччу кніг, карцін, фотакартак ды сувеніраў...

Ды раптам уляцела ў кватэру трывожная вестка: у пісьменніцкім Доме, падчас сходу перастала біцца сэрца Аляксандра Пяровіча Капусціна. І "перасяліўся" ён на могілкі ў родны Жлобін.

Сэрца маё не хоча змірыцца са стратаю сябра. Я адчуваю, збядней, асіраціў пасля гэтай бяды. Не бачыў яго ў труне, якраз жа быў у той час у камандзіроўцы, таму і не магу змірыцца, што ён пайшоў у вечнасць.

Па-ранейшаму веру, што ён яшчэ пазвоніць, адгукнецца, падорыць сваю шчырую ўсмешку, і мы будзем доўга прыгадваць жыццёвыя гісторыі і спавядацца адзін перад адным.

Некалі я абнародаваў адзін з дыялогаў з пісьменнікам Аляксандрам Капусціным. Яго надрукавалі рэспубліканскія газеты. Шмат цікавых думак выказаў тады Аляксандр Пятровіч. Не буду паўтараць надрукаванае, а вось яго пажаданне маладым хачу пакінуць і ў гэтай публікацыі, бо яно, як мне здаецца, праходзіць лейтматывам па ўсёй творчасці пісьменніка.

— Што б вы, Аляксандр Пятровіч, перадалі маладым у спадчыну ад аднагодкаў ваеннага часу?

На твар пісьменніка ўскочыла заклапочанасць, ён крыху памаўчаў і адказаў так:

— Быў у мяне сябар-партызан Лёнька Хамянок. Балючка гаварыць: "Быў..." Весялун, аптыміст, жыццялюб. Усё паўтараў: "Саша, закончыцца вайна — будзем сябраваць, як і зараз". Пайшлі мы аднойчы на заданне. Хутка павінен быў прайсці варожы цягнік, а нам трэба было замініраваць рэйкі. Толькі выйшлі на чыгунку, фашысты і секанулі па нас з кулямёта. Лёньку напавал, а мне шапку збілі... Часта прыгадваю свайго баявога сябра. Ён марыў пра вернае, шчырае сяброўства. Няхай гэта будзе запаветам моладзі. Каб нашым дзецям ніколі не даваялося глядзець смерці ў вочы, каб не лавілі сваім целам варожых куль. Кожнае новае пакаленне павінна быць лепшым за папярэдняе. Жадаю маладым шчаслівых і нялёгкіх дарог, вернага сяброўства і кахання...

Радзеюць слаўныя кагорты ветэранаў. Ад інфарктаў падаюць, як ад свінцу. Па іх застаецца добрая памяць. Іх справы жывуць у жывых. І прыгадваюцца новыя радкі паэта Міколы Маляўкі з прысвячэння незабыўнаму Аляксандру Пятровічу Капусціну:

*Вечным мірам*
*мы аддзячым*
*Вам,*
*Жывым і мёртвым,*
*Кожнаму байцу —*
*За жыццё,*
*За светлых мар*
*здзяйсненне,*
*За падтрымку вашу*
*У дні трывог —*
*Людзі франтавога*
*пакалення,*
*Людзі легендарных*
*перамог.*

**Уладзімір ЛІПСКІ**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**





**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, ахоўы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2682-667





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 5853
Нумар падпісаны ў друк 18.12.1997 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 7487/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12